

Вехра
Сож
МСЦІСЛАЎ
М. Лешчанка
Перадзіна
Засожжа
Шуманічы
В. Лешчанка
Лар'янава
Кудрычы
Чырв. Горка
Каўшова
Мазалава
М. Зяціца
В. Зяціца
Астрэйкавічы
Жагалава
Калатовіна
Міцькаўшчына
Падлужжа
Людагошч
Сялец
Лабковічы
Маляцічы
Асцёр
КРЫЧАЎ
Сож

Г. ЮРЧАНКА

# Дыялектны слоўнік

(З гаворак Мсціслаўшчыны)

МІНСК 1966

Той, каму нейкім чынам патрапіць вандраваць па Мсціслаўшчыне, напэўна пачуе словы *абнаравіць, апсо́м, апо́ка, збо́йна, пуста́ць, камёлак, кабызіцца, пеклава́цца, мацая́, валхвіць, віхлёць, лацна́ць, гу́кам, га́мзіць, нажо́р, пяку́н, панаро́ўка, па́раніна, адсача́ць, раздруіцца, ро́іла, падсыкну́ць, ту́быль, трылю́да, трахтава́ць, схляснуцца, размудрэ́ць, заману́цца, шарудзіць, удзядзёць, наста́чыцца, спуціць, субы́чыцца, халайдра́, шалапу́цце, шалу́п'еццe, шка́рыда, утало́н, нехуца́вы, хлепяслівы, нехарму́зны, шарбава́ны* і цэлы шэраг іншых, якіх няма ў беларускай літаратурнай мове.

Значэнне гэтых (і не толькі гэтых) слоў растлумачана ў слоўніку, што прапануецца ўвазе чытачоў.

*Рэдактар*
*кандыдат філалагічных навук*
*А. А. Крывіцкі*

7-1-3
М-66

## *УСТУП*

Невычэрпнае багацце народных гаворак — гэта ўдзячная крыніца папаўнення і абагачэння слоўнікавага складу літаратурнай мовы. Дыялектная лексіка з яе трапнасцю, дакладнасцю, гібкасцю, выразнасцю пераносных значэнняў — каштоўнейшы скарб нацыянальнай мовы. Іменна таму Я. Колас заклікаў уважліва вывучаць жывую мову народа. Звяртаючыся да пісьменнікаў, ён адзначаў: «Мы маем вялікі моўны запас, які незаслужана забыты намі, літаратарамі, і з поспехам ужываецца ў народзе. Значыць, перад увядзеннем кожнага новага слова, — раіў пісьменнік, — трэба добра абшарыць кішэні свае памяці, перагледзець слоўнікавыя і фальклорныя крыніцы, прыслухацца да жывой гаворкі — а можа і знойдзецца якраз тое, што неабходна, што ўжо ўжывалася і чамусьці забыта ці ўжываецца і невядома нам» [1].

Мова народа доўгі час шліфавалася, адточвалася, выпрацоўваючы найбольш яркія і адначасова канкрэтныя формы. З пакалення

[1] Якуб Колас. Збор твораў у дванаццаці тамах, т. XI. Мінск, 1964, стар. 431.

ў пакаленне перадавалася роднае слова, несучы захапленне і радасць, трывогу і хваляванне, смутак, спагаду і боль, а калі трэба — асуджэнне, пагарду і пякучую нянавісць, — перадавалася, каб, нарэшце, у здзіўляючым бляску вымоўнасці і чысціні набыць непаўторную дакладнасць і глыбіню эстэтычнага ўздзеяння. «Найвялікшае багацце народа — яго мова! — пісаў М. А. Шолахаў. — Тысячагоддзямі прымнажаюцца і вечна жывуць у словах незлічоныя скарбы чалавечай думкі і вопыту»[1]. Безумоўна, народ у душы паэт, і імкненне да прыгожага, узвышанага дазволіла яму знайсці найбольш дакладныя азначэнні ў самым шырокім сэнсе гэтага слова, таму выкарыстанне лексічнага багацця народных гаворак у далейшым развіцці і ўдасканаленні беларускай агульнанацыянальнай мовы мае першаступеннае значэнне.

У беларускай мове многа паасобных гаворак, якія ў большай або меншай ступені адрозніваюцца адна ад другой.

Трохкутнік, які ўтвораны пры ўпадзенні р. Вяхры[2] ў Сож, ва ўсходняй частцы Мсціслаўшчыны (Магілёўская вобл.), займае тэрыторыя Чырвонагорскага сельсавета. Тут, у вёсках гэтага сельсавета, на працягу амаль

---

[1] Михаил Шолохов. Собр. соч. в восьми томах, т. 8. М., 1962, стар. 476.

[2] У наш час у геаграфічных картах, у некаторых матэрыялах па гідраніміцы пад уплывам дысіміляцыйнага акання мясцовых гаворак укаранілася напісанне слова *Віхра*. Гэта няправільна. Там жа гавораць: *ля Вяхры, у Вяхру, за Вяхрой, на Вяхрэ* (у вымаўленні *ны Вяхре*). Дарэчы, у ранейшых пісьмовых матэрыялах

двух апошніх дзесяцігоддзяў збіраўся матэрыял дыялектнага слоўніка, што прапануецца ўвазе чытачоў. У слоўніку растлумачана значэнне 2170 слоў, не ўключаючы варыянтаў і форм. Але гэта невялікая частка з усяго сабранага і запісанага лексічнага матэрыялу. Калі меркаваць па такіх лічбах, можа паказацца, што ў ваколіцах Мсціслаўля гавораць на нейкай іншай мове, якая карэнным чынам адрозніваецца ад мовы беларускай, і таму зразумець жыхара Мсціслаўшчыны цяжка ці проста немагчыма.

У сапраўднасці ж гэта не так. На Мсціслаўшчыне гавораць на такой жа беларускай мове, як, скажам, у цэнтральнай частцы Беларусі, ці яе заходніх абласцях. Случакі і віцябляне, гамяльчане і кобрынцы без аніякіх цяжкасцей зразумеюць мсціслаўцаў, як і наадварот: жыхары Мсціслаўшчыны вельмі добра зразумеюць тых жа случакоў або гродзенцаў ці палачан. Аснову мсціслаўскіх гаворак складае агульнабеларуская лексіка з яе граматычнымі формамі.

Безумоўна, значная група слоў уласціва толькі даным гаворкам, і далёка не ўсе словы, што бытуюць у дыялектнай мове, могуць прэтэндаваць на месца ў мове літаратурнай. Але і гэтыя словы не адасабляюць гаворку ад мо-

---

сустракаем напісанне (рускае). *Вехра:* Живописная Россия, т. III. СПб—М., 1882, стар. 419; Энциклопедический словарь, 39, т. XX. Издатели Ф. А. Брокгауз, И. А. Ефрон. СПб, 1897, стар. 102. Тое ж сустракаем і ў савецкі час: Энциклопедический словарь. Изд. Русского библиографического института «Гранат», т. 29. М., стар. 390.

вы, а, наадварот, узбагачаюць нашу нацыянальную мову. Разам з тым у гаворках Мсціслаўшчыны бытуе шэраг слоў, якія маюць поўную падставу на пастаянную прапіску ў літаратурнай мове. На параўнальна нешырокай тэрыторыі бытуюць словы *каліць, указэ́я, джо́гі, ша́сткі, слімéнь, лабрэ́т, сябёр, склімéць, тара́ніць, ажажу́рыць, напараджа́ць, віда, вазгра́, глуты́ра, паля́ўка, кавярза́ць, жвя́нькаць, ро́іла, вы́хартавацца, хвяру́б'е, шалушы́цель, жа́біцца, ужалéць, стыка́цца, скуліндá,* але яны адразу запамінаюцца сваёй сакавітасцю, дасціпнасцю, адчувальнай дакладнасцю і выразнасцю, нават гукавым афармленнем. Слова нібы іграе, пераліваючыся ўсімі сваімі колерамі і адценнямі. І сэнс яго лёгка ўгадваецца з кантэксту. *Што ж ты хочаш — ён ужо не мацая, за дзевяты дзесятак пераваліла. За цалюхтанькі дзень не субычыўся аднаго гвазда ў вілашнік загнаць. Хадзілі ж учора на кіно; во ўжо ж айдзе жывая указэя: і на рукі становяцца, і на конях усяк выдзелываюць, і адно толькі на галаве не ходзяць*[1]. Нездарма А. М. Талстой адзначаў, што «...народная мова, алмазная мова заўжды расказвае пра жэст паўнакроўнага руху, максімальнага руху, выразнага руху»[2]. І далей падкрэсліваў: «Чаму такая добрая і мастацкая мова народнай гаворкі? Таму што ў народнай гаворцы (разрадка наша.—

---

[1] Ва ўступе тут і далей прыклады прыводзяцца ў літаратурным запісу.

[2] А. Н. Толстой. Полн. собр. соч. в пятнадцати томах, т. XIII. М., 1949, стар. 414.

*Г. Ю.*) жывуць і заўсёды дзейнічаюць законы нараджэння мовы» [1].

У мове народа адлюстраваліся яго светапогляд, яго жыццё, гісторыя. Мова народа данесла ў сабе да нашых дзён праз напластаванні стагоддзяў весткі далёкага мінулага. Актыўна бытуе на Мсціслаўшчыне слова *галдамачыць* і досыць шматлікія ўтварэнні ад яго — *прагалдамачыць, дагалдамачыцца, галдамачанне* і інш. Словы гэтага кораня зацікавяць не толькі лінгвіста, але і гісторыка.

У народзе заўсёды моцна жыў здаровы атэістычны дух, аб якім так трапна пісаў В. Р. Бялінскі. Рускі народ, адзначаў вялікі крытык, глыбока атэістычны, у яго няма і следу рэлігійнасці. Гэта цалкам адносіцца і да беларускага народа. У многія словы, якія выражаюць царкоўна-рэлігійныя паняцці, народ уклаў зусім супрацьлеглы сэнс. Не страх перад папом, царквой і самім богам выразіў народ словамі *благаславіць, маліцца, спавядацца, хрысціцца,* а прамую непавагу, кашчунства ў адносінах да «ўсявышняга» і яго зямных інстытутаў. Гэтыя словы звязваюцца з грубасцю, з лаянкай, хоць, вядома, ужываюцца і ў іх прамым сэнсе. Гэта ў аблаянага, збэшчанага мужчыны спытаюцца з іроніяй: *Паспавядаўся, каб лягчэй касілася?* ці: *благаславіўся на ноч градушчую?* А сварлівая жонка *як устала, так і пачала маліцца (чытаць мальбоны), што ў хаце не ўседзіш.* Або: *не памалёмшы, знаць, не прадыхне.* А якая-небудзь не вельмі паважаная кабета

[1] А. Н. Толстой. Полн. собр. соч., т. XIV, стар. 353.

*пераксціць мацярыком, што вушы вянуць.* Пра царкоўны звон звычайна пачуеш грубае і зняважлівае — *балабон, балабоніць, балабоненне.* Словы, якія выражаюць царкоўна-рэлігійныя паняцці, часцей за ўсё ўжываюцца іменна ў супрацьлеглым значэнні. Іх хутчэй за ўсё пачуеш у дачыненні да тых людзей, да якіх адносяцца з пагардай, непавагай. *Благаславіць, пераксціць* можа не ўсімі паважаны ў вёсцы чалавек, а пляткарка, сварлівая кабеціна. Гэта частка лексікі дае цікавы матэрыял для лектараў, прапагандыстаў, агітатараў.

У слоўніку адлюстраваны марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці гаворак Мсціслаўшчыны, усе іх асноўныя фанетычныя асаблівасці, паказаны надзвычай развітая форма- і словаўтваральная сістэма і магчымасці. У шматлікіх прыкладах адлюстроўваюцца стылявыя асаблівасці гаворак — у пабудове сказаў, ва ўжыванні слоў, іх дапасаванні, кіраванні і г. д. У мове бесперапынна дзейнічаюць словатворчыя законы, надаючы ёй магутнасць, выразнасць, прыгажосць. Народна-дыялектная мова стварыла шматлікія групы сінонімаў і дублетных слоў, якія выражаюць самыя найтанчэйшыя адценні паняццяў. Яны надаюць мове выключную эмацыянальна-вобразную афарбоўку. Жывёла, напрыклад, можа проста пабегчы, але яна можа *вýхнуць, гóцнуць, джмýхнуць, дзя́гнуць, дунýць, жáхнуць, катанýць, ламанýць, ля́снуць, матанýць, махнýць, паляцéць, паімчáцца, джмы́хнуць, панéсца, пля́хнуць, пусціцца, шарáхнуць, шáхнуць.*

Па спосабу апрацоўкі матэрыялу слоўнік з'яўляецца тлумачальна-сінанімічным. Тлума-

чэнне дыялектных слоў даецца, як правіла, шляхам падбору сінонімаў у літаратурнай мове, і толькі асобныя словы тлумачацца апісальна. Да апошніх адносяцца словы, якія ў літаратурнай мове не маюць сінонімаў ці граматычных форм.

Калі з літаратурных слоў прыводзіцца некалькі, на першае месца ставіцца тое, якое найбольш дакладна перадае сэнс дыялектнага і з'яўляецца найбольш ужывальным. Пры гэтым блізкія па значэнню сінонімы раздзяляюцца коскай, а больш далёкія — кропкай з коскай. У некаторых выпадках, калі літаратурны заменнік не зусім поўна перадае сэнс дыялектнага слова, прыводзяцца (у дужках) дадатковыя тлумачэнні.

Пры тлумачэнні дыялектных слоў-сінонімаў адсылкі даюцца на тое слова, якое ўжываецца больш шырока.

У слоўнік у абсалютнай большасці ўключаны словы, якія не зарэгістраваны ў якасці літаратурнай нормы «Беларуска-рускім слоўнікам» 1962 г. Са слоў, якія бытуюць на Мсціслаўшчыне і зарэгістраваны ў БРС, у даны слоўнік увайшлі наступныя: асобныя, найбольш характэрныя словы з паметай *абл.*, некалькі слоў з паметай *разм.*, а таксама тыя, не ўсе значэнні якіх зарэгістраваны ў БРС. У апошнім выпадку спачатку прыводзіцца агульналітаратурнае значэнне, як правіла, без прыкладаў, а пасля — тыя значэнні, якія адсутнічаюць у БРС.

Загалоўнае слова даецца ў літаратурным напісанні і ў залежнасці ад гэтага займае месца ў алфавітным парадку. А побач (у

дужках) прыводзіцца яго транскрыбіраваны запіс, апрача тых выпадкаў, калі вымаўленне і літаратурнае напісанне супадаюць. У загалоўных словах захавана адна асаблівасць вымаўлення — *й* у канцы прыметнікаў і дзеепрыметнікаў.

Ілюстрацыйны матэрыял пададзен у транскрыбіраваным, набліжаным да гучання запісу. Транскрыпцыя прынята спрошчаная, блізкая да літаратурнага пісьма. Граматычныя паметы прыводзяцца наступныя: у назоўніках адзначаецца іх род, для астатніх часцін мовы ўказваецца іх назва. Да дзеясловаў даюцца канчаткі 1-й і 2-й асобы адз. ліку або толькі 3-й асобы, калі дзеяслоў у 1-й і 2-й асобе не ўжываецца. У тых выпадках, калі пры спражэнні змяняецца аснова, асабовыя формы прыводзяцца поўнасцю. Пры дзеясловах на -іва-, -ыва- апошні элемент асновы цяперашняга часу часам заключан у дужкі: -(вы)ю, -(вы)іш. Гэта азначае, што дадзены дзеяслоў пры спражэнні можа мець розныя формы: *абнырáўлію* і *абнырáўлівыю, атмýздыю* і *атмýздывыю.*

Законачанае і незаконачанае трыванні дзеясловаў падаюцца асобнымі артыкуламі, паколькі ў некаторых выпадках іх значэнні не супадаюць, напрыклад *атмуздáць* і *атмýздываць*, і нават сустракаюцца дзеясловы, трыванне якіх мяняецца ў залежнасці ад значэння.

На Мсціслаўшчыне шырока ўжываюцца дзеясловы тыпу *гудзецца, гукнуцца, вугнявіцца, ашмуравацца* і г. д., якія не маюць адпаведных сінонімаў у літаратурнай мове. Усе

яны вызначаны як залежна-бессуб'ектныя формы ад адпаведных асабовых дзеясловаў. Такія формы абазначаюць дзеянне, якое не можа здзейсніцца само па сабе, але суб'ект яго не падразумяваецца і не ўказваецца.

Асаблівая ўвага звернута на пераноснае значэнне слоў (памета *перан.*), паколькі такое іх ужыванне для гаворак Мсціслаўшчыны надзвычай характэрнае.

Калі слова мае некалькі значэнняў, яны падаюцца пад арабскімі лічбамі ў парадку частаты іх ужывання. Амонімы даюцца як загалоўныя словы.

Прыводзяцца некаторыя найбольш характэрныя формы слоў (памяншальныя, іншы раз павелічальныя). Асобна яны не выдзяляюцца, а даюцца ў адным артыкуле з загалоўным словам і ў транскрыбіраваным запісу. Пры неабходнасці даюцца стылёва-сэнсавыя паметы (*спец., гумар., іран., асудж.* і інш.), якія ўказваюць на асаблівасці ўжывання слоў. Г выбухное выдзяляецца графічна: **г**, *г*.

Усе асноўныя фанетычныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці гаворак — у прыкладах.

Умоўныя скарачэнні прыняты агульнаўжывальныя, таму асобна спіс іх не прыводзіцца.

## А

**АБАЙЦІЦЦА** (абыйці́цца), абыйду́ся, або́йдзісься; *зак.* 1. Абысціся. *Я зыбяру́ мяшкі, ты бязь іх або́йдзісься.* 2. Каштаваць. *Сва́дзьба абыйшла́ся ў ла́днаю капе́ічку.* 3. Прывыкнуць, звыкнуцца (пра кароў). *Пе́рвый дзень, як у по́ля вы́гынюць, лі каро́ў стой дый стой, паку́ля яны́ або́йдуцца, а то мігым бо́сца пычану́ць.* 4. Уціхамірыцца (пра жывёлу). *Скот абыйшо́ўся, мо́жна і пысядзе́ць яку́ю міну́тку.*

**АБАРА́ЧЫВАННЕ** (абыра́чывыньня) *н.* Перакульванне; пераварочванне. *Каб ні тває́ абыра́чывыньня — і сало́ма б сухе́нькыя была́. Зь е́ткім абыра́чывыньнім зы два дні бяс по́сыду аста́нісься.*

**АБАРА́ЧЫВАЦЦА** (абыра́чывыцца), -(вы)юся, -(вы)ісься; *незак.* 1. Перакульвацца, пераварочвацца, абарочвацца. *Калёсы ніва́жна зьдзе́лыны: ны пываро́ці абыра́чывыюцца.* 2. Абыходзіцца. *Абыра́чыюся паку́ліцька с тріма́ карзінкымі, ды ні хвыта́іць, на́да як сыбра́цца чацьве́ртыю сплесьць.*

**АБАРА́ЧЫВАЦЬ** (абыра́чывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* Перакульваць, пераварочваць, абарочваць. *Ні стаў гырлачы́ ў се́нцых, там кот абыра́чыіць.*

**АБА́Я** *ліч.* Абодва. *Абаім дáлі прімірóўку,— стóіць: пыработылі ўсё лéта дык пыработылі.*

**АБВАЗІЦЬ,** абважý, абвóзіш; 1. *незак.* Абвозіць. *Мастóк пулумáўся, нáда ны быльшáк абвазіць.* 2. *зак. перан.* Пабіць; ударыць. *Абважý лумáчыныю — бóльшы і ні падóйдзіш к пряслу.*

**АБВЕ́ЗЦЬ** (абвéзьць), абвязý, абвязéш; *зак.* 1. Абвезці. *Абвёз ба на мост, ці такéй вузюгáн у брод перць.* 2. *перан.* Ударыць. *Усё лез і лез — дык ягó й абвязлі хырашэнька, каб знаў.*

**АБГАЛАГА́НІЦЦА** (абгылыгáніцца), -н-юся, -н-ісься; *зак. жарт.* Падстрыгчыся, абстрыгчыся (няўдала). *Айдзé ты так абгылыгáніўся?*

**АБГАЛАГА́НІЦЬ** (абгылыгáніць), -н-ю, -н-іш; *зак. жарт.* Абстрыгчы дагала. *Прізыўнікóў абгылыгáнюць, аж бліщáць.*

**АБДЗЁ́РКА** *ж.* Мука з шатраванага зерня. *Змалóў абдзёркі пудóў шэсьць.*

**АБДЗЯРА́ННЕ** (абдзірáньня) *н.* 1. Абдзіранне. 2. Гл. **абдзёрка.** *Абдзірáньня ссыпім у бóчку, а сьвіньням ніхáй у мішкáх.* 3. Шатраванне. *Ны абдзірáньня вóчырідзь быльшáя, змалóў упрóста.*

**АБЕ́ДДЗЕ** (абéдзьдзя) *н.* Поўдзень (час). *Абéдзьдзя ны дварé, а ён ляжыць. Заéхыў у абéдзьдзя.*

**АБ’Е́ДДЗЕ** (аб’éдзьдзя) *н.* Аб’едкі. *У нáшыя карóвы аб’éдзьдзя ні астаéцца.* Памянш. а б’ е д з ь д з і к а. *За ноч і аб’éдзьдзіка ні былінкі німá.*

**АБЕ́Я** *ліч.* Абедзве. *Іх абеіх ні рáзу ўмéсці ні бувáіць.*

**АБЛАТАШЫЦЬ** (аблыташыць), -ш-у́, -ш-ы́ш; *зак.* Абакрасці, абабраць, абтрэсці, абшукаць з мэтай украсці. *То́лька атвярну́ўся ны міну́тку, дык калёсы не́хта аблыташы́ў. Аблыташы́лі я́блыну пыд ра́ньня, а йгру́шу, ві́дна, яшчэ́ зь ве́чыра.*

**АБЛАЧЫ́НА** *ж.* Невялікае воблака, хмарка. *Аблачы́на січа́с пярэ́йдзіць, тады́ й паедзім.*

**АБМАХНУ́ЦЦА**, -н-у́ся, -н-е́ськя; *зак.* 1. Абмахнуцца. 2. Пралічыцца, дапусціць памылку, прамахнуцца, прагледзець. *Ка́жыцца, й глядзе́лі — і абмахну́ліся: купілі храмо́га пацьсьві́нычка.*

**АБМА́ШКА** *ж.* Пралік, памылка. *Ні с таго́ бо́ку паз у шу́лі вы́дзіўбыў — абма́шка вы́йшла.*

**АБМЁШКА** *ж.* 1. Мешанка. *Калі́ мукі́ насы́піш, тады́ й абме́шка хырыша́.* 2. Рыхтаванне мешанкі. *Дае́цца абме́шка, паку́ля нывăро́чыіш яе́ ў ша́йкых. Усю́ вясну́ с абме́шкыю вазі́ліся.*

**АБМЁШЫВАННЕ** (абме́шывыньня) *н.* Гл. **абме́шка.** *Абме́шывыньня то́лька на́ дзінь, к ве́чыру ні абме́шывылыся.*

**АБНАРАВІ́ЦЦА** (абныраві́цца), -ўл-ю́ся, -в-ісься; *зак.* Устрымацца, асцерагчыся, уступіць, стрымацца; пачакаць. *Абныраві́ся по́сьлі апіра́цыі, чаго́ зря ня еж. Каб ты абныраві́лыся — і ціха було́ б. Абныраві́сь-ка, усе́ зьбяру́цца, і бу́дзім ра́зым абе́дыць.*

**АБНАРАВІ́ЦЬ** (абныраві́ць), -ўл-ю́, -в-і́ш; *зак.* Гл. **абнараві́цца.** *Абныраві́ трошку, ня едзь: ві́дзіш, іка́я ту́ча. Абныраві́ — і сва́ркі ня бу́дзіць.*

**АБНАРА́ЎЛІВАЦЦА** (абныра́ўлівыцца), -(вы)юся, -(вы)ісься; *незак.* Устрымліваццa; асцерагацца, уступаць; стрымлівацца; чакаць. *Абныра́ўліюся, са́льныга і ў рот ні бяру́. Абныра́ўлівыйся, дзе́тухна, ні ў сваі́х жыве́ш.*

**АБНАРА́ЎЛІВАЦЬ** (абныра́ўлівыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* Гл. **абнара́ўлівацца.** *Жывіцё ра́зым — дык абныра́ўлівыйця адна́ адно́й.*

**АБНАРАЎЛЯ́ЦЦА** (абнырыўля́цца), -я́-юся, -я́-ісься; *незак.* Гл. **абнара́ўлівацца.** *Як з бальні́цы по́сьлі апіра́цыі вы́йшыў, дык тро́ху абнырыўля́ўся, ду́жа ні пыдыма́ў цяжо́лыга, а цяпе́ря ўсё дзе́лыю.*

**АБНАРАЎЛЯ́ЦЬ** (абнырыўля́ць), -я́-ю, -я́-іш; *незак.* Гл. **абнара́ўлівацца.** *Ён жа ста́ршы, табе́ на́да абнырыўля́ць.*

**АБО́РАК** (або́рык) *м.* Нізкая мясціна на полі, дзе збіраецца вада і якую не аруць. *Між або́ркыў с тра́ктырым ду́жа ні разьве́рнісься. Яко́я то́я се́на с або́рка: зь біряжко́ў тро́шку ядо́мыя, а пысярёд рязу́ха сыка́.*

**АБО́СЫЙ** *прым.* Босы. *Ня бе́гый або́сым, а то прасту́дзісься, тады́ то́лька вазі́ся с табо́ю пы дыктыра́х ды пы хвірчыла́х.*

**АБО́Я** *ліч.* Гл. **аба́я.** *Або́іх ві́дзіў ны бызá́рі: купля́лі не́шта кыла по́сыду.*

**АБРАДЖА́ННЕ** (абрі́джа́ньня) *н. часта іран.* 1. Адзяванне ў новае, святочнае. *По́сьлі бу́дзіць абріджа́ньня, бягі́ця так. Пасьпе́іця с абріджа́ньнім — і ныпііцёся, і ныска́чыціся.* 2. Уборы, убранне. *Ныспрыўля́ла абріджа́ньня — на ўвесь век хва́ціць.*

**АБРА́ДЫ** (абря́ды) *толькі мн. часта іран.* Гл. **абраджа́нне.** *Ніха́й тває́ абря́ды пыда-*

*ждўць, а йдзі ды ныкармі скаціну. Як пычанéць абрáды — дзень гатóва ад зёркыла ні тхадзіць.*

**АБРÁНІВАЦЦА** (абрáнівыцца), -(вы)іцца; *незак.* Трацiцца, губляцца (пра рэч); трацiць, губляць. *Ні нáда булó абрáнівыцца, і з нóжыкым ба быў.*

**АБРÁНІВАЦЬ** (абрáнівыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* Упускаць з рук; трацiць, губляць. *Скóлька разóў абрáнівыў вязёнкі і ныхадзіў.*

**АБРАНІЦЦА**, -н-іцца; *зак.* Згубiцца (пра рэч); згубiць. *Нéйдзі ў кустáх нóжык абраніўся, шукáў, шукáў і ні найшóў.*

**АБРАНІЦЬ**, -н-ю, -н-іш; *зак.* 1. Упусцiць, выпусцiць з рук, згубiць. *Глядзіця, а то абрóніця гырлáчык.* 2. Выранiць (слязу). *Вó табé й пляменьніца: сьлязы ні абраніла.* 3. *перан.* Сказаць, вымавiць скрозь зубы, працадзiць (слова). *За цэлый вéчыр слóва ні абрóніць.*

**АБРУЗÁННЕ** (абрюзáньня) *н. асудж.* Сон. *Ат абрюзáньня аж вóчы зыплылі.*

**АБРУЗÁЦЦА** (абрюзáцца), -á-іцца; *незак. асудж.* Зал.-бессуб'ект. ад **абрузáць.** *Усю ноч цігáўся, цяпéріцька табé абрюзáіцца.*

**АБРУЗÁЦЬ** (абрюзáць), -á-ю, -á-іш; *незак. асудж.* Спаць. *Дакўль ты абрюзáць бўдзіш? Ідзі касў кляпі.*

**АБРЭМЕННАЯ** (абрéмінныя) *ж.* Цяжарная. *Абрéмінным цяпéрь вы́гыда: вóтпускі бальшы́я. Вóсьмый раз абрéмінна.*

**АБУГÓНЯ** *ж.* Участак поля, які намячаецца ўзараць. *Зыняў шурóкую абугóню і трóшку ні дыпыхáў.*

**АБХАДЗІЦЦА** (апхадзі́цца), -дж-у́ся, -дз-ісься. 1. *незак.* Абыходзіцца. *Ні было́ карзі́н — дык апхадзіліся не́ік і адно́ю.* 2. *незак.* Гл. **абайці́цца** 2. *Ксьціны мне ні ра́зу— ні пе́рвыя, ні другея дзёшыва ні апхадзіліся.* 3. *зак.* Гл. **абайці́цца** 3, 4. *Ай, ну іх: баду́цца, паку́ліцька ні апхо́дзюцца. Ціля́ты тро́ху пабе́гылі, дый апхадзіліся.*

**АБХЛЮ́ПАНЫЙ** (апхлю́пыный) *дзеепрым.* Аплюханы, апырсканы граззю. *Вярну́ўся пыд ра́ньня апхлю́пыный пы калёні.*

**АБХЛЮ́ПАЦЦА** (апхлю́пыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *зак.* Аплюхацца, апырскацца граззю. *Апхлю́пыўся пы са́мыя ву́шы.*

**АБХЛЮ́ПАЦЬ** (апхлю́пыць), -ы-ю, -ы-іш; *зак.* Аплюхаць, апырскаць граззю. *Пыткыса́й штаны́ — апхлю́пыіш.*

**АБХЛЮ́ПЫВАЦЦА** (апхлю́пывыцца), -(вы)юся, -(вы)ісься; *незак.* Аплюхвацца, апырсквацца граззю. *Калі́ ты атву́чысься апхлю́пывыцца?*

**АБХЛЮ́ПЫВАЦЬ** (апхлю́пывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* Аплюхваць, апырскваць граззю. *Ці быў тэй дзень, каб ты ні апхлю́пывыў ні штано́ў, ні по́лыў.*

**АБЦЕРАБІ́ЦЦА** (апцірябі́цца), апцірябл́юся, апцірябі́сься і апцяре́бісься; *зак.* 1. Зал.-бессуб'ект. ад **абцерабі́ць** 1. *Апцірябілыся па́ру суко́ў.* 2. *перан. гумар.* Прыадзецца. *Пыглядзі́ка вун, апцірябі́ўся, тро́ху ны чылаве́ка стаў пахо́дж.* 3. *перан. гумар.* Пазбыцца некультурнасці ў звычках, у манерах. *Пу людзя́х пыхадзілі, дык апцірябіліся.*

**АБЦЕРАБІ́ЦЬ** (апцірябі́ць), апцірябл́ю, апцірябі́ш і апцяре́біш; *зак.* 1. Высячы хмыз-

няк вакол чаго-н., ссячы, абсячы галлё. *Пайдў апціряблю абóрычык. Аднý макýшку апцірябій.* 2. *перан. гумар.* Пазбавіць некультурнасці ў звычках, у манерах. *Людзі апцярéбюць, як пóйдзіш ат мáткі.*

**АБЦЯРЭ́БЛЕНЫЙ** (апцярéбліный) *дзеепрым.* 1. Абсечаны. *Апцярéбліныя лашчы́нка. Апцярéбліный дубóк.* 2. *перан. гумар.* Той, які пазбыўся дрэнных звычак, манер. *Нéчыга скызáць, вярнýўся са сьвéту трóху апцярéбліным.*

**АБЧЫКРЫ́ЖАНЫЙ** (апчыкры́жыный) *дзеепрым. жарт.* 1. Абрэзаны, ачышчаны. *Апчыкры́жыныя брýквіна.* 2. Абстрыжаны. *Апчыкры́жын на гóлыя калéна.*

**АБЧЫКРЫ́ЖЫВАЦЦА** (апчыкры́жывыцца), -(вы)юся, -(вы)іська; *незак. жарт.* 1. Абразацца (звычайна пра гародніну). 2. Абстрыгацца. *Хуць ты ня хóчыш апчыкры́жывыцца, ўсё рóўна апчыкры́жу.*

**АБЧЫКРЫ́ЖЫВАЦЬ** (апчыкры́жывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак. жарт.* 1. Абразаць (звычайна пра гародніну). *Апчыкры́жывыйця хрáпкі ат кычанóў.* 2. Абстрыгаць, стрыгчы. *Апчыкры́жывый сваю кучмý, нéчыга зь ёю насíцца!*

**АБЧЫКРЫ́ЖЫЦЦА** (апчыкры́жыцца), -ж-уся, -ж-ыська; *зак. жарт.* 1. Абрэзацца (звычайна пра гародніну). 2. Абстрыгчыся. *Ні апчыкры́сься, як Паўлюк, што мéсіц у шáпкі еў.*

**АБЧЫКРЫ́ЖЫЦЬ** (апчыкры́жыць), -ж-у, -ж-ыш; *зак. жарт.* 1. Абрэзаць (звычайна гародніну). *Апчыкры́жу брýквіну — і ў рот.* 2. Абстрыгчы. *Ні садзíся стры́цца: апчыкры́жыць, што шáпкі ня зьдзéніш.*

**АБШАРПАНЕЦ** (апшарпа́ніц) *м. асудж.* Абадранец. *Пірядзе́нься, ні хадзі́ апшарпа́н-цым.*

**АБШАСНУ́ЦЦА** (апшасну́цца), -н-у́ся, -н-е́сься; *зак.* Пакаўзнуцца, спатыкнуцца дзе-н., адкуль можна ўпасці. *Лезь ды аста-ро́жын будзь: ні апшасьні́ся.*

**АБША́СТЫВАЦЦА** (апша́стывыцца), -(вы)юся, -(вы)ісься; *незак.* Пакоўзвацца, спатыкацца дзе-н., адкуль можна ўпасці. *Ско́лька раз апша́стывыўся і ўсігда́ за што-не́будзь удзе́ржывыўся.*

**АБЯРНУ́ЦЦА**, -н-у́ся,-н-ісься; *зак.* 1. Абяр-нуцца, перакуліцца, перавярнуцца. *Акура́тна вязі́ се́на; абе́рнісься — хто табе́ падні́міць?* 2. Абысціся. *Бяры́ карзі́нкі, я с адно́ю абяр-ну́ся.* 3. Схадзіць, звярнуцца, паспець, спра-віцца. *Мі́гым абярну́лыся туды́ й ныза́д.*

**АГРЭСЦА** (агре́сца), агрябу́ся, агрябе́сься; *зак.* Многа ўзяць, атрымаць, мець. *Усе́ агря-блі́ся се́льта ат я́блык. Агрё́бся ад дзяце́й.*

**АДБІРА́НКА** *ж.* Разраўнаваная граблямі ношка сена, пласт, перабірыч. З адбіранак кладуць копы — 20 штук у капу. *Усігда́ так заве́дзіна: нырма́льныя адбіра́нка — пуд ве́су.* Памянш. а д б і р а́ н ы ч к а. *Надзе́лыў адбіра́-нычык — бу́дзіць прі́ко́пык.*

**АДБІРА́ЦЦА**, -а́-іцца; *незак.* 1. Адбірацца. 2. *спец.* Збівацца ў адбіранку. *Лугаво́я се́на адбіра́іцца, е́та ні сыка́ не́йкыя, што грыбля́мі ні пыцягну́ць.*

**АДБІРА́ЦЬ**, -а́-ю, -а́-іш; *незак.* 1. Адбіраць. 2. *спец.* Збіваць у адбіранку. *Сьпірва́ адбіра́ю пірібіра́нкі, а тады́ нашу́.*

**АДГА́КАЦЦА** (адга́кыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *зак.* Настукацца, нагрукацца. *Ці ты адга́кыўся?*

**АДГА́КАЦЬ** (адга́кыць), -ы-ю, -ы-іш; *зак.* 1. Адстукаць, адгрукаць. 2. Змайстраваць што-н. надзвычайнае (добрае ці дрэннае). *Адга́кыў дык адга́кыў се́нцы! Ну й адга́кылі ж вы калёсы — на лю́дзі вы́іхыць сты́дна.*

**АДДЗЯ́ЧЫЦЬ** (адзьдзя́чыць), -ч-у, -ч-ыш; *зак.* 1. Аддзякаваць. *Ты мяне́ зь бяды́ вы́ручыў, я табе́ адзьдзя́чу.* 2. *іран.* Праявіць няўдзячнасць. *Адзьдзя́чыў зы маю́ дыбрату́, не́чыга скыза́ць.* 3. *перан. іран.* Набалбатаць, налаяцца. *Адзьдзя́чыла, адзьдзя́чыла і пышла́.*

**АДДУДЫ́РАНЫЙ** (аддуды́ріный) *дзеепрым.* 1. Адтапыраны. *Ідзе́ць — кырма́ны аддуды́ріны, як та́ма пы кірьпічы́ні ляжы́ць.* 2. Адстаўлены, выцягнуты ў бок.

**АДДУДЫ́РЫЦЦА** (аддуды́ріцца), -р-іцца; *зак.* Адтапырыцца. *Руба́шка аддуды́рілыся ат ве́тру.*

**АДДУДЫ́РЫЦЬ** (аддуды́ріць), -р-ю, -р-іш; *зак.* 1. Адтапырыць. *Чым ты аддуды́ріў кырма́ны?* 2. Адставіць, выцягнуць у бок. *Аддуды́ріць руку́. Расьсе́рдзілыся, гу́бы аддуды́ріла і пышла́.*

**АДДУ́ХА** *ж.* Адпачынак; перадышка. *Рабо́тыў біз аддýхі. Аддýхі німа́. Убо́рка пычане́цца — аддýхі ня жджы.*

**АДЖЫВА́ННЕ** (аджыва́ньня) *н.* Выжыванне. *Во аджыва́ньня у ліпык: ні расту́ць, ня со́хнуць.*

**АДЖЫВА́ЦЦА,** -а́-іцца; *незак.* Гл. **аджы-**

**ва́ць.** *Яблынкі тро́ху падмёрзлі, а тады́ пычалі аджыва́цца.*

**АДЖЫВА́ЦЬ,** -а́-ю, -а́-іш; *незак.* 1. Апрытомніваць, ачуньваць. *Вадо́ю ў ліцо́ як бры́знулі, пыча́ў аджыва́ць.* 2. Выжываць (пра расліны). *Ні хаце́лі яблынкі прініма́цца ўсё ле́та, а к во́сіні ста́лі аджыва́ць.*

**АДЖЫ́ЦЦА,** аджыве́цца; *зак.* Гл. **аджы́ць** 1, 2. *Пыліжа́ў-пыліжа́ў дый аджы́ўся. Дажджы́ пашлі́, дык пасе́вы аджылі́ся.*

**АДЖЫ́ЦЬ,** аджыву́, аджыве́ш; *зак.* 1. Апрытомнець, ачуцца. 2. Выжыць (пра расліны). *На́да пыліва́ць клянкі́, то аджыву́ць.* 3. *перан.* Памерці. *Аджы́ць сваё. «Ну, як там Пятро́к?» — «Аджы́ў».*

**АДКА́ІВАЦЬ** (атка́івыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Адходжваць. *Атка́івыць вадо́ю.*

**АДКА́ІЦЬ** (атка́іць), -а́-ю, -а́-іш; *зак.* Адхадзіць. *Ра́на ю́шку зычынілі і ўгаре́лі ўсі, дык чуць атка́ілі.*

**АДКАСА́ЦЦА** (аткыса́цца), -а́-юся, -а́-іська; *зак.* 1. Адкасацца. 2. *перан.* Пазбавіцца; адчапіцца. *Аткыса́йся, не́кылі мне с табо́ю піріліва́ць с пусто́га ў паро́жнія.*

**АДКАСНУ́ЦЦА** (аткасну́цца), -н-у́ся, -н-е́ська; *зак.* Гл. **адкаса́цца** 2. *Аткасьні́ся ты, мне ні ды цябе́.*

**АДКА́СЫВАЦЦА** (атка́сывыцца), -(вы)юся, -(вы)іська; *незак.* 1. Адкасвацца. 2. *перан.* Пазбаўляцца, адчэпліваццa. *Пріста́ў і ні атка́сыіцца. Як прівіза́ўся ка мне ды ну людзя́х: по́йдзім у рісtыра́н, дык я ўжо дыва́й усяк атка́сывыцца,— а ну́ яго́.*

**АДНАЛІ́ШНІК** *м.* Аднаасобнік. *Аднлі́шнікаў у нас ужо́ німа́.*

**АДНАЛІШНІЦА** *ж.* Аднаасобніца. *Нугу-рювалыся адналішніцыю ды кылгасыў.*

**АДНАЛІШНЫЙ** *прым.* Аднаасобны. *Адналішныю, помню, у нас адна сім'я доўга была.*

**АДПАСЦІВІЦЦА** (атпасьцівіцца), *цяп. час не ўжываецца; зак.* Адпасвіцца, закончыць пасьбу (па чарзе або ўвесь год — пра пастуха). *Сяньня мы пыпасём, а заўтря вам нада будзіць атпасьцівіцца. Атпасьцівіўся — пыдряд чатыры рядоўкі ацстоіў, цяперь месіц свабодзін.* 2. Перастаць пасвіцца (пра жывёлу). *Зіма, скот ужо атпасьцівіўся.*

**АДПАСЦІВІЦЬ** (атпасьцівіць), *цяп. час не ўжываецца; зак.* Адпасвіць. *Дзень атпасьцівілі — і ладна. Я атпасьцівіў вочырідзь, і яны ніхай атпасуць.*

**АДПЕРЦЦА** (атперцца), атапруся, атапресься; *зак.* 1. Адкрыцца. 2. Адмовіцца, адрачыся, адперціся. *Атперся — знаць ні знаю і ведыць ня ведыю, што ты яму зьдзелыіш, — і ні ш чым пашлі.*

**АДПРАТАНЫЙ** (атпрятыный) *дзеепрым.* Пабіты, адлупцаваны. *Напіўся і палез біцца, ну й вярнуўся атпрятыным.*

**АДПРАТАЦЬ** (атпрятыць), -ы-ю, -ы-іш; *зак.* Пабіць, адлупцаваць. *Атпрятылі, што прістываў к усім смалою.*

**АДПУШЫЦЬ** (атпушыць), -ш-у, -ш-ыш; *зак.* Вылаяць, аблаяць. *Сам падлез, атпушылі — і стаіць, рот разінуўшы.*

**АДСАЧАЦЦА** (ацсычацца), -а-іцца; *зак.* Гл. **адсачаць.** *Ужо й на дубі кыра ацсычалыся.*

**АДСАЧАЦЬ** (ацсычаць), -а-іць; *зак.* Адстаць (пра кару дрэў вясной). *Сонца вясною*

*прігрэ́іць, кыра́ ацсыча́іць, і пашо́ў сок па дзэ́ріву.*

**АДСУКА́ЦЦА** (ацсука́цца), -а́-юся, -а́-ісься; *зак.* Гл. **адкаса́цца.** *Рука́ў ацсука́ўся і зыгрязьні́ўся увесь. Ацсука́йся ты, ліха, ат мае́ гылавы́.*

**АДТРЫВУ́ШЫЦЬ** (аттрівушыць), -ш-у, -ш-ыш; *зак.* Набіць. *За што́ ж ета цябе́ та́ма аттріву́шылі?*

**АДУ́ЖЫВАННЕ** (аду́жывыньня) *н.* Папраўка, ачуньванне. *С тваі́м аду́жывыньнім яшчэ́ ня ско́ра ўста́ніш.*

**АДУ́ЖЫВАЦЦА** (аду́жывыцца), -вы-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **аду́жываць.** *Ці ста́ла табе́ тро́ху аду́жывыцца?*

**АДУ́ЖЫВАЦЬ** (аду́жывыць), -вы-ю, -вы-іш; *незак.* Ачуньваць, здаравець; папраўляцца, ажываць (пра чалавека, жывёл, расліны). *До́ўга ліжа́ў, цяпе́рь аду́жывыіць. По́сьлі дажджу́ грячы́ха аду́жывыіць.*

**АДУ́ЖАЦЬ** (аду́жыць), -ы-ю, -ы-іш; *зак.* Ачуняць, адужэць, направіцца, ажыць (пра чалавека, жывёл, расліны). *Тро́шку аду́жыю і паеду уну́кыў глядзе́ць. Лугі́ аду́жылі.*

**АДУРАВА́ННЕ** (адурюва́ньня) *н. асудж.* Свавольства, дурыкі. *Пірі́ста́ньці-ка с адурюва́ньнім, ме́ста вам німа́!*

**АДУРАВА́ЦЦА** (адурюва́цца), -а́-іцца; *незак. асудж.* Зал.-бессуб'ект. ад **адурава́ць.** *Ці ня лу́ччы було́ б, каб вам ме́ншы адурюва́лыся?*

**АДУРАВА́ЦЬ** (адурюва́ць), -а́-ю, -а́-іш; *незак. асудж.* Сваволіць, дурэць. *Адурюва́лі-*

*адурювáлі і дыадурювáліся, што бальшýн пыскыкáў ны аднóй нагé.*

**АДХАДЗІЦЬ** (атхадзíць), -дж-ý, -дз-іш; *незак.* 1. Адыходзіць, адхадзіць. 2. Рабіцца, адбывацца, здарацца. *Што табé атхóдзіць на пéчы сядзéць.*

**АДХÁКАЦЦА** (атхáкыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *зак.* Аддыхацца. *Зымарíўся, што чуць атхáкыўся.*

**АДХЛЫ́Н** (атхлы́н) *м.* Гл. **аддýха.** *Кріклíвый дзіцёнык атхлы́ну ні дасьць.*

**АДХÓНЫЙ** (атхóный) *прым.* Пахілы, косы, адхонны. *Бéріг атхóный, мóжна лóўка спусьцíцца.*

**АЖАЖЎРЫЦЦА** (ажажýріцца), -р-юся, -р-ісься; *зак. груб.* Абапіцца. *Глядзí ні ажажýрься.*

**АЖАЖЎРЫЦЬ** (ажажýріць), -р-ю, -р-іш; *зак. груб.* Выпіць многа вады. *Ажажýріў чуць ні пуўвідрá.*

**АЙ** 1. *выкл.* Выражае боль, жаль, страх, радасць, захапленне і інш. *Ай, баюся. Ай, пусьцí. Ай, красíва.* 2. *часц.* Выражае адмаўленне. *Ай, чагó я там ня вíдзіў. Ай, ні частýй ты мянé. «Бягí-ка зывярнí скот».* — *«Ай»* (не пайду). 3. *зл.* Ці, або. *У цябé кырындáш ёсць ай німá? Ты ў мянé пóйдзіш ай узноў хлыбазíны зыхацéў?*

**АЙТ** *часц.* 1. Гл. **ай** 2. *Айт, ні пайдý.* 2. Хай (сабе). *Айт, дайдý з гóрім пыпылáм.*

**АКАНАМІСТ** (акынамíст) *м.* Гл. **аканóм.** *Калí ты стаў такéй акынамíст?*

**АКАНАМІСТКА** (акынамíстка) *ж.* Гл. **аканóмка.**

**АКАНАМІСТЫЙ** (акынамістый) *м.* Гл. **аканомный.** *К ёткыму акынамістыму ні пацстýпісься.*

**АКАНОМ** *м.* Эканомны. *Такéй ужо аканóм, што й тóлку мáла.*

**АКАНОМІЦЦА,** -мл-юся, -м-ісься; *незак.* Эканоміць, эканоміцца (да сквапнасці). *Ні аканóмся, а спраў харóшый вéчыр.*

**АКАНОМІЦЬ,** -мл-ю, -м-іш; *незак.* Гл. **аканóміцца.** *Трóшку аканóміла, пакýль пальтó купіла.*

**АКАНОМКА** *ж.* Эканомная. *Ікáя сь цябé аканóмка!*

**АКАНОМНА** *прысл.* Эканомна. *Нядзéлю жыў аканóмна.*

**АКАНОМНІК** *м.* Гл. **аканóм.** *Аканóмнікым нáда быць у мéру.*

**АКАНОМНІЦА** *ж.* Гл. **аканóмка.** *Аканóмніцыю стáла, усё бірягéць, склыдáіць.*

**АКАНОМНІЧАЦЦА** (аканóмнічыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *незак.* Гл. **аканóміцца.** *Мóжа б ты ўжо хуць раз ні аканóмнічылыся, а палю́дзку гасьцéй устрéціла?*

**АКАНОМНІЧАЦЬ** (аканóмнічыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Гл. **аканóміцца.** *Дзядьí нáшы аканóмнічылі, усё грóшы зьбірáлі.*

**АКАНОМНЫЙ** *прым.* Эканомны. *Што аканóмный — éта ня дрéнна, а тóлька ж і пірід людзьмí вычáмі ні сьвяцí.*

**АКУРАТНІЧАЦЬ** (акурáтнічыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак. часта іран.* Быць акуратным; рабіць акуратна. *Акурáтнічыіць — ажнó нéкылі ны рабóту пайцíць.*

**АКУРАЦІСТ** *м. часта іран.* Акуратны. *Айдзé ўжо такóга акурацíста найцíць?*

**АКУРАЦІСТКА** *ж. часта іран.* Акуратная. *Акурацістка — тольќа шчолыку прыцадзіць ня ўмеіць.*

**АЛЛЯНІНА** (альляніна) *ж.* Саматканае льняное палатно. *Выткыла гўбычку альляніны.* Памянш. а л ь л я н і н к а.

**АЛЛЯНЫЙ** (альляны́й) і **АЛЛЯНЭЙ** (альлянэ́й) *прым.* Ільняны. *Альліная рубашка летым хырыша.*

**АЛЬНЯНЫЙ** і **АЛЬНЯНЭЙ** *прым.* Гл. **алляны́й.** *Альняно́га пылытна́ бўдзіць гўбкі чатыры, ды яшчэ́ пасьцілкі снува́ла.*

**АНЦЕРАСАВА́ЦЦА** (анцірісува́цца), -ў-юся, -ў-ісься; *незак.* Цікавіцца. *Тваёю дзеўкыю хлопцы з нашыя дзярэўні дўжа анцірісува́ліся. Анцірісува́йся, пачо́м зірняты ны быза́рі.*

**АНЦЕРАСАВА́ЦЬ** (анцірісува́ць), -ў-ю, -ў-іш; *незак.* Цікавіць. *Мяне анцірісўіць, айдзе́ твыя́ палўчка.*

**АНЦЯРЭ́С** (анціре́с) *м.* Цікавасць. *Ста́ра — німа́ анціре́су ны вічарінкі хадзіць.*

**АНЦЯРЭ́СНА** (анціре́сна) *прысл.* 1. Цікава. *Анціре́сна пы ра́дзіву пе́лі.* 2. Дзіўна. *Анціре́сна ты гаво́ріш, як ні з на́шых краёў.*

**АНЦЯРЭ́СНЫЙ** (анціре́сный) *прым.* 1. Цікавы. *Зря ні схадзіў: анціре́сныя було́ кіно́.* 2. Дзіўны. *Анціре́сный у цябе́ знако́мый: і гаво́ріць ні пы-на́шыму, і ныдзіва́іцца не́ік ні так.*

**АПАНЕ́ЦЬ,** -е́-ю, е́-іш; *зак.* Абленавацца. *Ско́ра ён саўсім апане́іць. Ну, ты апане́ла і ўстаць ня хо́чыш.*

**АПАСТЫЛІВАННЕ** (апасты́лівыньня) *н.* Гл. **апастыля́нне.** *Біз апасты́лівыньня жыць ня мо́жыць.*

**АПАСТЫЛІВАЦЦА** (апасты́лівыцца), -вы-юся, -вы-іська; *незак.* Сварыцца, лаяцца, псаваць узаемаадносіны. *Ай, ні гывары́: сь кім—сь кім, а с Хвё́дырькым ні на́да було́ апасты́лівыцца.*

**АПАСТЫЛІЦЦА,** -л-юся, -л-іська; *зак.* Пасварыцца, палаяцца, сапсаваць узаемаадносіны. *Апасты́ліцца ш чылаве́кым нядо́ўга, а як тады́ ў во́чы яму́ глядзе́ць?*

**АПАСТЫЛЯ́ННЕ** (апыстыля́ньня) *н.* Сварка, лаянка. *Нашто́ табе́ апыстыля́ньня зь людзьмі́, жыві́ пу-сусе́дзку.*

**АПО́КА** *м.* і *ж. асудж.* Гультай, абібок, лодыр, лежабок. *Во ўдыла́ся апо́ка: і сьвет ня чуў, і лю́дзі ня відзілі.*

**АПСО́М** *прысл.* Знянацку кінуцца (пра жывёлу). *Ко́шка ны ціплё́нка кінулыся апсо́м. Сыба́ка кідыіцца апсо́м ны чылаве́ка.*

**АПУШЧЭ́НЕЦ** (апушчэ́ніц) *м. асудж.* Неахайны, нядбайны, абыякавы да сябе, да свайго знешняга выгляду; лодыр, гультай. *Пражы́ў век апушчэ́нцым.*

**АПУШЧЭ́НКА** *ж.* Гл. **апушчэ́нец.** *Пры апушчэ́нку і гывары́ць німа́ чаго́, каб у яе́ была́ чылаве́чыя а́дзе́жына.*

**АПУШЧЭ́НСТВА** *н.* Неахайнасць, нядбальства, абыякавасць; гультайства. *Ды чаго́ ўжо дайшло́ тваё апушчэ́нства — і піряд́зе́цца лень, і во́чы прамы́ць.*

**АПЯРА́ЗЫВАЦЬ** (апіря́зывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* Хвастаць, біць. *Як пычаў апіря́зывыць бізу́нчыкым!*

**АРАША́ЦЦА** (арішáцца), -á-юся, -á-ісься; *незак.* 1. Рашацца, развязвацца (пра задачу). *У мяне́ зыда́чы арішáюцца: раз-два — і гато́ва.* 2. Адважвацца, асмельвацца. *До́ўга ні арішáўся жаніцца, усё выбірáў, пірібірáў, каб па ўку́су.* 3. Гінуць, знішчацца. *Ці лёгка було́ глядзе́ць, як усё арішáіцца, гаріць.* 4. Вар'яцець.

**АРАША́ЦЬ** (арішáць), -á-ю, -á-іш; *незак.* 1. Рашаць, развязваць. *Арішáю-арішáю — і нічо́га ні выхо́дзіць.* 2. Знішчаць. *Ку́ры кáжныю вясну́ арішáюць гра́ды.*

**АРАШЫ́ЦЦА** (арішы́цца і аряшы́цца), -ш-у́ся, -ш-ы́сься і -ш-ысь-ся; *зак.* 1. Рашыцца, развязацца (пра задачу). *То́лька сеў—і зыдáча арішы́лыся.* 2. Адважыцца, асмеліцца. *Арішу́ся паéхыць аднá: даéду зь людзьмí.* 3. Загінуць, знішчыцца. *Прібéглі — усё аряшы́лыся, адны́ гылавéшычкі тлéюць. Зы час усяго́ арішы́ўся.* 4. Звар'яцець. *Арішы́лыся вумá з го́ря.*

**АРАШЫ́ЦЬ** (арішы́ць і аряшы́ць), -ш-у́, -ш-ы́ш і -ш-ыш; *зак.* 1. Рашыць, развязаць. *Ці мы ўдваíх ні арішы́м?* 2. Знішчыць. *Глядзí, каб сьвíньні ня вы́рвыліся: арішуць бу́льбу. Не́мцы майго́ зыбрáлі, пыгнáлі і не́йдзі арішы́лі. Паліцэ́йскія раз наéхылі і арішы́лі ўсё хызя́йства.*

**АРЦЕ́ЛЬНЫЙ** *прым.* Кампанейскі. *Пріíжджáлі нідáўна з маíм тывáрышы — во́ арцéльныя хло́пцы.*

**АСЕ́ЎКА** *ж.* Высеўка. *Мукá нічо́га памéліна, асéвык пасьцí німá. Пыдмялí ўсё чы́ста, ні асéўкі ні астáлыся.*

**АСКРО́ТАК** (аскрётык) *м. звычайна мн.:* аскрёткі. Дробныя трэскі, якія вылятаюць з-пад сякеры. *С аскрёткымі мо́жна ско́ра бяз во́ка аста́цца.*

**АТВЕ́ДАЦЦА** (атве́дыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *зак.* Гл. **атве́даць.** *К бра́ту атве́дылыся, калі-не́будзь і к сястрэ́ пыцскачу́.*

**АТВЕ́ДАЦЬ** (атве́дыць), -ы-ю, -ы-іш; *зак.* Наведаць, даведацца. *На́да було́ б схадзі́ць атве́дыць.*

**АТВЕ́ДКІ** *толькі мн.* Наведванне (хворага, парадзіхі і г. д.). *У атве́дкі з го́лымі рука́мі ня по́йдзіш.*

**АТ'Е́ТУЛІЦЬКА** *прысл.* Гл. **ат'е́туль.** *То́лька што паёхылі ат'е́туліцька.*

**АТ'Е́ТУЛЬ** і **АТ'Е́ТУЛЯ** *прысл.* Адгэтуль, адсюль. *Ат'е́туль у лес німа́ даро́гі.*

**АТЛА́НДЗЕР** (атла́ндзір) *звычайна м., часам ж.* Бестурботны; лежабок; гультай. *Атла́ндзіру каб то́лька вы́ліжыцца, ні пра што ня ду́мыіць.*

**АТЛІГНУ́ЦЬ,** -н-е́ць; *зак.* Адлегчы, адпусціць (пра боль, пра мароз). *Усю́ ноч не́шта пыткаці́лыся пад гру́дзі і му́чыла, а к ра́ньню атлігну́ла.*

**АТМУ́ЗДА́НЫЙ** (атму́здыный і атмузда́ный) I *дзеепрым.* Раскілзаны. *Чаго́ у́ цябе́ ко́ні ні атму́здыны?*

**АТМУЗДА́НЫЙ** II *дзеепрым. перан.* Адлупцаваны. *Дажджэ́сься, што по́йдзіш атмузда́ный.*

**АТМУЗДА́ЦЦА,** -а́-іцца; *зак.* Раскілзацца. *Ка́жыцца, но́выя абро́ць, а кабы́ла сыма́ атмузда́лыся.*

**АТМУЗДАЦЬ**, -á-ю, -á-іш; *зак.* 1. Раскілзаць. *Атмуздáй — ніхáй пускубéць.* 2. *перан.* Моцна адлупцаваць. *Атмуздáю абрóццю — дык бýдзіш пóмніць дóўга.*

**АТМУЗДЫВАННЕ** (атмýздывыньня) *н.* Раскілзванне. *У цябé атмýздывыньня — як ні рáзу к каню ні пытхадзіў.*

**АТМУЗДЫВАЦЦА** (атмýздывыцца), -(вы)іцца; *незак.* Раскілзвацца. *Тр-р-р, ціха, атучý атмýздывыцца.*

**АТМУЗДЫВАЦЬ** (атмýздывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* Раскілзваць. *Ніхтó ні атмýздывыў — і конь атмуздáный.*

**АТÓПАК** (атóпык) *м. уст.* Зношаны лапаць. *Бувáла, прахóдзіш усю зімý ў атóпках. Жылі калі-то — атóпкі з ног звáлівыліся.*

**АТÓРА** (атóря) *ж.* Амецце. *Нымялі кýчу атóрі, ні знáю, кудь́і зь ёю і дзівáцца.*

**АТÓРВА** *м.* і *ж. груб.* Лежабок; гультай. *С атóрвыю жыць — тóлька гурювáць.* Узмацн. а т ó р ь в і н а. *Ляжы́ць кусóк атóрьвіны і ні пасýніцца.*

**АТРÁХА** (атряха) *м.* і *ж. асудж.* Нядбайны, неахайны. *Ны атряху што ні надзéнь — зы адзін дзень збузýіць, хуць вы́кінь.* Узмацн. а т р я ш ы н а. *Як жа ты атряшынью такóю жывéш,— у цябé ж і сéнцы нéбым накры́ты, і ў клéці вéцір цірязь дзірькі хызяйнічыіць.*

**АТРÓСТАК** (атрóстык) *м.* Парастак, атожылак. *Глянь-ка, якéя атрóсткі за лéта вы́рысьлі!*

**АТТУЛІЦЬКА** *прысл.* Гл. **аттýля.** *Падáй аттýліцька, с пóгріба, кóльля.*

**АТТУ́ЛЬ** і **АТТУ́ЛЯ** *прысл.* Адтуль. *Вярнўўся аттўля, с плёну, біз здарóўя.*

**АТУСЮ́ЛІЦЬКА** і **АТУСЮ́ЛІЧКА** *прысл.* Гл. **атусю́ль.** *Атусю́ліцька пывымывáла. Атусю́лічка прішлí ны тáнцы.*

**АТУСЮ́ЛЬ** і **АТУСЮ́ЛЯ** *прысл.* Адусюль. *Атусю́ль былí ны бызáрі, тóлька с Каўшóва ні булó віднa нікóга.*

**АЎСЯ́ННЕ** (аўся́ньня) *н.* Аўсянішча. *Зы аўся́ньнім пычынáіцца гряцкóўя.*

**АЎЧА́РНІК** *м.* Аўчарня. *Аўцáм зімá ні стрáшна: у аўчáрніку цёпла.*

**АХО́ТА** *ж.* 1. Паляванне. 2. Ахвота. *Нéшта ясí біз ахóты, як ніжывэ́й.* Памянш. **а х ó т ы ч к а.** *Ахóтычка табé цігáцца ўсю ноч.*

**АЦІ́РА** *ж.* Дробна пацёртае сена. *Зьмёў аціру ў вўгыл, каб дўжа ні мякла.*

**АЦІРА́ННЕ** (ацірáньня) *н.* 1. Утварэнне аціры. 2. Гл. **ацíра.** *Пыдывáй астарóжна, каб ацірáньня мéншы, а то сéна пірясóхла саўсім.*

**АЦІРА́ЦЦА,** -á-юся, -á-ісься; *незак.* 1. Церціся (пра сена, калоссе і г. д.). *Жы́та вы́сыхла — ні даткнўцца, зрáзу ацірáіцца.* 2. *перан. неадабр.* Таўчыся, круціцца. *Ні ацірáйся бяс тóлку, ідзí мылацíць.*

**АЦІРА́ЦЬ,** -á-ю, -á-іш; *незак.* Церці насеннікі буракоў, морквы; малаціць проса. *Прóсу ні ацірáлі, склáлі ны пылáтку і накры́лі.*

**АЧЫНА́ЦЦА,** -á-юся, -á-ісься; *незак.* Трапляць, пападаць. *Чагó табé булó ачынáцца ў Віхря́ных?*

**АЧЫНУ́ЦЦА,** -н-ўся, -н-éсься; *зак.* Трапіць, папасці, апынуцца. *Ішлá ны свáдзьбу, а ачынўлася ны хрісьцíных.*

**АШМУРАВАННЕ** (ашмурюваньня) *н.* Свавольства, дурыкі. *Ці ні пыра, дзёці, успакоіцца с ашмурюваньнім?*

**АШМУРАВАЦЦА** (ашмурювацца), -а-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **ашмураваць.** *Чаго табе сяньня ашмурюваіцца?*

**АШМУРАВАЦЬ** (ашмурюваць), -а-ю, -а-іш *незак.* Сваволіць; дурэць; жартаваць; прыкідвацца кім-н. *Ашмурювалі, пакуль у сажылку ўляцелі. Ні ашмурювай, аддай дзіцёнку шапку.*

**АШМУРЭЦЬ** (ашмурець), -е-ю, -е-іш; *зак.* Ачмурэць, з'ехаць з глузду. *Ці ты ашмурэў спаць увесь дзень?*

**АШЫБНУЦЦА,** -н-уся, -н-ёсься; *зак.* Памыліцца. *Кажыцца, правільна шчытаў, а нейдзі ашыбнуўся.*

## Б

**БАБІЦЦА,** -бл-юся, -б-ісься; *незак.* 1. *уст.* Спавівацца. 2. *неадабр.* Цацкацца, насіцца. *Столька тае скулкі, а бабіцца зь ёю, як німаведыма ш чым.* 3. Кешкацца, марудзіць. *Ні бабся, скарэй выідзім.* 4. *неадабр.* Занепадаць, апускацца (пра дзяўчыну, маладую жанчыну). *Ці табе ўжо з мыладых гадоў і бабіцца, як старухі?*

**БАБІЦЬ,** -бл-ю, -б-іш; *незак.* 1. *уст.* Спавіваць. *Калі-то бабілі, а ўжо цяпёря айдзе тую бабку найдзіш.* 2. *неадабр.* Гл. **бабіцца** 2. *Дужа ты ўжо бабіш свой паліц.*

**БАБЧАННЕ** (бабчыньня) *н.* 1. Порканне, маруджанне. *Біз бабчыньня шагу ня можыць*

*ступіць.* 2. Скручванне вяроўкі. 3. Спавіванне. *Кынчáй бáбчыньня, ніхáй сьпіць.* 4. Песты. *Бáбчыньнім збáлывылі дзіцёнка.*

**БÁБЧЫЦЦА,** -ч-уся, -ч-ысься; *незак.* 1. Кешкацца, поркацца, марудзіць, павольна рабіць што-н. *Ні бáбчыся, а то ждаць нéкылі.* 2. Скручвацца (пра вяроўку). *Мóкрыя супóня бáбчыцца.* 3. Песціцца (з дзіцем). *Ні бáбчыся, а нясі ў тáзік ды мый.*

**БÁБЧЫЦЬ,** -ч-у, -ч-ыш; *незак.* 1. Гл. **бáбчыцца** 1. *Ні бáбчы віріцянó, а змáтывый скарéй.* 2. Песціць. *Бáбчыла — і дыбáбчылыся: чуць нос ні рысквáсіла.*

**БАБЎХ** *выклічнікава-дзеяслоўная форма.* Выражае нечаканасць. 1. Кінуць, скінуць, выкінуць, перакінуць; наліць, выліць, насыпаць, высыпаць нечакана. *Нёс-нёс жардзіны, дый бабýх пысярёд дарóгі. Прóсу бабýх у нóчвы, а там выдá.* 2. Упасці, паваліцца; зваліцца. *Лез зы гняздóм, а сук тресь — і ён бабýх.* 3. Ударыць нечакана. *Ён ішóў, а ямý бабýх у плёчы.* 4. Зайсці нечакана. *Ні ждáла, ні гыдáла, а тут — бабýх гóсьці.* 5. Даць, атрымаць нечакана. *Урáньні бабýх — грóшы пыштáрь прінёс: дычкá пріслáла.* 6. *перан.* Сказаць нечакана, неабдумана. *Муўчáў-муўчáў, а тады́ бабýх такóя, што й раты́ пырызіўлялі.*

**БАБЎХАЦЦА** (бабýхыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *незак.* 1. Падаць; звальвацца ад-куль-н. *Скóлька раз ён зá дзінь бабýхыіцца — ні пірішчытáць.* 2. Кідацца або падаць у ваду. 3. З шумам выліваццa (пра ваду). 4. Пляскацца. *Бабýхыюцца ў вадзé дзéці аж да цёмныга.* 5. З шумам барукацца, шавяліцца, вару-

шыцца. *Бабу́хыюцца, аж стог хыдаро́м хо́дзіць, як ні рызва́ліцца.*

**БАБУ́ХАЦЬ** (бабу́хыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* 1. Звальваць, скідваць што-н. або звальвацца самому адкуль-н., падаць. *Бабу́хыіць снапы́ са сто́га.* 2. З шумам наліваць або выліваць ваду. *Ні бабу́хый так, лі паціху і аку-ра́тна.* 3. Пляскацца ў час купання. 4. Наліваць ежы (зашмат, лішне). *Бабу́хыіш ты мне ны чыцьвяры́х.* 5. Накладваць празмерна (воз, капу, стог і г. д.). *Бабу́хыюць вазы́, што ні паве́зьць.* 6. Капаць празмерна (яму, пограб і г. д.). *Нашто́ ты бабу́хыіш е́ткую я́мішчу?* 7. Убіваць, забіваць (кол, клін, палю). *Бабу́хыў па ко́лу абухо́м і разьбі́ў уве́сь верьх.* 8. Данасіцца, раздавацца (пра гук выбуху). *Ды са́мыга ра́ньня бабу́хылі кылы мыста́ — лёд ырва́лі.* 9. *іран.* Біць у званы. *Бабу́хый, дажджэ́сься, чорт к табе́ по́йдзіць.*

**БАБУ́ХНУЦЦА,** -н-уся, -н-ісься; *зак.* 1. Паваліцца, зваліцца. *Ка́жыцца, й ня цё́мна, а бабу́хнулыся ў я́му.* 2. Упасці, кінуцца ў ваду. *Бабу́хнуўся ў ре́чку, дык чуць вы́ліз.* 3. Плёснуцца. 4. Стукнуць, ударыцца (пра што-н.). *Воз рузгружа́лі, пень як бабу́хнуўся ў сцяну́, ажно́ шы́бы дзы́нкнулі.* 5. Зайсці нечакана. 6. Зал.-бессуб'ект. ад **бабу́хнуць** 10. *Ня ду́мыў гывары́ць — само́ бабу́хнулыся.*

**БАБУ́ХНУЦЬ,** -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Кінуць, скінуць, выкінуць, перакінуць. *Бабу́хнулі с калё́с ны зямлю́ — мяшо́к і тре́снуў.* 2. З шумам выліць ваду. *Бабу́хнула зь вядра́ ў бо́чку.* 3. Наліць ежы (зашмат, лішне). *Бабу́хнула ны траі́х, айдзе́ ж я пае́м.* 4. Плёснуць у час ку-

пання, плёснуць (пра рыбу). *Во бабу́хнула ры́біна — ве́рна, с пуд.* 5. Кінуць або ўпасці ў ваду. 6. Упасці, паваліцца; зваліцца ад-куль-н. *Ла́зіў-ла́зіў і дыла́зіўся: бабу́хнуў — аж зыікыта́ў.* 7. Данесціся, раздацца (пра гук выбуху). *Во бабу́хнулі не́йдзі — зімля́ здрігану́лыся.* 8. *іран.* Ударыць у званы. 9. Зайсці нечакана. 10. *перан.* Сказаць неабдумана. *Бабу́хнуў — і сам ні рад.* 11. Зрабіць што-н. неабдумана, нечакана. *Бабу́хнуў дро́вы ны шайку, а тады́ глядзі́ць, што надзе́лыў.*

**БАГАМАЛЕ́ННЕ** (быгымале́ньня) *н. звычайна іран.* Багамолле. *Са́мыя ўбо́рка, а яны́ ны быгымале́ньня пыцягну́ліся.*

**БАГАМАЛЕ́ННІК** (быгымале́ньнік) *м. іран.* Багамолец. *Узно́ў сыбра́ліся быгымале́ньнікі, ра́зым стыя́ць, мо́жа, дыгыва́рівыюцца і яшчэ́ снапы́ красьць.*

**БАГАМАЛЕ́ННІЦА** (быгымале́ньніца) *ж. іран.* Багамолка.

**БАГАМАЛЕ́ННЫЙ** (быгымале́нный) *прым. звычайна іран.* Багамольны. *Лю́дзі вы быгымале́нныя, каб сабе́ чаго́ ўхваці́ць.*

**БАГАМАЛЕ́НСТВА** (быгымале́нства) *н.* Гл. **багамале́нне.**

**БАДУ́ЧЫЙ** і **БАДУ́ШЧЫЙ** *прым.* Бадлівы. *Каро́ва баду́чыя, з рыга́мі так і но́сіцца, таго́ глядзі́ — сыпане́ць наскро́зь.*

**БА́ЙКАЦЬ** (ба́йкыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Гаварыць што-н. няпэўна; плявузгаць, пляткарыць. *Лю́дзі ўся́кыя ба́йкыюць. Ці ня лу́чыы б було́, каб вы ні ба́йкылі, а дзе́ла дзе́лылі.*

**БАЛАБО́Н** (былабо́н) *іран.* 1. *м.* Звон (прадмет). *Былабо́нь, былабо́нь, ско́ра тваё былабо́ны пыржа́віюць.* 2. *м.* і *ж. перан.* Бал-

батун, пустаслоў; балбатуха. *Ня слухый етыга былабона.*

**БАЛАБОНІННЕ** (былабоніньня) *н. іран.* 1. Звон (гук, працэс). *Сьціхнуў ба з былабоніньнім, — не ж, былабоніць.* 2. *перан.* Балбатня, плявузганне. *Піряслухыць яго былабоніньня — нада судкі зь нядзелю.*

**БАЛАБОНІЦЦА** (былабоніцца), -н-іцца; *незак. іран.* Зал.-бессуб'ект. ад **балабоніць.** *Ім былабонілыся цэлыя раньня.*

**БАЛАБОНІЦЬ** (былабоніць), -н-ю, -н-іш; *незак. іран.* 1. Званіць. 2. *перан.* Балбатаць, плявузгаць. *Пакуль былабонілі, і печ вытыпілыся.*

**БАЛАБОНЧЫК** (былабончык) *м.* Званок (рэч і кветка). *Нырвала пук былабончыкыў.*

**БАЛАЧЫНА** (былачына) *ж.* Гл. **аблачына.** *Кажыцца, ці пашоў ба дождж зь еткый былачыны?*

**БАЛЬКА** *ж.* Бэлька. *Пыцьцяшы бальку, дык ня будзіць круціцца ны сьцяне.*

**БАЛЬШЭЙ** *прым.* Вялікі. *Ныклалі бальшэй стог сена.*

**БАЛЬШЭННЫЙ** *прым.* Вялізны, велізарны. *Ого, якея бальшэнныя сані зьдзелыў.*

**БАНІШЧА** 1. *н.* Месца, дзе стаяла баня. *Ускыпаю пыд гряды ны банішчы.* 2. *ж.* Павеліч. ад **баня.** *Банішчу пыставіў — ну пуўдзярэўні. Будзіць табе банішча, сам будзіш дзівіцца.*

**БАНЬКА** *ж.* 1. Колца. *Банька зыкацілыся некуды, ніяк ні знайду. Зычапі вярёўку зы баньку: люльку павесім. Уся шлія ны баньких, аж блішчыць, толька мыладых везьць.* 2. *перан. іран.* Кальцо. *Усе пальцы ў бань-*

*кых,— як жа зы граблі ўзяцца.* 3. Памянш. ад **баня** 1. *Якую ня cькідыў баньку — дык усё свыя, ні пу чужых хадзіць.*

**БАНЯ** *ж.* 1. Лазня. 2. *перан.* Лупцоўка. *Глядзі, хлопіц, каб табе січас баня ні была.*

**БАЎЛЕННЕ** (баўліньня) *н.* Затрымка. *Ну што б хуць раз пріціць біз баўліньня!*

**БАХНУЦЬ,** -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Бахнуць. 2. Упасці, паваліцца; зваліцца. *Бярно пасьці што ўсьцягнулі, а яно як бахніць ызад!* 3. *перан.* Пабегчы (пра жывёлу). *Вёў-вёў, а іна вырвылыся дый бахнула ціріз пасевы, — ну, ета ж ні халерныя скаціціна,— а?*

**БАЦВІННІК** (бацьвіньнік) *м.* Бацвінне. *Ай, мае пырысяты дык бацьвіньніку ні ў рот; кініш — стопчуць, згымзяць у гной.* Памянш. б а ц ь в і н ь н і ч ы к.

**БЕЗГАЛОЎЕ** (бізгалоўя) 1. *н.* Бяда, гора, няшчасце. *Аткуліцька ета бізгалоўя ны мяне звалілыся?* 2. *м.* і *ж.* Бесталковы, узбаламучаны чалавек. *Ну й пупалыся бізгалоўя ны яе гылаву.*

**БЕРКУЛЁЗ** (біркулёз) *м.* Сухоты, туберкулёз. *Біркулёзым балеў, а глянь-ка ты, вылічыўся.*

**БІЛА** *н.* У самаробнай церніцы трохкантовая гладкавыструганая рухомая палка, пры дапамозе якой мнуць, трушчаць сцяблы пянькі, маніц. *Я ўжо ня помню, калі за біла бралыся.* Памянш. б і л ь ц а.

**БІНДЗЮГАЙЛА** (біньдзюгайла) *м.* і *ж.* Гультай, лодыр; вісус. *Біньдзюгайлу ні разу німа дзела.*

**БІНДЗЮГАЦЦА** (біньдзюгацца), -а-юся, -а-ісься; *незак.* Цягацца; лодырнічаць, ха-

дзіць без справы. *Са́мыя што касі́ць, а яны́ біндзюга́юцца.*

**БІ́РКА** *ж.* 1. Бірка. 2. *уст.* Палачка, ужытая замест гузіка. *Я як ма́лыя была́, дык гу́зікыў і ні зна́ла; бі́рку прічэ́пііш — і ла́дна.*

**БІЧАВІ́К** *м.* Паласа адчужэння. *Нашто́ кіда́ць е́ткія шуро́кія бі́чывікі́?*

**БІЧАВА́Я** (бічыва́я) *ж.* Гл. **біча́вік.** *Не́хта ськіву́ў ны бічаво́й бірьвяно́.*

**БІЧАВІ́НА** *ж.* Гл. **біча́вік.** *Даро́жнікі ны бічаві́ных ка́жныя ле́та се́на ныка́шыюць уво́лю.*

**БІЧА́Й** *м.* Бераг лужка, аборка. *Ны біча́ю касі́ць ціжале́й, чым пысярэ́д.*

**БІЧА́ЙКА** *ж.* 1. Вузкая незасеяная палоска каля палявой дарогі. *Сядзе́лі ны біча́йкі і гыманілі.* 2. Крышка дзежкі. *Купі́ла дзе́жку зь біча́йкыю.*

**БЛАГАСЛАВІ́ЦЦА** (блыгыславі́цца), -ўл-юся, в-ісься; *зак.* 1. *уст.* Благаславіцца. 2. *перан. іран.* Палаяцца; быць аблаяным. *Блыгыславі́лыся і пышла́.*

**БЛАГАСЛАВІ́ЦЬ** (блыгыславі́ць), -ўл-ю́, -в-і́ш; *зак.* 1. *уст.* Благаславіць. 2. *перан. іран.* Вылаяць, аблаяць. *Пыдажджы́, пасто́й тро́шку: іна́ і цябе́ блыгыславі́ць.*

**БЛАГАСЛАЎЛЕ́ННЕ** (блыгыслаўле́ньня) *н.* 1. *уст.* Благаславенне. 2. *перан. іран.* Лаянка. *Як уста́ла, так і пычыла́ сває́ блыгыслаўле́ньні.*

**БЛАГАСЛАЎЛЁНЫЙ** (блыгыслаўлёный) *дзеепрым.* 1. *уст.* Благаславённы. 2. *перан. іран.* Аблаяны, вылаяны. *Ці ты блыгыслаўлё-ным пріщо́ў?*

**БЛАГАСЛАЎЛЯ́ЦЦА** (блыгыслыўля́цца), -я́-юся, -я́-іісься; *незак.* 1. *уст.* Благаслаўляцца. 2. *перан. іран.* Лаяцца; выслухоўваць лаянку. *Ужо́ блыгыслыўля́ўся—мо́жна е́хыць.*

**БЛАГАСЛАЎЛЯ́ЦЬ** (блыгыслыўля́ць), -я́-ю, я́-іш; *незак.* 1. *уст.* Благаслаўляць. 2. *перан, іран.* Лаяць. *Блыгыслыўля́ла ны даро́гу.*

**БЛІ́ЖАННЕ** (блі́жыньня) *н.* Набліжэнне, прыбліжэнне.

**БЛІ́ЖЫЦЦА,** -ж-уся і -ы-юся, -ж-ысься і -ы-ісься; *незак.* Набліжацца, прыбліжацца, блізіцца. *Ту́ча блі́жыіцца ско́ра.*

**БЛІ́ЖЫЦЬ,** -ы-іць; *незак.* Набліжацца, прыбліжацца; набліжаць, прыбліжаць. *Бо́льшы вяху́ ня блі́жый, ніха́й так стаі́ць.*

**БЛІЖЭ́ЦЬ,** -э́-іць; *незак.* Гл. **блі́жыцца.** *Не́йкыя падво́да та́ма, ці іна́ ўро́дзі бліжэ́іць, ці е́та на ме́сьці стаі́ць.*

**БЛУКАНЯ́ННЕ** (блукуня́ньня) *н.* Увільванне ад працы, гультайства, блуканне. *Што́ ты сам са́бе́ ду́мыіш, адно́ блукуня́ньня ў цябе́ ну вуме́.*

**БЛУКАНЯ́ЦЦА** (блукуня́цца), -я́-юся, -я́-ісься; *незак.* Хадзіць без справы і без мэты, увільваць ад працы, блукаць. *Блукуня́іцца па ву́ліцы дзень пры́ дні́.*

**БЛУКАНЯ́ЦЬ** (блукуня́ць), -я́-ю, -я́-іш; *незак.* Гл. **блуканя́цца**. *Лю́біш ты блукуня́ць ды выле́жывыцца.*

**БО́ЛІ** *прысл.* Болей, больш, зноў, яшчэ, другі раз. *Дзьве йгру́шкі зьеў, а бо́лі німа́. Ря́бінькій пацьсьві́нычык бо́лі за бе́лыга. Налі́ бо́лі капу́сты, я ўжо міску зьеў. Бо́лі к табе́ ня по́йдзім.*

**БО́ЛІЦЬ,** -л-ю і -і-ю, -л-іш і -і-іш; *незак.*

Большаць, павялічваць; павялічвацца. *Дні бóліюць. Дзéрійца бóліць віда-віда.*

**БÓРАННЕ** (бóріньня) *н.* Баруканне, змаганне, дужанне. *Німá ўгамóну хлóпцым з бóріньнім.*

**БÓРАЦЦА** (бóріцца), -р-юся і -і-юся, -р-ісься і -і-ісься; *незак.* Барукацца, змагацца, дужацца. *Скóлька яны ня бóрюцца, а ніхтó нікóга ні зывáліць.*

**БÓРАЦЬ** (бóріць), -р-ю і -і-ю, -р-іш і -і-іш; *незак.* Барукацца. *Нéшта ты ягó бóріш-бóріш і ніяк ня збóріш.*

**БÓСЦА,** бадзéцца; *незак.* Бадацца, басціся. *Глядзі, каб карóвы ні баліся.*

**БОСЦЬ** (босьць), бадзéць; *незак.* Бадаць, басці. *Рябыя тóлька січáс былá аднагó пацьцéлычка, а ўжо гыняіцца зу другім.*

**БРÁЗКАННЕ** (брязкыньня) *н.* 1. Бразганне, бразгат. 2. *перан. асудж.* Балбатня, плявузганне, пляткарства. *Ныдаéла ўсім твaé брязкыньня.*

**БРАЗКАТНУ́ЦЬ** (брізкатнýць), -н-ý, -н-éш; *зак. асудж.* Балбатнуць. *Былі брізкатнýлі пы дзярéўні, што жэніцца, жэніцца, а ён і ў вус ня дуў жаніцца.*

**БРАЗКÓТКА** (брязкóтка) 1. *ж.* Бразготка. *Кінь брязкóтку, у вушáх зьвініць.* 2. *м.* і *ж. перан. асудж.* Пляткар, пляткарка. *Ні хачý я тýю брязкóтку слýхыць.*

**БРÁКАЦЦА** (брякыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *незак.* 1. Падаць, валіцца. 2. *перан. жарт.* Класціся спаць. *Ну, бýдзім брякыцца ны сяньнік.*

**БРÁКАЦЬ** (брякыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* 1. Бразгаць. *Брякыіць пуўкырмáна мідзякóў.* 2. Па-

даць, валіцца. 3. *жарт.* Валіць каго-н. барукаючыся. 4. *жарт.* Класціся спаць. *Ці ні пырá, дзéці, ў пасьцéль брякыць?*

**БРАКНУЦЦА** (бря́кнуцца), -н-уся, -н-ісься; *зак.* 1. Упасць, паваліцца. *Бря́кнуліся ў салóму і ліжáць.* 2. *перан. жарт.* Легчы спаць. *Пашлі, бря́кнімся ды рáньня ў сяніцы.*

**БРА́КНУЦЬ** (бря́кнуць), -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Бракнуць (у вадзе, ад вады). 2. Бразнуць. *Чы́м ты бря́кнуў?* 3. Паваліць каго-н., перамагчы барукаючыся. 4. *перан.* Сказаць не падумаўшы, ляпнуць. *Бря́кнуў, што самóму сты́дна стáла.* 5. Гл. **бра́кнуцца** 2.

**БРУ́ЗЛА** (брю́зла) *м.* і *ж.* 1. *груб.* Той, хто многа спіць. 2. *неадабр.* Распаўнелы чалавек. *Устрéціў ягó нідáўна—саўсíм брю́злыю стаў.*

**БРУ́ЗНУЦЦА** (брю́знуцца), -н-іцца; *незак. груб.* Зал.-бессуб'ект. ад **брузнуць** 1. *Скóлька б табé яшчэ́ брюзлысь?*

**БРУ́ЗНУЦЬ** (брю́знуць), -н-у, -н-іш; *незак.* 1. *груб.* Шмат спаць. *Калí ўжо табé ныдаéсць брю́знуць?* 2. *неадабр.* Таўсцець, паўнець. *Брю́зьніць бязь дзéла, у хáці сéдзічы.*

**БРУ́КВА** *ж.* Бручка. *Лéтысь бру́ква былá сыладзéйшыя, а сéліта нéшта ні так.* Памянш. бру́квычка.

**БРУ́КВІНА** *ж.* Бручка (са знач. адзінкавасці). *Вы́рвыў бру́квіну дый апчы́сьціў.*

**БРУС** *м.* 1. Брус, падстольнік. *У нас брусы́ усігдá дзéлыюць сы шпырáмі: пы вярьхý класьць нікрасіва.* 2. *перан. груб.* Лежабок. *Ляжы́ць брус, ні за штó ня хóчыць узяцца.*

**БРУСО́К** *м.* Брусок; папярочная частка грабляў. *Се́на сьпірва́ зыгрібаюць, а тады́ зьдзьвіга́юць бруска́мі.*

**БРУСЯНЕ́ННЕ** (брусяне́ньня) *н.* Успуханне. *Брусяне́ньня пашло́ пы наге́ ўверьх чуць ні ды кале́на.*

**БРУСЯНЕ́ЦЦА**, -е́-іцца; *незак.* Гл. **брусяне́ць**. *Ад зубо́ў брусяне́іцца ўся шчыка́. Ка́жыцца, мулюпа́хтычкыю ска́бычку зыгна́ла, а па́ліц брусяне́іцца.*

**БРУСЯНЕ́ЦЬ**, -е́-іць; *незак.* Успухаць. *Схадзі к до́ктыру: ладо́нь брусяне́іць, ні пылігаіць.*

**БРЫД** *м.* Чад. *Ніха́й дзьве́рі пабу́дуць аччы́ніны, паку́ль тро́ху брыд со́йдзіць.*

**БРЫ́ДКА** *прысл.* Чадна. *Ся́ньня ў ба́ні, ка́жыцца, бры́дка.*

**БРЫ́ДКІЙ** *прым.* Чадны. *Ба́ня нато́пліна здо́рыва, то́лька дух тро́ху бры́дкій.*

**БРЫЖ** *м.* Край. *Аппё́рся на брыж стыла́.*

**БРЫ́КАЦЦА** (бры́кыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *незак.* 1. Брыкацца. 2. *перан. жарт.* Гл. **бра́каць** 4. *Дзе́сіць часо́ў, пыра́ бры́кыцца.*

**БРЫ́КАЦЬ** (бры́кыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* 1. Бегаць, насіцца (пра жывёлу). *Разье́ліся ко́ні, то́лька бры́кыць.* 2. Брыкаць. 3. *перан. жарт.* Гл. **бра́каць** 4. *Мо́жа ўжо бры́кыць пыра́?*

**БРЫ́КНУЦЦА**, -н-уся, -н-ісься; *зак.* 1. Брыкнуцца. 2. Гл. **бра́кнуцца** 2. *Бры́кнуліся і сьпіця.*

**БРЫ́КНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Пабегчы, панесціся (пра жывёлу). *Бры́кнулі і пыня́сьлі́ся.* 2. Брыкнуць. 3. *перан. жарт.* Гл. **бры́кнуцца** 2. *Табе́ б то́лька бры́кнуць ны крыва́ць.*

**БРЫСЬ** *м. груб.* Здаровы, але гультаяваты чалавек. *Тако́му брысю́ касіць дый касі́ць.*

**БРЫЦЦЁ** (брыцьцё) *н.* 1. Брыццё. 2. *перан. асудж.* Лаянка, бэшчанне. *Ну й спасобныя ж ны брыцьцё, хуць січас мідаль дывай.*

**БРЫЦЬ**, -ы-ю, -ы-іш; *незак.* 1. Брыць. 2. *перан. асудж.* Лаяць, бэсціць. *Брыіць, што ні пуцступайся.*

**БУБНЕННЕ** (бубненьня) *н.* 1. Ігра на бубне. *Твае бубненьня і слухыць ня хочыцца.* 2. *неадабр.* Стуканне, бразганне. 3. *перан. асудж.* Буркатня. *Ці ні пыра б табе уняцца з бубненьнім?*

**БУБНЕЦЦА**, -н-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **бубнець**. *Як яно бубніцца, ні зымаріўся яшчэ?*

**БУБНЕЦЬ**, -н-ю, -н-іш; *незак.* 1. Барабаніць, бубніць. 2. *неадабр.* Стукаць. *Чуць ні замерз, пакуль бубнеў у дзьвері.* 3. *перан. асудж.* Бурчаць. *Пірістань бубнець.*

**БУБНУЦЬ**, -н-у, -н-еш; *зак.* Забарабаніць, ударыць у бубен, барабан. *Бубнуў і пашоў.*

**БУЙ** *м.* Халадэча з ветрам. *Ня стой ну буі, ураз прыбярець.*

**БУРБУЛЕЦЬ**, -л-іць; *незак.* Моцна кіпець. *Дыстывай чугунок, ён ажно бурбуліць.*

**БУРДЫЛЬ** *м.* Бурбалка, пухір, вадзянка. *Вун сусед абваріў сабе пальцы, дык бурдулі пы шапкі. Дождж яшчэ доўга будзіць іціць, бурдулей на лужыных многа.*

**БУРКАЛА** (буркыла) 1. *н.* Дзіцячая цацка. У вываранай костцы прабіваюць дзіркі, прадзяваюць тонкі шнурок і завязваюць. Затым шнурок накручваюць і моцна нацягваюць. Костка, раскручваючыся, утварае гук. 2. *м* і *ж. перан. асудж.* Буркун; буркуха. *Я б і дня ні жыла с такім буркылым.*

**БУТАВА́ННЕ** (бутува́ньня) *н.* Цяжкая праца. *Хваціла бутува́ньня нач шу́лым.*

**БУТАВА́ЦЦА** (бутува́цца), буту́юся, буту́ісься; *незак.* Цяжка, да знясілення працаваць. *Бутува́ліся ўдвaіх цэ́лый дзень, чуць вы́кыпылі, — ётќій бальшэ́нный пень быў.*

**БУХТО́РАННЕ** (бухто́ріньня) *н.* Наліванне праз меру, без патрэбы. *Пыдажджы́ з бухто́ріньнім, пыцякéць на мост.*

**БУХТО́РЫЦЬ** (бухто́ріць), -р-ю, -р-іш; *незак.* Наліваць шмат, праз меру, без патрэбы. *Ні бухто́рь по́ўную міску, я ні паём.*

**БУЦЯ́Н** *м.* Бусел. *Ужо́ саўсім цёпла, а яшчэ́ ні аднаго́ буціна́ ня відна.*

**БУЦЯНЁНАК** (буцянёнык) *м.* Буслянё. *Буцянёнык зваліўся зь ліпы.*

**БУЦЯНІ́ХА** *ж.* Бусліха. *Буця́н з буцяніхыю дзёлыюць гняздо́.*

**БЯГЛІ́ВЫЙ** *прым.* Той, які бегае, носіцца (звычайна пра жывёлу). *Бяглівыя каро́ва. Бяглівый цялёнык.*

**БЯГНЯ́** (бігня́) *ж.* Беганне, беганіна. *Сто́лька бягні — і ўсё бяс то́лку.*

**БЯЗЛЮ́ДДЗЕ** (бязьлю́дзьдзя) *м.* і *ж.* Някемлівы, няспрытны, бязладны. *Во́ нейкыя бязьлю́дзьдзя ўдало́ся, у лю́дзі зь ім сты́дна вы́йціць.*

**БЯЗРУ́ПАТНЫЙ** (бязру́пытный) *прым.* Бестурботны, гультаяваты, нядбалы. *Як ты бу́дзіш жы́ць такім бязру́пытным?*

**БЯЗРУ́ПАЦЦЕ** (бязру́пыцьця) 1. *н.* Гультаяванне, гультайства. *І ба́цька ні з гультаёў, і ма́тка рыбыця́шчыя, —атку́ль жа ў цябé тако́я бязру́пыцьця.* 2. *м.* і *ж.* Гл. **бязру́патный**.

**БЯЗУ́ЛА** *м.* і *ж.* Абібок, няўдаліца, гультай. *Хо́чыш, каб зь бязу́лы то́лк быў? Ні ў век ня бу́дзіць.*

**БЯЗУ́ЛІЦА** *м.* і *ж.* Гл. **бязу́ла**. *Бязу́ліцыю на све́ці ні прыжыве́ш.*

**БЯЗУ́ЛЬСТВА** *н.* Гультайства, нядбаласць, абыякавасць. *Бязу́льства ў табе́ ду́жа мно́га, а жыць хо́чыш лу́ччы ўсіх.*

**БЯНТЭ́ЖАННЕ** (бянтэ́жыньня) *н.* Пялегаванне, пешчанне. *Ад бянтэ́жыньня дзіцёнык лу́ччы ня бу́дзіць.*

**БЯНТЭ́ЖЫЦЦА**, -ж-уся, -ж-ысься; *незак.* Песціцца. *Ні бянтэ́сься, а йдзі траві́цу сыгрябі — ско́ра дождж по́йдзіць.*

**БЯНТЭ́ЖЫЦЬ**, -ж-у, -ж-ыш; *незак.* Пялегаваць, песціць; цацкацца. *Дзяце́й ме́ншы зма́лку бянтэ́ж, дык зь іх лу́ччый толк бу́дзіць.*

## В

**ВАБРАЖА́ЛА** (выбрыжа́ла) *м.* і *ж.* Задавака, ганарлівец. *Ні дружы́ла і ня бу́ду з выбрыжа́лыю дружы́ць. Чаго́ ты таке́й выбрыжа́ла, не́чым жа ду́жа зыдыва́цца.*

**ВАБРАЖЭ́ННЕ** (выбражэ́ньня) *н.* Ганарлівасць. *Сто́лька выбражэ́ньня, як у цябе́, ні ў ко́га німа́. У яго́ выбражэ́ньня, што ён не́шта не́йкыя, лу́ччы ўсіх.*

**ВАБРАЗІ́ЦЕЛЬНАСЦЬ** (выбразі́цільнысьць) *ж.* Ганарлівасць. *У яго́выбразі́цільнысьць ціразь ме́ру.*

**ВАБРАЗІ́ЦЕЛЬНЫЙ** (выбразі́цільный) *прым.* Ганарлівы. *Не́шта ты ду́жа выбразі́цільным стаў.*

**ВАГА́** (выга́) *ж.* 1. Падвага, вага. *З вагóю ла́дна пні кыпа́ць, ты біз вагі́ папрóбуй вы́вірні.* 2. *спец.* Умацаваная на сасе перакладзіна, якая служыць для даставання вады са студні. *Ні пуска́й цэ́бра: выга́ зло́міцца.*

**ВА́ГАМ** (ва́гым) *прысл.* Марудна; паволі, павольна. *Була́ныга кыня́ нічы́м ні падго́ніш, ён усігда́ ва́гым.*

**ВАДЗЕ́НЬ** *м.* Авадзень. *Такóю жа́рішчыю ў лес хуць ня едзь: вадні́ кóні заре́жуць.*

**ВА́ДЗІЦЬ**, -дз-іць і -і-іць; *незак.* Муляць, налазяць; турбаваць; калоцца. *Зы плі́ча́мі не́шта ва́дзіць. Цалю́хтынькій дзень ва́дзіць, што ні ўзяў пісьма́.*

**ВАДЗЯ́НКА** (выдзя́нка) *ж.* 1. Бочка для вады. *Вы́кыць выдзя́нку с-пат паве́ткі, ніха́й трóшку апсóхніць.* Памянш. в ы д з я́ н ы ч к а. 2. Вадзянка (хвароба).

**ВАДЗЯ́НКІ** (выдзя́нкі) *толькі мн.* Сані для падвозкі вады. *Пріцягну́ў ны выдзя́нкых здыраву́шчую калóду.*

**ВАЗАВЫ́Й** (вызавы́й) і **ВАЗАВЭ́Й** (вызавэ́й): вазавы хамут. Хамут для запрагання з дугой. *Вызавы́я хумуты́ кóжыю ўсігда́ апшыва́юцца.*

**ВАЗГО́ЛІННЕ** (вазгóліньня) *н.* Важданне, порканне. *Кіда́й вазгóліньня ды зыпрігáй.*

**ВАЗГО́ЛІЦЦА**, -л-юся, -л-ісься; *незак.* 1. Поркацца, кешкацца; важдацца (звычайна з цестападобным рэчывам). *Узду́мыла блі́ны́ печ, цяпе́рь бу́дзіш цэ́лыя ра́ньня вазгóліцца.* 2. Замазвацца, размазвацца, вымазвацца. *Не́шта ў цябе́ ні зыма́зывыіцца, а тóлька вазгóліцца.*

**ВАЗГО́ЛІЦЬ**, -л-ю, -л-іш; *незак.* Замазваць, размазваць, вымазваць. *Кіту́й во́кны, то́лька шы́бы ні вазго́ль.*

**ВАЗГО́ЛЯ** *м.* і *ж.* Маруда. *Ці с тако́ю вазго́лію ра́на вы́біріськя куды́?*

**ВАЗГРА́** (вызгря́) *м.* і *ж.* Гл. **вазго́ля**. *Вызгря́, даку́ль цябе́ ждаць мо́жна?*

**ВАЗГРО́ТЫ** (вазгрё́ты) *толькі мн.* Што-н. цестападобнае, чым залеплены пол, мэбля і г. д.; бруд. *У се́нцых зьдзе́лылі вазгрё́ты, што ні прайціць.*

**ВАКЕ́ННІЦА** (ваке́ньніца) *ж.* Аканіца. *Пыкра́сілі ваке́ньніцы — лю́ба глядзе́ць ста́ла.*

**ВАЛАЧЫ́ЦЦА** (вылачы́цца), -ч-у́ся, -ч-ысься; *незак.* 1. Цягацца. *Відзіў зда́ліку: вылачы́ўся пы быза́ру.* 2. *спец.* Баранавацца (пра поле, засеянае ўручную). *Камлы́жык ма́ла, мя́кка вало́чыцца.* 3. *спец.* Часацца (пра воўну). *Яшчэ́ ні вылачы́лыся во́ўна, зваліо́чыцца пазьне́й.*

**ВАЛАЧЫ́ЦЬ** (вылачы́ць), -ч-у́, -ч-ыш; *незак.* 1. Цягаць. 2. *спец.* Баранаваць засеянае ўручную поле. *Хырашо́ се́іць се́ілкыю: вылачы́ць ні на́да.* 3. *спец.* Часаць воўну. *Ці чу́лі: ці вало́чуць е́та ў Лідаго́шчы?*

**ВАЛАЧЭ́ННЕ** (вылачэ́ньня) *н.* 1. Цяганіна, валакіта. *Ху́жы німа́ вылачэ́ньня пу суда́х.* 2. *спец.* Баранаванне засеянага поля. *По́сьлі твайго́ вылачэ́ньня узно́ў на́да ко́ні пысыла́ць.* 3. *спец.* Часанне воўны. *Вылачэ́ньня дае́цца ў ко́сьці, паку́ль піракру́ціш усё.*

**ВАЛЁК** *м.* Ворчык (пры плузе, баране і ў прыпрэжцы). *Валёк злума́ўся, на́да но́вый зьдзе́лыць.*

**ВАЛО́Ч**, вылаку́, вылаке́ш; *незак.* Валачы, несці цяжар. *На плёчы пыдняць ня мог, дык валок волыкым. Ну й здаро́вые ж вы но́шкі вылычыцё.*

**ВАЛО́ЧАНЫЙ** (вало́чыный) *дзеепрым.* 1. *спец.* Баранаваны. *Авёс зывало́чын, а ячме́нь ячшэ ні вало́чын.* 2. *спец.* Часаны (пра воўну). *Вало́чына ячшэ ле́тысь.*

**ВАЛХВІ́ЦЬ**, -в-і́ш; *незак.* Пялегаваць, песціць; цацкацца. *Чым дзяцей бо́льшы валхві́ш, тым то́лку зь іх ме́ншы. Чуць цыра́пнуў тэй па́ліц, а бу́дзіць паўго́да валхві́ць.*

**ВАЛЯНУ́ЦЬ** (вылянуць), -н-у́, -н-е́ш; *зак.* 1. Пайсці густа, камякамі (пра снег). *Вылянуў, што ціряз ву́ліцу нічо́га ня ві́дна.* 2. *перан.* Ударыць (моцна). *Вылянуў, што бу́дзіць по́мніць.*

**ВАПЕ́Р** (вапе́рь) *м.* Кормны парсюк, вяпрук. *Забілі выпря́ к Но́выму го́ду.*

**ВАПРУ́К** (вапрю́к) *м.* Парсюк, вяпрук (некалькі меншы, чым вапер). *Пірярыў вапрю́к усю пу́ньку.* Памянш. в у п р ю ч о́ к. *Пыдгаду́ю вупрючка́ — во й са́ла.*

**ВАРАЖЭ́Й** (выражэ́й) *м.* *часта іран.* 1. Варажбіт. *Ты ўгыдаіш, выражбі́т найшо́ўся.* 2. *звычайна іран.* Той, каму варожаць. *Ну, што́ ж табе́, выражэ́й, вы́йшла ны ка́ртых?*

**ВАРАЖЭ́ЙКА** (выражэ́йка) *ж.* 1. *часта іран.* Варажбітка. 2. *звычайна іран.* Тая, якой варожаць. *Дзёлыць вам не́чыга, выражэ́йкі ўзяліся.*

**ВАРАЖЭ́ННЕ** (выражэ́ньня) *н.* *часта іран.* Варажба. *Мінулыся выражэ́ньня, — хто яму́ цяпе́рыцька паве́ріць.*

**ВАРЭ́ННІК** (варе́ньнік) *м.* 1. Варэнік. *Нылікла́ к пра́зьніку варе́ньнікыў.* 2. *гумар.* Той, хто

ва́рыць (звычайна няўмела). *Ці ско́ра, варе́ньнік, нас нако́рміш?*

**ВАРЭННІЦА** (варе́ньніца) *ж.* 1. Посуд для варэння. *Мы́ла варе́ньніцу ды шкля́нык.* 2. *гумар.* Тая, хто варыць (звычайна няўмела). *С тако́ю варе́ньніцыю бізь яды́ аста́нісься.*

**ВА́РЫВА** (ва́ріва) *н.* 1. Боршч. *Быракоў нызыпа́сіла, усю зіму́ бу́ду з ва́рівым.* 2. Варэнне (працэс). *До́ўгыя ва́ріва. Ско́рыя ва́ріва, ды ма́лый нае́д.*

**ВА́ТНІКІ** *толькі мн.* Ватовыя штаны. *У ва́тнікых ніякій маро́з ні стра́шный.*

**ВЕ́ДАМНЫЙ** (ве́дымный) *прым.* Вядомы, надзейны. *У ве́дымныга чылаве́ка купіў це́лку.*

**ВЕ́РЗЦА**, вярзе́цца; *незак.* Плесціся, вярзціся; сніцца. *Усю ноч ве́рзлыся не́йкыя лухта́.*

**ВЕРЗЦЬ** (верзьць), вярзу́, вярзе́ш; *незак.* Плесці, вярзці; плявузгаць. *Вірьзіце́, са́мі ні зна́іця што.*

**ВЕРЗЯ́Й** (вірзія́). 1. *ж.* Хлусня, лухта, бязглуздзіца. *Ацста́нь зь вірзяе́ю.* 2. *м.* і *ж.* Хлус, пляткар, пляткарка. *Ня слу́хый е́тыга вірзяю — ні піряслу́хыіш.*

**ВЕ́РХНІЦА** *ж.* Верхняя кашуля. *Купіў сабе́ зімнію ве́рхніцу.* Памянш. в е́ р х н і ч к а. *Каўне́рь у ве́рхнічкі саўсім ацскачыў.*

**ВЕТАШО́К** (віташо́к) *м.* Серп месяца, ветах. *Ноч це́мныя, вітышка́ й таго́ німа́.*

**ВЕ́ТРАННАСЦЬ** (ве́трінныськ) *ж.* Легкадумнасць. *Ве́трінысьці ў цябе́ дык ціріс край.*

**ВЕ́ТРАННЕ** (ве́тріньня) *н.* Веянне на ветры. *Як жа ты ве́тріў, што по́сьлі твайго́ ве́тріньня на́да піряве́трівыць.*

**ВЕ́ТРАННІК** (ве́трі́ньнік) *м.* 1. Той, хто ветрыць. *Ве́тріньнікі зыпыліліся, адны́ во́чы блішча́ць.* 2. Легкадумны. *І на́да ж быць такім ве́тріньнікым.*

**ВЕ́ТРАННІЦА** (ве́тріньніца) *ж.* 1. Тая, што ветрыць. 2. Легкадумная. *Ве́тріньніца што хо́чыш зьдзе́лыіць.*

**ВЕ́ТРАННЫЙ** (ве́трінный) *прым.* 1. Ветраны. *Уся́ нядзе́ля ве́трінныя.* 2. Легкадумны. *Ці ві́дзіў сьвет тако́га ве́трінныга чылаве́ка?*

**ВЕ́ТРАНЫЙ** (ве́тріный) *дзеепрым.* Правеяны на ветры. *У адно́й ку́чы ве́тріный ячме́нь, а яшчэ́ быльша́я ку́ча ня ве́тріныга.*

**ВЕ́ТРЫЦЦА** (ве́тріцца), -р-іцца; *незак.* Веяцца на ветры. *Ве́трі ў се́нцых: ны сквызьняку́ хырашо́ бу́дзіць ве́тріцца.*

**ВЕ́ТРЫЦЬ** (ве́тріць), -р-ю, -р-іш; *незак.* Веяць на ветры. *Да бе́да ве́трілі кано́плі, а тады́ пашлі́ ны сало́му—склыда́ць.*

**ВЕ́ЦЦЕ** (ве́цьця) *н.* Галлё з лісцем. *Лёг ны бярёзывыя ве́цьця дый засну́ў.*

**ВІ́ДА** *прысл.* Хутка. *Ат мылыка́ пырыся́ты ві́да-ві́да і пыпрыўля́юцца, і расту́ць.*

**ВІЛЬГО́ТА** *ж.* Прыволле, раздолле. *Як усё сажну́ць, тады́ скату́ вільго́та.*

**ВІЛЬГО́ТНА** *прысл.* Прывольна, вольна; бесклапотна. *У дзе́ўкых вільго́тна пыжыла́.*

**ВІЛЬГО́ТНЫЙ** *прым.* Прывольны, вольны; бесклапотны. *Табе́ то не́чыга бо́гу гряшы́ць, жы́зьня ў цябе́ вільго́тныя.*

**ВІЛЬГО́ТЫВАЦЦА** (вільго́тывыцца), -(вы)-іцца; *незак.* Гл. **вільго́тываць**. *І ра́ншы табе́ вільго́тывылыся, і цяпе́рь вільго́тыіцца.*

**ВІЛЬГО́ТЫВАЦЬ** (вільго́тывыць), -(вы) ю, -(вы) іш; *незак.* Жыць прывольна, раскошна. *Зы ба́цькым мо́жна вільго́тывыць.*

**ВІРЫДУВА́ННЕ** (вірідува́ньня) *н.* Шаленства, дзікунства, самаўпраўства. *Сто́лька ў́жо было́ вірідува́ньня у нямецкыга ста́рысты, што бязь ме́ры.*

**ВІРЫДУВА́ЦЦА** (вірідува́цца), вірядуіцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **вірыдува́ць.** *Пыліцэйскім вірідува́лыся прі не́мцых уво́лю, чуць ні ны людзя́х е́зьдзілі.*

**ВІРЫДУВА́ЦЬ** (вірідува́ць), вірядую, вірядуіш; *незак.* Шалець, здзекавацца, самаўпраўнічаць. *Ну людзя́х ні чылаве́к, а са́хыр, а ў дваре́ віряду́іць, што ў́се ны па́льчыкых хо́дзюць.*

**ВІХЛЕ́ЦЬ**, -л-ю́, -л-і́ш; *незак.* Прагнуць. *Зьбяру́цца і віхля́ць, каб ім то я́блыка, то мо́рквіну то́рнуў.*

**ВО́Б'ЕДДЗЕ** (во́б'ідзьдзя) *н.* Гл. **аб'е́ддзе**. *Вазьмі во́б'ідзьдзя і ўкінь аўца́м: яны́ бу́дуць паро́цца.* Памянш. в о́ б' і д з ь д з і к а.

**ВО́БЛІЎ** *м.* Лёд, якім пры галалёдзіцы пакрываюцца дрэвы; галалёдзіца. *Е́ткую бярёзу во́блівым аблума́ла!*

**ВО́БЛІЎКІ** *толькі мн.* Гл. **во́бліў**. *Стрясі паціхіньку во́бліўкі зь я́блынык, а то су́чча пулума́іцца.*

**ВО́БЛІЎЯ** *н.* Гл. **во́бліў**. *Пашло́ не́йкыя во́бліўя, за́ўтря бу́дзіць ні стаць, ня ўсто́іць.*

**ВО́БУЎ** *м.* і *ж.* Абутак. *Ле́тым бысяко́м лу́ччы, чым у во́буві. Зімніга во́буву яшчэ ні купля́ў.*

**ВО́БУЎЯ** *н.* Гл. **во́буў**. *Ні кіда́й во́буўя айдзе зря́.*

**ВО́ГІР** (во́гірь) *м.* Зух, хват, хлюст, задавака. *Надзе́ў но́вый пінжа́к і хо́дзіць во́гірім — любу́йціся ны яго́.*

**ВО́ГІРКА** (во́гірька) *ж.* Гл. **во́гір**. *Айдзе́ ж таку́ю во́гірьку хто й відзі́ў!*

**ВО́ДСЕЎ** (во́цьсіў) *м.* 1. Адсяванне. *Во́цьсіў хуць по́зный быў, а ўда́ўся.* 2. *спец.* Поле, з якога зняты яравыя і па якому адразу сеюцца азімыя. *Пасе́ілі жы́та па во́цьсіву.*

**ВО́ЖКА** *ж.* Лейчына. *Прікруці́ кабы́лу во́жкыю.*

**ВО́ЛЯ** I *ж.* Воля, свабода. *Глядзі́, ма́ліц, ду́жа мно́га ты сабе́ во́лі ўзяў.*

**ВО́ЛЯ** II *ж.* Валлё, валляк. *Ку́ріца во́лю набі́ла як ка́мінь.*

**ВО́МАЛЬ** (во́мыль) *прысл.* Мала, малавата. *Забы́ла рышчыні́ць, а хле́ба саўсі́м во́мыль.*

**ВО́ПАЎЗЕНЬ** (во́пыўзінь) *н.* Апоўзень. *Во́пыўзьні пашлі́ пы гыра́х* (па схілах равоў).

**ВО́ЧЧЫМ** *м.* Айчым. *Глядзі́ць чужы́х дзяце́й, як сваі́х, — во́ табе́ й во́ччым!*

**ВУГНЯ́ВАСЦЬ** (вугня́высьць) *ж.* Гугнявасць. *У дзе́цтві тро́шку была́ вугня́высьць у сы́на, а пазьне́й прышла́.*

**ВУГНЯ́ВІННЕ** (вугня́віньня) *н.* Гл. **вугня́васць**. *Ду́мыў, як пыдрасьце́ць, дык вугня́віньня про́йдзіць, аж не́шта ні прахо́дзіць.*

**ВУГНЯ́ВІЦЦА**, -в-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **вугня́віць**. *Як спако́йна гаво́ріць, дык нічо́га, а як пычына́іць вулнува́цца, тады́ ў яго́ тро́шку вугня́віцца.*

**ВУГНЯ́ВІЦЬ**, -ўл-ю, -в-іш; *незак.* Гаварыць гугнява. *Вугня́віць, што нічаге́нічкі ні рызьбяре́ш.*

**ВУГНЯ́ВЫЙ** *прым.* Косназыкі, гугнявы. *Пышла́ за́муж зы вугня́выга.*

**ВУГНЯ́ЎКА** *ж. зневаж.* Косназыкая, гугнявая.

**ВЎДАЛЬ** (вўдыль) *неадабр.* 1. *ж.* Зухаватасць. *Аткўліцька сто́лька вўдылі ў яго́ бярэ́цца.* 2. *м.* і *ж.* Зухаваты. *Вўдылі ніййдзе́ спако́ю німа́.*

**ВУН** *прысл., часц.* Вунь. *Вўн айдзе́ ты схуваўся! Вун та́м. Вун туды́ пашоў. Вўн калі́ надўмаўся пріціць.*

**ВЎНЫЦЬКА** *часц.* Гл. **вун**. *Вўныцька аткўль вы́йшыў.*

**ВУХРЫ́ЦЬ** (вухріць), -р-ю́, -р-іш; *незак.* Вучыць, павучаць. *Вухріла я цябе́, вухріла, а табе́ хуць кол ны гылаве́ цяшы́.*

**ВУХРЭ́ННЕ** (вухрэ́ньня) *н.* Павучанне. *Дўжа яны́ слўхыюць твае́ вухрэ́ньня.*

**ВЫБЕ́ГЫВАЦЦА** (выбе́гывыцца), -вы-юся, -вы-ісься; *незак.* Бегаць; гуляць. *Не́кылі выбе́гывыцца, садзіся за ўро́кі.*

**ВЫБЕ́ГЫВАЦЬ** (выбе́гывыць), -вы-ю, -вы-іш; *незак.* 1. Доўга бегаць, аббегаць шмат мясцін. *Ні ра́зу сто́лька ні выбе́гывыў, як ся́ньня.* 2. *перан.* Дабівацца беганінай чаго-н. *По́мню, по́мню, ра́зым жа выбе́гывылі дукуме́нты.*

**ВЫ́БРУЗНУЦЦА** (вы́брюзнуцца), -н-уся, -н-ісься; *зак. асудж.* Выспацца. *Мо́жа ты ўжо вы́брюзнуўся, — ці ні другея сўдкі сьпіш?*

**ВЫ́БУРКНУЦЦА**, -н-уся, -н-ісься; *зак.* Прагаварыцца, сказаць з намёкам. *Была́ вы́буркнулыся пры пасьцілкі, а по́сьлі ско́лька ні пыта́ла — ні сло́ва.*

**ВЫ́ГЛАДЖАНЫЙ** (вы́глыджыный) *дзеепрым.* 1. Выпрасаваны. *Хто́ ж так чыпля́іць — к вы́глыджыный саро́чкі мятый га́лстук?* 2. *перан.* Выедзены, з'едзены (пра траву). *Па́рініна вы́глыджына ды травінкі.*

**ВЫГЛА́ДЖЫВАННЕ** (выгла́джывыньня) *н.* Прасаванне. *Кынча́й выгла́джывыньня, пабе́глі: прівялі́ гырманіста і з бу́бным.*

**ВЫГЛА́ДЖЫВАЦЦА** (выгла́джывыцца), -(вы)-юся, -(вы)ісься; *незак.* 1. Выпрасоўвацца. *Хва́ціць выгла́джывыцца, і так пызна́іць.* 2. *перан.* Выядацца, з'ядацца (пра траву). *Сімыныва* (урочышча) *ка́жныя ле́та выгла́джыіцца як бу́бін.*

**ВЫГЛА́ДЖЫВАЦЬ** (выгла́джывыць), -(вы) ю, -(вы) іш; *незак.* 1. Выпрасоўваць. *Выгла́джывыла, паку́ль прыпалі́ла.* 2. *перан.* Выядаць, з'ядаць траву (пра жывёлу). *Ко́ні выгла́джыюць луг як то́к.*

**ВЫ́ГЛАДЗІЦЦА** (вы́глыдзіцца), -дж-уся, -дз-ісься; *зак.* 1. Выпрасавацца. *Ці я бу́ду ждаць, паку́ля ты вы́глыдзісься? Само́ пла́цьця ня вы́глыдзіцца, бярі́ уцю́г ды гладзь.* 2. *перан.* Выесціся (пра траву).

**ВЫ́ГЛАДЗІЦЬ** (вы́глыдзіць), -дж-у, -дз-іш; *зак.* 1. Выпрасаваць. 2. *перан.* Выесці, з'есці траву, выгрызці. *Скот вы́глыдзіў по́ля як то́к, хуць мылаці́.*

**ВЫГУ́ЛІВАННЕ** (выгу́лівыньня) *н.* Лодарнічанне, гультайства. *Выгу́лівыньня бу́дзіць табе́ зімо́ю, а січа́с бярі́сь-ка зы гра́блі.*

**ВЫ́ДЗЕЛАНЫЙ** (вы́дзілыный) *дзеепрым.* 1. Вымазаны, запэцканы. *Кінь вы́дзілыныя пальто́ у се́нцых.* 2. *спец.* Выраблены. *Вы́дзілыныя аўчы́ны.*

**ВЫ́ДЗЕЛАЦЦА** (вы́дзілыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *зак.* 1. Вымазацца, запэцкацца. *Вы́дзілыўся як чорт і прэ́цца пря́ма ў ха́ту.* 2. *спец.* Вырабіцца.

**ВЫ́ДЗЕЛАЦЬ** (вы́дзілыць), -ы-ю, -ы-іш; *зак.* 1. Вымазаць, запэцкаць. *Пашо́ў у апхо́д, каб ня вы́дзілыць бо́ты.* 2. *спец.* Вырабіць. *Вы́дзілыў пазы́ ў шу́ллі.*

**ВЫДЗЕ́ЛЫВАННЕ** (выдзе̂лывыньня) *н.* 1. Пэцканне; забруджванне. 2. *спец.* Выраблянне; выраб. *Сьпіцыяліст пы выдзе̂лывыньню.*

**ВЫДЗЕ́ЛЫВАЦЦА** (выдзе̂лывыцца), -(вы)юся, -(вы)ісься; *незак.* 1. Вымазвацца, пэцкацца. *Вылáзь с-пад мо́ста, хвáціць выдзе̂лывыцца.* 2. *спец.* Вырабляцца. *Ай, аўчы́нкі яшчэ̂ ні выдзе̂лывыліся, — нáда б занéсьць, ды нéкыльства усё́ зырізáіць.*

**ВЫДЗЕ́ЛЫВАЦЬ** (выдзе̂лывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* 1. Вымазваць, пэцкаць. 2. *спец.* Вырабляць. *Сем гадо́ў выдзе̂лывыў ко́жы.*

**ВЫК** I *м.* Выццё. *Ваўчы́ный вык.*

**ВЫК** II *м.* Віка. *Ныкасíў но́шку вы́ку—чуць пыдня́ць.*

**ВЫ́КАПАНЫЙ** (вы́кыпыный) 1. *дзеепрым.* Выкапаны. 2. *прым.* Падобны (вельмі). *Вы́кыпыный бáцька. Вы́кыпыныя мáма.*

**ВЫ́КАТ** (вы́кыт) *м.* 1. Выраз, дэкальтэ. *Ко́хта з вы́кытым на дзьве шы́і.* 2. Лупатасць. *Во́чы на вы́кыці.*

**ВЫКЛАДА́ННЕ** (выклыдáньня) *н.* 1. Выкладанне, абкладанне, абкладка. *Лíвінь размы́ў усё́ выклыдáньня.* 2. Кастрыраванне. *С такíм выклыдáньнім яго́ к дзьвіря́м нíлізя́ путпускáць.*

**ВЫКЛАДА́ЦЬ** (выклыда́ць), -а́-ю, -а́-іш; *незак.* 1. Выкладаць, абкладаць, абкладваць. *Капцы́ ся́ньня выклыда́юць салóмыю. Пóля трі гады́ пыдря́д выклыда́лі гнóім.* 2. Кастрыраваць. *Сё́літа ўсіх бычкóў бу́дуць выклыда́ць.*

**ВЫКЛА́ДЫВАЦЬ** (выкла́дывыць), -(вы) ю, -(вы) іш; *незак.* Гл. **выклада́ць**. *Выкла́дывый, штó та́ма ў цябé пóвін мех.*

**ВЫ́КЛАСЦЬ** (вы́клысьць), вы́клыду, вы́клыдзіш; *зак.* 1. Выкласць, вылажыць, абкласці. *Вы́клылі бырывікі́ і пабе́глі яшчэ́. Вы́клыў падвóкыньня бульбóўнікым, што марóз ня прóйміць. Вы́клылі пóля чуць ня ў чэ́цьвірць, — што хóчыш урóдзіць. Кры́шу як тóўста вы́клыдзіш, дык і сыка́ ні прымікáіць.* 2. Скастрыраваць. *Віцінáр вы́клыў пырасё́нка.*

**ВЫЛА́МЫВАННЕ** (вылáмывыньня) *н. іран.* Незгаворлівасць, капрызы. *Ты й біз вылáмывыньня ду́жа харóш, а з вылáмывыньнім — тóлька глядзéць.*

**ВЫЛА́МЫВАЦЦА** (вылáмывыцца), -(вы) юся, -(вы) ісься; *незак. іран.* Быць незгаворлівым, капрызіць. *Скызáла іціць, дык ідзі́, а ні вылáмывыйся.*

**ВЫЛАНГА́ННЕ** (вылынгáньня) *н. асудж.* Вылежванне. *Ці табé ні ныдаéсьць вылынгáньня?*

**ВЫЛАНГА́ЦЦА** (вылынгáцца), -á-юся, -á-ісься; *незак. асудж.* Вылежвацца. *Вылынгáйся-вылынгáйся, — а хто цябé хлéбым бу́дзіць карміць?*

**ВЫ́МАНДЗЫРЫЦЬ** (вы́мындзыріць), -р-ю, -р-іш; *зак. асудж.* Выпрасіць, вымаліць, выкленчыць; вымантачыць, забраць што-н. ашуканствам.

*Як табе ня стыдна: такей бамбіза, а вымындзырыў у дзіцёнка цацку.*

**ВЫМАНЧЫЦЬ** (вымынчыць), -ч-у, -ч-ыш; *зак. асудж.* Гл. **вымандзырыць**. *Ныстала-ныстала цыганка і вымынчыла куртычку.*

**ВЫМАЧ** (вымыч) *м.* Вымаклае месца ў пасевах. *Вымычы успыхалі і пасеілі ячмень на корм.*

**ВЫМУДРАННЕ** (вымудряньня) *н.* Выдумка, капрыз. *Калі вазьму аброць — вымудряньня сь цябе мігым выскычыць. Сеў есьць — дык біз вымудряньня.*

**ВЫМУДРАЦЦА** (вымудряцца), -я-юся, -я-ісься; *незак.* Гл. **вымудраць**. *Як выхыртыісься, дык ня будзіш вымудряцца.*

**ВЫМУДРАЦЬ** (вымудряць), -я-ю, -я-іш; *незак.* Выдумляць, капрызіць, вымудроўваць. *Сам ні знаіш, чаго хочыш, а вымудряіш.*

**ВЫМУДРЫЦЬ** (вымудріць), -р-ю, -р-іш; *зак.* Выдумаць, прыдумаць, вымудраваць. *Пакуль ты вымудріш што-небудзь — так ускоцім бірьвяно.*

**ВЫПАЛІЦЬ** (выпыліць), -л-ю, -л-іш; *зак.* 1. Выпаліць. 2. *перан.* Удацца, атрымацца, выйсці. *Бярісь-ка ты за ета дзела, можа, ў цябе выпыліць. Хацеў найціць якую пунчыну — ня выпыліла.*

**ВЫХАРТАВАЦЦА** (выхыртывыцца), -(вы) юся, -(вы) ісься; *зак.* Прагаладацца. *Што ж ты хочыш, такей дзень: чаму ня выхыртыісься.*

**ВЫЧАЎРЫЦЬ** (вычыўріць), -і-ю, -і-іш; *зак.* 1. Высахнуць, перасохнуць. *Дужа б горька нада дождж: зімля саўсім вычыўріла. Плацьця зы час вычыўріла на ветрі.* 2. *перан.* Счахнуць, змарнець, схуднець.

**ВЫЧХАЦЦА** (вы́чхыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *зак.* Прагаладацца. *Вы́чхыісься, бе́гыючы цэ́лый дзень.*

**ВЫШАРСЦІЦЬ** (вы́шырсьціць), -ц-іць; *зак.* Знішчыць, вынішчыць. *По́мню, ну хутура́х жылі, не́йкыя хваро́ба увалі́лыся і ўсі́х куре́й вы́шырсьціла.*

**ВЯЗЁНКА** *ж.* Рукавіца. *Зьвіза́ла на́ зіму ка́жныму дзіцё́нку пы вязё́нкых.*

**ВЯЗЗЕ** (вя́зьзя) *н.* 1. Матэрыял для вязкоў; вязкі. *Пріве́з воз вя́зьзя.* 2. *перан. груб.* Ногі. *Вы́цігнуў вя́зьзя на ўсю печ і лежч не́йдзі.*

**ВЯЗО́К** *м.* Спецыяльная дубовая звязка ў санях. *Насе́к дубнячку́ ны вязкі́, сане́й чэ́цьвіра мо́жна бу́дзіць абагну́ць.*

**ВЯКАННЕ** (вя́кынньня) *н.* Крык, выкрыкі. *Чуў не́йкыя вя́кынньня, а ні рызыбра́ў, што́ йта тако́я.*

**ВЯКАЦЦА** (вя́кыцца), -ы-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **вякаць**. *Ну, чаго́ табе́ та́мыцька вя́кылыся!*

**ВЯКАЦЬ** (вя́кыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Крычаць; падаваць голас. *Ні вя́кый, січа́с пріду́ і аччыню́.*

**ВЯКНУЦЦА**, -н-іцца; *зак.* Зал.-бессуб'ект. ад **вя́кнуць**. *Не́кыму вя́кнулыся зу гумно́м.*

**ВЯКНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* Крыкнуць; падаць голас. *Не́хта не́йдзі вя́кнуў, а хто́ й айдзе́ — ні рызыбра́ла.*

**ВЯШЧУ́ЦЬ**, -у́-ю, -у́-іш; *незак.* Прадказваць, прадчуваць. *І чаго́ бета куку́шка ка́жын дзень ны бярё́зкі пріліта́іць, ці ні вяшчу́іць іна́ што-не́будзь.*

**ГАВАРУ́ШКА** (гывару́шка) *ж.* Летняя апенька. *У се́літнім гаду́ хуць бы гывару́шку хто віdзіў, а ле́тыся было́ засыпыцца.* Памянш. г ы в а р у́ ш ы ч к а.

**ГАЙДА́ЧАННЕ** (гыйда́чыньня) *н.* Гл. **галдама́чанне.**

**ГАЙДА́ЧЫЦЬ** (гыйда́чыць), -ч-у, -ч-ыш; *незак.* Гл. **галдама́чыць.** *Чаго́ йта ты та́к гыйда́чыш бу́льбу, табе́ ж се́іць не́чым бу́дзіць.*

**ГАЛАГАЛЕ́ННЕ** (гылыгале́ньня) *н.* Галас, шум, крык. *Ат ва́шыга гылыгале́ньня аж у вуша́х тряшчы́ць.*

**ГАЛАГАЛЕ́ЦЦА** (гылыгале́цца), -л-і́цца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **галагале́ць.** *Чаго́ табе́ гылыгалі́цца як дзе́нь, так но́ч?*

**ГАЛАГАЛЕ́ЦЬ** (гылыгале́ць), -л-ю́, -л-і́ш; *незак.* Шумець, крычаць. *Сыбяру́цца ку́чыю і гылыгыля́ць, аж пыдвако́ньня тряшчы́ць.*

**ГАЛДАМА́ЧАННЕ** (гылдыма́чыньня) *н.* Марнатраўства, мантачанне, транжыранне. *С тако́га гылдыма́чыньня то́лку ма́ла бу́дзіць.*

**ГАЛДАМА́ЧЫЦЬ** (гылдыма́чыць), -ч-у, -ч-ыш; *незак.* Марнатравіць, мантачыць, транжырыць. *Гылдыма́чыў ба, каб хто яму́ зырыбля́ў.*

**ГАЛДЫ́МІР** (галды́мірь і гылдымі́рь) *м.* і *ж.* Гл. **галагале́нне.** *Таку́ю галды́мірь узьня́лі, што за тры вярсты́ чу́тна.*

**ГАЛЕ́НЬ** *м.* 1. Дзяркач. *Гальнём ніч́ога ні пыдмяце́ш, яго́ то́лька ў печ.* 2. Галёнка. *Абкруці́ў гале́нь ану́чыю дый ныцягну́ў тро́ху ва́лінык.*

**ГА́ЛІННЕ** (га́лінья) *н.* Імкненне да чаго-н., цяга, гатоўнасць. *Каб табе́ тако́я га́лінья ды рабо́ты, як ду гулю́шык.*

**ГА́ЛІЦЦА**, -л-іцца; *незак.* Імкнуцца да чаго-н., цягнуцца, выражаць гатоўнасць; любіць што-н. *Дычка́ га́ліцца чыта́ць.*

**ГА́ЛКА** *ж.* 1. Галка (птушка). 2. *часцей мн.*: га́лкі. Звараная непакрышаная бульба. *Нае́ўся га́лык с са́лым. Га́лку зьеў—і хва́ціць.*

**ГАЛО́ЎКІ** *толькі мн.* Пярэдняя частка саней. *Садзіся ў гало́ўкі, ні так ве́цір бу́дзіць дуць.*

**ГАЛУ́ЗА** *м.* і *ж.* Неслух, свавольнік, гарэза. *І ў каго́ тыка́я галу́за пышла́?* Узмацн. галу́зіна. *Во кусо́к галу́зіны ўда́ўся, — ні да́й ты і ні прівядзі́ сьвет.*

**ГАЛЬНІ́К** *м.* Гл. **гале́нь** 1. *Ну й наду́мылыся — гыльніко́м красу́ наво́дзіць.*

**ГАМАНЕ́ННЕ** (гымане́ньня) *н.* Гутарка, размовы, гамонка. *Кынча́йця гымане́ньня, пае́хылі бу́льбу нысыпа́ць.*

**ГАМЖО́НЫЙ** *дзеепрым.* Камячаны, мяты. *Ну да, наду́мыўся, у такой гамжо́ный руба́шкі то́лька ў го́рыд.*

**ГАМЗА́** (гымза́) *м.* і *ж.* *неадабр.* Неакуратны. *Ны гамзу́ што ні надзе́нь — то́лку ня бу́дзіць.*

**ГАМЗІ́ЦЦА**, -з-і́цца; *незак.* *неадабр.* Зал.-бессуб'ект. ад **гамзі́ць**. *Прібяры́ адзе́жу, нашто́ ёй гамзі́цца айдзе́ пупа́ла.*

**ГАМЗІ́ЦЬ**, -ж-у́, -з-і́ш; *незак.* *неадабр.* 1. Мяць, камячыць, кідаць дзе папала, не берагчы (адзенне, абутак). *Ні гамзі́-ка ты ў грязь но́вый касьцю́м. Калі́ ты ўсігда́ так гамзі́ш, дык папо́мні маё сло́ва — ні ра́зычку не́чыга бу́дзіць у*

*людзі надзець.* 2. *перан.* Лаяць, бэсціць. *Ні за што гамзіць чылавека.*

**ГАМУЗ** *м.* Шмат, мноства; талака. *Выдзьвінуў на луг цэлый гамуз, дык што ім: ны пыўдня работы тае.*

**ГАМУЗАМ** (гамузым) *прысл.* Разам, талакою. *Гамузым схвацілі бульбу ды марозу.*

**ГАНЯЦЦА** (гыняцца), -я-юся, -я-ісься; *незак.* 1. Ганяцца. 2. Быць прывязаным да каго-н., адчуваць прыязнасць; любіць. *Дзіцёнык усігда большы зы маткыю гыняіцца. Ты зы яблыкымі гыняісься як малый.*

**ГАРБАЦІЦЦА** (гырбаціцца), -ч-уся, -ц-ісься; *незак.* 1. Горбіцца. *Ні гырбацься, табе яшчэ ня чорт бяды, гады мыладэя.* 2. Карабаціцца. *Досткі нільзя кідаць на сонцы — гырбацюцца.*

**ГАРБАЦІЦЬ** (гырбаціць), -ч-у, -ц-іш; *незак.* 1. Горбіць. *Нашто ты гырбаціш сьпіну, сядзь роўна.* 2. Карабаціць. *Сонца гырбаціць досткі, нада пыт павець пірінасіць.*

**ГАРБАЧАНЫЙ** (гырбачыный) *дзеепрым.* Скарабачаны. *Гырбачыныя шалёўка, што зь яе зьдзелыіш.*

**ГАРГАРА** (гыргара) *м.* і *ж.* Сварлівы чалавек. *Успакойся, ня будзь такою гыргарыю.* Узмацн. г ы р г а р і н а. *Ат гыргаріны ні мінуты спакойна ні пысядзіш.*

**ГАРЛАННЕ** (гырланьня) *н. груб.* Крык, галас. *Пысядзі хуць мінуту біз гырланьня.*

**ГАРЛАЦЦА** (гырлацца), -а-іцца; *незак. груб.* Зал.-бессуб'ект. ад **гарлаць**. *Чаго вам гырлаіцца ў самую поўныч?*

**ГАРЛАЦЬ** (гырлаць), -а-ю, -а-іш; *незак. груб.* Крычаць на ўсё горла, гарланіць, гарлапаніць,

пець песні. *Нап'юцца й гырла́юць, — спако́ю німа́.*

**ГАРМО́НЬ** і **ГАРМО́НЯ** *ж.* Гармонік. *Пылажы́ла, пылажы́ла ны гармо́нь буке́т цьвято́ў.*

**ГАРНІЗАВА́ЦЬ** (гырнізува́ць), гырнізу́ю, гырнізу́іш; *зак.* Згуртаваць, арганізаваць; аб'яднаць; стварыць. *Як січа́с по́мню, калхо́з мы гырнізува́лі ў тріцца́тым гаду́.*

**ГАРНІЗА́ЦЫЯ** (гырніза́цыя) *ж.* Згуртаванасць, арганізаванасць. *У нас была́ харо́шыя гырніза́цыя, зра́зу ў калхо́з зыпіса́ліся.*

**ГАРНІЗО́ВАНЫЙ** (гырнізо́вынйй) і **ГАРНІЗАВА́НЫЙ** (гырнізува́ный) *прым.* 1. Згуртаваны, арганізаваны. *У Шумяні́чых гырнізо́вынйй наро́д.* 2. Кампанейскі. *Ён гырнізо́вынйй хло́піц.*

**ГАРО́ХАЎЕ** (гаро́хыўя) *н.* Сцеблі гароху. *Кінуў гаро́хыўя ў пу́ню ны пацьсьці́лку.*

**ГАРО́ХВІННЕ** (гаро́хвіньня) *н.* Гл. **гаро́хаўе**. *Напу́тылыся, нукруці́лыся гаро́хвіньня ны каткі́ — ні сырва́ць.*

**ГАРЦА́ЦЦА** (гырца́цца), -а́-іцца; *незак. неадабр.* Зал.-бессуб'ект. ад **гарца́ць**. *Вам гырца́лыся, паку́ля дыгырца́ліся, што пулучы́лі рімня́.*

**ГАРЦА́ЦЬ** (гырца́ць), -а́-ю, -а́-іш; *незак. неадабр.* Гл. **дзо́гаць**. *Гырца́лі па ву́ліцы ды цімна́.*

**ГА́РЫЦ** (га́ріц) *м. часцей мн.:* га́рцы. Млынавы збор. *Ай, лу́ччы, што біз га́рцыў ме́люць, ру́біль якей адда́ў — і гато́ва.*

**ГІ́БАЦЦА** (гі́быцца), -ы-іцца; *незак.* Прагінацца, хістацца. *Не́шта гі́быіцца масьні́ца, на́да падбі́ць.*

**ГІБАЦЬ** (гібыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Прагінаць, хістаць. *Ня гібый жардзіну — мо́жыць злума́цца. Гібыў і дагібыўся — рябінкі німа́.*

**ГІМО́РНІЧАЦЬ** (гімо́рнічыць), -ч-у і -ы-ю, -ч-ыш і -ы-іш; *незак.* Капрызнічаць; не слухацца. *Ні гімо́рнічый, а йдзі ды рыскалі палёна.*

**ГІМО́РЫ** (гімо́ры) *толькі мн.* Капрыз; непаслушэнства. *Як вазьму́ мыхра́ч, дык мігым айдзе́ гімо́ры дзе́нуцца.*

**ГЛА́ДЖАННЕ** (гла́джыньня) *н.* 1. Гладжанне, прасаванне. 2. *перан.* Кармленне (на сала). *По́сьлі гла́джыньня кыба́нчык ны кыба́нчыка пахо́дж стаў.*

**ГЛА́ДЖАНЫЙ** (гла́джыный) *дзеепрым.* 1. Гладжаны, прасаваны. 2. *перан.* Кормны (пра вепрука). *Твой ужо́ ла́дна гла́джын, а я свайго́ то́лька пычына́ю гла́дзіць.*

**ГЛАДЗЕ́ННЕ** (гладзе́ньня) *н.* Тлусценне (пра жывёлу). *Паку́ль у во́лю мукі ні дасі, гладзе́ньня ня жджы.*

**ГЛАДЗЕ́ЦЬ**, -е́-іць; *незак.* 1. Гладзець, рабіцца гладкім. *Нябо́сь, ат руба́нка гладзе́іць бруcо́к.* 2. *перан.* Тлусцець. *Сьвіньню́ калі ко́рміш, тады́ й гладзе́іць.*

**ГЛА́ДЗІЦЬ**, -дж-у, -дз-іш; *незак.* 1. Гладзіць, прасаваць. 2. *перан.* Падкормліваць; карміць (на сала), *Кыба́нчыка гла́дзілі, ды на́да було́ яшчэ́ тро́шку пыдзіржа́ць.*

**ГЛАМАЗДА́** (глымызда́) *м.* і *ж.* Няўмека. *Чаго́ ты ўрадзіўся е́ткім глымаздо́ю?*

**ГЛАМАЗДА́ННЕ** (глымызда́ньня) *н.* Няўмелая работа (пляценне, шыццё). *Твайго́ глымызда́ньня і ў ру́кі брaць ня хо́чыцца.*

**ГЛАМАЗДА́ЦЦА** (глымызда́цца), -а́-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **гламазда́ць**. *Карзіна тро́ху глымызда́іцца.*

**ГЛАМАЗДА́ЦЬ** (глымызда́ць), -а́-ю, -а́-іш; *незак.* Няўмела рабіць (плесці, шыць). *Глымызда́ю карзінку, мо́жа, што й вы́йдзіць.*

**ГЛЁК** *м.* Падобны да гаршка гліняны збан з вузкім горлам. *Глёк на што́ ўжо харо́ш — дык е́та у жніво́ і казьбу́: ныбяре́ш вады́ і спакоін.*

**ГЛІ́НІШЧА** *н.* 1. Месца, дзе капаюць гліну. 2. Гліністы ўчастак поля. *На гліні́шчы ці се́й ці ня се́й — нічо́га ні расьце́ць.*

**ГЛО́МАЗД** (гло́мызд) *м.* Гл. **гро́мазд**. *Нывáліна гло́мызду ны дваре́ — ні прайці́ць.*

**ГЛУБАЧЭ́Й** *прысл.* Глыбей. *Пыткыпа́й глубачэ́й тро́шку дый зыкыпа́ім стоўб да бе́да.*

**ГЛУБАЧЭ́ЙШЫЙ** *прым.* Глыбейшы. *Мой по́гріб мно́га глубачэ́йшый, чым твой, а выда́ ні ра́зу ні патхо́дзіць.*

**ГЛУБАЧЭ́ННЫЙ** *прым.* Вельмі глыбокі. *У го́рыдзі кало́дзіжы глубачэ́нныя-глубачэ́нныя!*

**ГЛУБАЧЭ́ЦЬ**, -э́-іць; *незак.* Рабіцца глыбей, глыбець. *Во́зіра глубачэ́іць к ле́выму бо́ку.*

**ГЛУМА́К** *м.* Абмежаваны чалавек. *Відзіў я яе́ жыніха́: глума́к глумако́м.*

**ГЛУТЫ́РА** (глуты́ря) *ж.* Глыба, вялікі кавалак чаго-н. *Глуты́ря лёду. Глуты́ря са́ла.* Павеліч. глуты́рішча. *Атвалі́ў глуты́рішчу хле́ба ны чыцьвяры́х і зьеў зы раз.* Памянш. глуты́рька. *Пабі́ў лёд ны нібальшы́я глуты́рькі — скаре́й рыста́ніць.*

**ГЛЫ́БІ** *прысл.* Глыбей. *Сьме́ла кыпа́й глы́бі, тут выда́ ў по́гріб ні падо́йдзіць.*

**ГЛЫБІЦЬ**, -бл-ю, -б-іш; *незак.* Паглыбляць. *Са́жылкі глы́білі ле́тым.*

**ГЛЫ́БЛЕННЕ** (глы́бліньня) *н.* Паглыбленне. *По́сьлі глы́бліньня кало́дзіж ныпра́віўся.*

**ГЛЫ́ЖА** *ж.* Вялікая камлыга. *Такі́м глы́жым бырына́ ніч́ога ня зьдзе́лыіць, іх на́да па́лкыю біць.*

**ГНАЯВЫ́Й** (гныявы́й) і **ГНАЯВЭ́Й** (гныявэ́й) *прым.* Прызначаны для працы з гноем. *Гныявэ́я ві́лкі* (вілы). *Гныявы́я бо́ты.*

**ГНЕ́СЦА**, гняце́цца; *незак.* 1. Тужыцца; з цяжкасцю пралазіць. *Гне́ўся пыд варо́ты, чуць пра́лез.* 2. *перан. іран.* Прыбядняцца, скнарнічаць. *Ні гняці́ся ўжо, ні гняці́ся, ёсьць чым людзе́й устрэ́ціць.*

**ГНЕСЦЬ** (гнесьць), гняту́, гняце́ш; *незак.* Гнясці; лупцаваць, хвастаць. *Ско́лька яго́ ні гняту́ць — ні ка́іцца.*

**ГНЕТАНУ́ЦЦА** (гнітану́цца), -н-у́ся, -н-е́ся; *зак.* Ударыцца. *Зь я́блыны як гнітану́ўся, дык чуць уста́ў.*

**ГНЕТАНУ́ЦЬ** (гнітану́ць), -н-у́, -н-е́ш; *зак.* Ударыць. *Гнітану́ў у пле́чы.*

**ГНЁТ** *м.* Цяжкі кавалак дрэва, які́м прыкладваецца пянька ў час мачэння. *Гніта́мі лу́ччы прікла́дывыць пяньку́, чым зямле́ю.*

**ГНУС** *м.* Скнара, жмінда, сквапны. *Гну́су лу́ччы разьбі́цца, чым што-не́будзь аддаць.*

**ГНУСЛІ́ВА** (гнусьлі́ва) *прысл. неадабр.* Крыўдліва. *Чаго́ ты глядзі́ш так гнусьлі́ва?*

**ГНУСЛІ́ВЫЙ** (гнусьлі́вый) *прым. неадабр.* Крыўдлівы. *Ра́нишы іна́ ні была́ тако́ю гнусьлі́выю.*

**ГНЮСІ́НА** *м.* і *ж.* Гл. **гнус**. *Чаго́ ты зьдзе́лыўся гнюсі́ныю, ско́ра вады́ напі́цца пыжале́іш.*

**ГНЯЦЕ́ННЕ** (гняце́ньня) *н.* Лупцоўка, біццё. *Глядзі́, хло́піц, біз гняце́ньня ты ся́ньня, знаць, ні або́йдзісься.*

**ГРАБЕ́ННІК** (грябе́ньнік) *м.* Грабец. *По́сьлі абе́да грябе́ньнікі по́йдуць стугува́ць.*

**ГРАБЕ́ННІЦА** (грябе́ньніца) *ж.* Жанчына-грабец. *Яка́я сь цябе́ грябе́ньніца — граблé́й яшчэ́ ня ўдзе́ржыш.*

**ГРА́ДКА** (гра́дка) *ж.* Задок у возе. *Се́лі ў гра́дку й пыкаці́лі.*

**ГРА́ДКА** (гря́дка) *ж.* Баразна бульбы. *Вы́кыпылі да бе́да па трі гря́дкі.*

**ГРАЖЭ́ННЕ** (гражэ́ньня) *н.* Пагроза. *Так я твайго́ гражэ́ньня і спужа́ўся.*

**ГРАМАЖДЖЭ́ННЕ** (грымажджэ́ньня) *н.* Гл. **гро́мазд**. *Ці вам біз грымажджэ́ньня нільзя́ абыйці́цца?*

**ГРАМАЗДА́** (грымызда́) 1. *ж.* Гл. **гро́мазд**. *Зы грымаздо́ю ў се́нцых ні прайці́ць, ні пывярну́цца.* 2. *м.* і *ж.* Той, хто грувасціць, нагрувашчвае; няўмека. *Зра́зу ві́дна, што капу́ грымызда́ склыда́ла.*

**ГРАЦКО́ВЫЙ** (гряцко́вый) *прым.* Грэчкавы. *Гряцко́выю сало́му скла́лі ў стажо́к.*

**ГРАЦКО́ЎЕ** (гряцко́ўя) *н.* 1. Салома грэчкі. *Гряцко́ўя зьвязьлі́ пыд наве́с.* 2. Поле, на якім расла грэчка. *Пы гряцко́ўю ско́ту ні ныпасе́ш.*

**ГРАЧЫ́ШНЫЙ** (грячы́шный) *прым.* Грэцкі. *Грячы́шныя ка́ша. Грячы́шныя блі́ны.*

**ГРО́МАЗД** (гро́мызд) *м.* Нагрувашчванне, хлам. *Зыгырадзілі гро́мыздым усю клець.*

**ГРУ́БАЯ** (гру́быя) і **ГРУБА́Я** *прым.* Цяжарная. *Зы чаты́рі гады́ трэ́цьцій раз гру́быю хо́дзіць.*

**ГРУ́БЫЙ** *прым.* 1. Тоўсты. *Гру́быя бірьвяно́.* 2. *перан.* Тоўсты, сыты (пра чалавека). *Пріе́хыў сусе́д — то́ўстый, гру́бый, атку́ль што ўзяло́ся,—быў жа як шкет.*

**ГРУ́ЗДЗІЛА** (гру́зьдзіла) *н.* Цуглі. *Пріш́ыў к абро́ці но́выя гру́зьдзіла.*

**ГРЫБ** (гріб) *м.* 1. Грыб. 2. *звычайна мн. перан. груб.:* гріб́ы. Губы. *Чаго́ гріб ацста́віў? Гріб́ы надуў.*

**ГРЫБАЗДЗІ́ЛА** (грібазьдзіла) *м.* і *ж. зневаж.* Губашлёп; губаты. *Ну да́, няго́ж, ні хвыта́ла мне зы тако́га грібазьдзілу іціць.*

**ГРЫБАНУ́ЦЬ** (грібану́ць), -н-у́, -н-е́ш; *зак.* 1. Падгрэсці, сагрэбці, падсунуць; падгарнуць. *Грібанём хыраш́энька — і к по́ўдню свабо́дны. Грібані бо́бу ў кашо́лычку. Грібані саломy пыд стряху́.* 2. Многа сабраць, узяць (бо многа было). *Грібану́лі лю́дзі се́літа і грібо́ў, і аре́хыў.* 3. *перан. асудж.* Адхапіць, хапануць. *У ро́дныга бра́та грібану́ў і адзе́жу, і хлеб, — во ўжо ні со́вісьці, нічо́га ў чылаве́ка.*

**ГРЫБА́ТЫЙ** (гріба́тый) *прым. груб.* Губаты. *Ні судзіця мяне́, дзе́ўкі, што гріба́тыга люблю.*

**ГРЫМ** (грім) *выклічнікава-дзеяслоўная форма.* Абазначае нечаканасць дзеяння. *То́лька сыбра́лыся ў хряп'я зьбе́гыць, а тут го́сьці грім у ха́ту.*

**ГРЫМЕ́ННЕ** (гріме́ньня) *н.* Гл. **грымо́та.** *Уніміся з гріме́ньнім: лю́дзі сьмяю́цца.*

**ГРЫМЕ́ЦЦА** (гріме́цца), -м-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **грыме́ць** 2. *Гріміцца табе́ і днём, і ўве́чыры спако́ю німа́.*

**ГРЫМЕ́ЦЬ** (гріме́ць), -м-іць; *незак.* 1. Грымець. *Гром грэміць.* 2. *перан.* Бурчаць, лаяцца. *Як сьпіць, тады́ ні грэміць.* 3. *перан. іран.* Ехаць, з'яўляцца. *Трі дні прашло́ — грэміць ш чумуда́ныммі: схадзіла за́муж. Сыбра́лі, вы́прывілі, як у людзе́й, пае́хыў, — што ж ты ду́мыіш, прыска́чыла нядзе́ля — грэміць ныза́д: нырабо́тыў і зырабо́тыў.*

**ГРЫМІ́ЛА** (грімі́ла) *м.* Буркун. *З грімі́лыю жыць — не́рвы натрэ́пліш.*

**ГРЫМО́ТА** (грімо́та) *ж. часцей мн.:* грімо́ты. Бурчанне, лаянка. *Ці уйме́сься ты з грімо́тымі? Пычыла́ся грімо́та.*

**ГРЭ́СЦА** (гре́сца), грябе́цца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **грэсць**. *Што, ні грябе́цца по́сьлі гуля́нкі?*

**ГРЭ́СЦЬ** (гресьць), грябу́, грябе́ш; *незак.* 1. Грэбці; веславаць. *Гряблі́ ў лугу́ трі дні.* 2. *перан. асудж.* Браць з прагнасцю, нажывацца. *Грёб ба і грёб, нія́к ні ыгрябе́цца.*

**ГУ́БКА** *ж.* Мера (7 сажняў) вытканага палатна. *Усягó пяць гу́бык сёліта снува́ла.* Памянш. г у́ б ы ч к а. *Айт, якóя там пылатнó — дзьве гу́бычкі.*

**ГУДЗЕ́ННЕ** (гудзе́ньня) *н.* 1. Гудзенне. 2. *перан.* Роў, плач. *Спра́віў гудзе́ньня на ўсю ву́ліцу.*

**ГУДЗЕЦЦА**, -дз-іцца і -дз-ёцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **гудзець** 2. *Ач чагó табé гудзéлыся — ат пýгі ці ат рéмня.*

**ГУДЗЕЦЬ**, -д-ý, -дз-íш і -дз-ёш; *незак.* 1. Гусці. 2. *перан. часта іран.* Раўці, плакаць. *Пірістáнь гудзéць.*

**ГУЖОВЫЙ** *прым.* Гужавы (пра хамут для ворыва, баранавання, у прыпрэжку). *Купілі гужóвых хумутóў на ўсю брігáду.*

**ГУКАМ** (гýкым) *прысл.* Шмат, множства. *Ны бызáрі усягó гýкым, тóлька бярі ды каб грóшы.*

**ГУКАННЕ** (гукáньня) *н.* Кліканне; запрашэнне. *Ня слýхыіць ён твайгó гукáньня. Каб біз гукáньня іціць — ета ж нáда вóчы ў сыбáкі пазычыць.*

**ГУКАНЫЙ** *дзеепрым.* Кліканы; запрашаны, запрошаны. *К усім хадзілі, тóлька Мáрхва яшчэ ні гукáна.*

**ГУКАЦЦА**, -á-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **гукаць**. *Бягі зы свáцьцію, інá ж ні гукáлыся яшчэ.*

**ГУКАЦЬ**, -á-ю, -á-іш; *незак.* Клікаць; запрашаць. *Я гукáў, а ты ня чуў, — заснýў, ці што. Гукáй усіх, бýдзім за стол садзіцца.*

**ГУКНУЦЦА**, -н-ёцца; *зак.* Зал.-бессуб'ект. ад **гукнуць**. *Пятрóк блізка, гукнéцца пазьнéй.*

**ГУКНУЦЬ**, -н-ý, -н-ёш; *зак.* Паклікаць; запрасіць. *Гукні, ніхáй ідзéць есьць. Спруўлялі вéчыр і гукнýлі усіх сусéдзіў.*

**ГУЛЕЦ** *м. іран.* Гуляка. *Гульцы — яшчэ ат зямлі ні атрасьлі, а ўжо ны вічарінкі бéгыцьім.*

**ГУЛЬНІВЫЙ** *асудж.* Гл. **гулец**. *Тым гульнівым усю ноч ні да сну.*

**ГУЛЯВЭЙ** і **ГУЛЯВЫЙ** *прым.* 1. Свабодны ад работы (звычайна пра каня); не заняты (пра рэчы). *Дождж — дык пасьці ўсе коні гулявэя. Вун гулявыя плугі, бярі любэй.* 2. *перан.* Дармовы. *Што ты, гулявога хлеба зыхацеў? Нічога табе — пулучаць гулявэя грошы.*

**ГУМНІШЧА** *н.* 1. Месца, дзе стаяла гумно. *Ну гумнішчы пысадзілі капусту.* 2. Павеліч. ад **гумно**. *Во було гумнішча!*

**ГУНІННЕ** (гуніньня) *н.* Знеслаўленне, ганьбаванне. *Ат твайго гуніньня нікому ні жарка, ні халодна.*

**ГУНІЦЦА**, -н-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **гуніць**. *Ніхай ён сам ны сябе пыглядзіць, калі ў яго усі гунюцца.*

**ГУНІЦЬ**, -н-ю, -н-іш; *незак.* Знеслаўляць, ганьбаваць. *Нашу работу ніхто ні станіць гуніць. На тоя й, сьвякрова, каб гуніць нявестку.*

**ГУРКОЎНІК** *м.* Агурочнік. *Летыся гуркоўнік рана пасох.*

**ГУСЦА**, гудзецца і гудзіцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **гусць** 2. *Учора табе дужа гулося.*

**ГУСЦЬ** (гусьць), гуду, гудзеш і гудзіш; *незак.* 1. Гусці. 2. *перан. часта іран.* Раўці, плакаць. *Скольки табе гадоў, што ты гудзеш як маленькій?*

**ГУТАРЭЛІ** (гутарелі) *толькі мн.* Гушкалка. *Павесіў гутарелі і цэлый дзень ні злазіць.*

**ГУТАШАННЕ** (гуташыньня) *н.* Гушканне. *Адно гуташыньня на ўме, большы нічога.*

**ГУТА́ШЫЦЦА**, -ы-юся, -ы-іська; *незак.* Гушкацца. *Ні гута́шыйся до́ўга, ад гута́шыньня гылыва́ зыбаліць.*

**ГУТА́ШЫЦЬ**, -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Гушкаць. *Мы гута́шыім ма́ліенькыга бра́ціка.*

**ГУТНУ́ЦЦА**, -н-у́ся, -н-е́ська; *зак.* Гушкануцца. *Гутну́ўся і пабе́г.*

**ГУТНУ́ЦЬ**, -н-у́, -н-е́ш; *зак.* Гушкануць. *Гутні, каб аж да сто́лі.*

**ГЭ́МЗАЛА** (гэ́мзыла) *м.* і *ж.* Гл. **гамза́**. *У гэ́мзылы ж усігда́ так: як надзе́ў што яко́я, дык цірiз пуўчыса́ ні пызна́іш.*

**ГЭ́МЗАЦЦА** (гэ́мзыцца), -ы-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **гэмзаць**. *Прібярі руба́шкі, чаго́ ім гэ́мзыцца.*

**ГЭ́МЗАЦЬ** (гэ́мзыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Гл. **гамзіць** 1. *Ні нуспруўля́ісься ж гэ́мзыць табе́ ны ка́жын ве́чыр.*

## Д

**ДАБА́ВАК** (дыба́вык) *м.* Прыбаўленне, дабаўка. *Усё зьеў і дыба́ўку пыпрасіў.*

**ДАБЕ́ДАШНІЙ** (дабе́дышній) *прым.* Гл. **дабе́дзенный**. *Пірівязьлі дабе́дышнія дро́вы* (нарыхтаваныя да абеда), *а пысьлібе́дышнія ні пасьпе́лі.*

**ДАБЕ́ДДЗЕ** (дабе́дзьдзя) *н.* Час да абеду. *Усё дабе́дзьдзя касілі.* Памянш. д а б е́ д з ь д з і к а.

**ДАБЕ́ДЗЕННЫЙ** (дабе́дзінный) *прым.* Перадабедзенны; зроблены, выкананы да абеда. *Дабе́дзінныя трыва́ к ве́чыру пасьці пацсо́хла. Дабе́дзінныя снапы́ пря́ма на ток.*

**ДАБРА́ЧЫЙ** (дыбря́чый) *прым.* Добры. *Дыбря́чыга чылаве́ка сабе́ ўзіла́. Дыбря́чыя пупа́лыся дзе́ўка.*

**ДАВЕ́ДАВАННЕ** (даве́дывыньня) *н.* Гл. **даве́дкі**. *Ну й даве́дывыньня — чэцьві́ра су́дык.*

**ДАВЕ́ДКІ** *толькі мн.* Наведванне. *Як пышла́ ўчо́ра ў даве́дкі, і ся́ньні німа́.*

**ДАВЕ́ДЫВАЦЦА** (даве́дывыцца), -вы-юся, -вы-ісься; *незак.* Наведваць. *Даўно́ сы́на даве́дывылыся, на́да зье́зьдзіць.*

**ДА́ЙЖА** *часц., зл.* Нават. *Во ціплыта́ ста́ла: да́йжа ўно́ччы бісь пінжыка́ ідзі́ куды́ хо́чыш.*

**ДАКУ́КА** 1. *ж.* Дакучанне, назалянне; сум. *Слу́хыць цябе́ — адна́ даку́ка.* 2. *м.* і *ж.* Той, хто дакучае, назаляе.

**ДА́ЛІ** *прысл.* Далей. *Сяре́дній хло́піц дале́ка зае́хыў, а ме́ншый яшчэ́ да́лі. Зра́зу рука́ тро́шку зыбале́ла, а тады́ да́лі — бо́лі, да́лі — бо́лі, — і ні пывярну́ць ста́ла.*

**ДА́ЛЬШЫЦЬ**, -ы-іць; *незак.* Аддаляцца, аддаляць. *Чым бо́льшы е́ду к то́му мыяку́, тым ён, ка́жыцца, да́льшыіць. Другей раз ні да́льшый жардзіну, прікыпа́й на тым са́мым ме́сьці.*

**ДАСУ́ЖЫЙ** *прым. неадабр.* Цікаўны. *Ня суй свой дасу́жый нос куды́ ні на́да. І чаго́ табе́ быць е́ткім дасу́жым.*

**ДАТВАРА́ЦЬ** (дытвыря́ць), -я́-ю, -я́-іш; *незак.* 1. Вычвараць. *Чаго́ то́лька ны сьпікта́клі ні дытвыря́лі!* 2. *перан.* Лаяць, бэсціць. *Як пыча́лі дытвыря́ць удзьвю́х усё усякыя—пы сыба́ччы з ро́та ска́чыць.*

**ДАТВАРЫЦЬ** (дытваріць), -р-ю, -р-іш; *зак.* Збэсціць. *Ужо такоя дытваріла, ваду-зямлю зьмішала.*

**ДАТУРКАЦЦА** (датуркыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *зак.* 1. Дабудзіцца. 2. Паслаць, выправіць. *Цэлый час ні датуркыісься.*

**ДАЎМІВАЦЦА** (дыўміваццa), -а-юся, -а-ісься; *незак.* Дадумвацца. *Ужо ні маліңькій, пыра сымаму ды ўсяго дыўміваццa.*

**ДАЎМІЦЦА**, -м-іцца; *зак.* Дадумацца, здагадацца. *Даўміўся такою хыладзіныю біс пыльта выпрыўляцца.*

**ДАЧУХ** *ж.* Гл. **дачухна**. *Во што я табе, дачух, скажу.*

**ДАЧУХНА** *ж. не скланяецца, ужываецца як зваротак.* Дачка; наогул дзяўчына. *Куды ж ты, дачухна, ні свет ні зыря сыбіраісься?*

**ДВУХДОНКА** *ж.* Бочка з двума днамі. *Ацслужыла двухдонка гадоў дваццыць, ды ўжо нада выкідаць — цякець.*

**ДЖГАЦЦА**, -а-юся, -а-ісься; *незак.* 1. Джацца (пра крапіву, насякомых). 2. *перан.* Парыцца. *Можа, час джгаіцца венікым і просіць пыддаць.* 3. Зал.-бессуб'ект. ад **джгаць** 3. *Лянь-ка, як табе хырашо посьлі прута джгаіцца.*

**ДЖГАЦЬ**, -а-ю, -а-іш; *незак.* 1. Джгаць (пра крапіву, насякомых). 2. *перан.* Парыць. *Джгай пы хрістках, каб дыняло.* 3. *перан.* Бегчы. *Джгаіць, толька пыл пыдніма іцца.*

**ДЖМУХНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Пабегчы, кінуцца (звычайна пра жывёлу). *Пацьцёлык джмухнуў ціріз быракі, — айдзе ты яго дагоніш.* 2. Ударыць.

**ДЖМЫХНУЦЬ**, -н-іць; *зак.* 1. Чмыхнуць. *Пыднісла́ цёлычкі по́іла, — айдзе́ ты ві́дзіў, каб піць: то́лька джмы́хнула.* 2. *перан.* Гл. **джму́хнуць** 1. *Я вiла́, вiла́, а йна вы́рвылыся і джмы́хнула ў клёвір.*

**ДЖО́ГІЙ** *прым.* Бадзёры; бойкі. *Джо́гія хло́пцы, нечыга скыза́ць.*

**ДЖЫГНУ́ЦЦА**, -н-уся і -н-у́ся, -н-ісься і -н-е́сься; *зак.* Абпячыся крапівой. *Лёг ны траву́, а там крапі́ва; джыгну́ся — плячо́ як агнём гары́ць.*

**ДЖЫГНУ́ЦЬ**, -н-у і -н-у́, -н-іш і -н-е́ш; *зак.* 1. Джгануць (пра насякомых, крапіву). *Джыгну́ — і саўе́сься.* 2. *перан.* Папарыць.

**ДЗЕ́ЙКА** *ж.* Пагалоска, чутка, гаворка. *Пачу́ў дзе́йку, а ці пра́ўда—ні зна́ю.*

**ДЗЕ́ЙКАННЕ** (дзе́йкыньня) *н.* Гл. **дзе́йка**. *Прайшло́ дзе́йкыньня пы дзяре́ўні, што ён жаніцца хо́чыць.*

**ДЗЕ́ЙКАЦЦА** (дзе́йкыцца), -ы-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **дзе́йкаць**. *Дзе́йкыіцца між людзе́й уся́кыя.*

**ДЗЕ́ЙКАЦЬ** (дзе́йкыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Гаварыць, казаць, пускаць чуткі. *Ні ўсяму́ верь, што дзе́йкыюць.*

**ДЗЕРВЯНЕ́ЦЬ** (дзірьвяне́ць), -е́-ю, -е́-іш; *незак.* 1. Дрантвець, нямець. *Но́гі пыча́лі дзірьвяне́ць ат хо́лыду.* 2. *перан. груб.* Паміраць.

**ДЗЁНЦА** *н.* Невялікая драўляная накрыўка для пасуды. *Накры́ла ла́тку дзёнцым і ка́мнім пріклáла зьве́рьху.*

**ДЗО́ГАННЕ** (дзо́гыньня) *н. неадабр.* Гойсанне, гарцаванне; сваявольства, дурыкі. *С са́мінькыга ра́ньня пычына́іцца тваё дзо́гыньня.*

**ДЗО́ГАЦЦА** (дзо́гыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *незак. неадабр.* Гл. **дзо́гаць.** *Чаго́ вы дзо́гыіцціся, аж сьце́ны хыдаро́м хо́дзюць.*

**ДЗО́ГАЦЬ** (дзо́гыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак. неадабр.* Гойсаць, гарцаваць, насіцца; сваволіць, дурэць. *Дзо́гылі пы крыва́ці, стулува́лі усю́ чыста.*

**ДЗО́ГНУЦЦА**, -н-уся, -н-ісься; *зак. неадабр.* Упасці, зваліцца дурэючы, сваволячы. *Бе́гыў па кры́шы, паку́ль дзо́гнуўся ны зямлю́.*

**ДЗО́ГНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Прыгнуць, упасці, зваліцца гойсаючы, дурэючы, сваволячы. 2. Пабегчы (звычайна пра жывёлу). *Дзо́гнула пы пасе́вых і прулума́ла усьця́ж сьлед.*

**ДЗУ́ГАЦЦА** (дзу́гыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *незак.* Гл. **дзо́гаць**. *Ня дзу́гыйся па се́ну, яго́ ж скаціна тады́ ў рот ня во́зьміць.*

**ДЗУ́ГАЦЬ** (дзу́гыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Гл. **дзо́гаць**.

**ДЗУ́НУЦЦА**, -н-уся, -н-ісься; *зак.* Ударыцца. *Аб не́йкую прытырча́ку дзу́нуўся гылаво́ю.*

**ДЗУ́НУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* Ударыць. *Ня лезь — дзу́ну, што зу́бы пыдбяре́ш.*

**ДЗЯВУ́ЛЯ** *ж. асудж.* Дзяўчына. *Тыка́я дзяву́ля, а ня ўме́іць есьць зварі́ць.* Павеліч. д з я в у́ л і ш ч а.

**ДЗЯ́ЖЫЦЦА**, -ж-ыцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **дзя́жыць**. *Чаго́ табе́ дзя́жыцца так, ці ні пя́ты сьвірьбя́ць?*

**ДЗЯЖЫЦЬ**, -ж-у, -ж-ыш; *незак.* Бегчы. *Куды ты так дзяжыш?*

**ДЗЯРАБНУЦЬ** (дзірябнуць), -н-у, -н-іш; *зак. гумар.* Выпіць, напіцца. *Дзірябнулі ладна ў гысьцях. Дзірябнуў стыканчык сьпірту.*

**ДЗЯРНО** *н.* Дзірван, дзёран. *Выклыў даро́жку дзярно́м.*

**ДЗЯЎБАННЕ** (дзіўбаньня і дзюўбаньня) *н.* 1. Дзяўбанне (пра птушак). *Кыш, зь дзіўбаньнім.* 2. *іран.* Няўмелая работа (кляпанне касы, прабіванне дзірак). *Сваім дзіўбаньнім адно лыпатухі нагоніш.*

**ДЗЯЎБАЦЬ** (дзіўбаць і дзюўбаць), -б-у́ і -а́-ю, -б-е́ш і -а́-іш; *незак.* 1. Дзяўбці. *Ціпляткі вылізьлі зь ійца — і ўжо дзіўбаюць.* 2. *перан. гумар.* Піць, выпіваць; есці. *Дзіўбалі, відзіў, гарэлку зы ларько́м. Усе́ліся кругом міскі і дзяўбуць.* 3. *іран.* Рабіць няўмела (прабіваць дзіркі, кляпаць касу). *Дзяўбе́ць касу ды пацёмкыў. Харошым до́лытым і дзіўбаць скора. Дзіўбаю дзіркі пы адной, бу́дзіць ле́сьвіца.*

**ДЗЯЧАННЕ** (дзячыньня) *н.* Балбатанне, плявузганне (з мэтай упэўніць, пераканаць). *А йдзі ты зь дзячыньнім сваім, ці цяпе́ріцька ўре́мя слухыць.*

**ДЗЯЧЫЦЬ**, -ч-у, -ч-ыш; *незак.* Балбатаць, плявузгаць; многа гаварыць (з мэтай упэўніць, пераканаць). *Дзячыць і дзячыць адно́ й то́я, аж слухыць ныдае́ла.*

**ДНО** *н.* 1. Дно. 2. *спец.* Круглая накрыўка для драўлянага посуду (бочкі і інш.). *Накрыла гуркі дном і прілажыла зьве́рьху ка́мнім.*

**ДО** *выкл.* Хопіць, досыць, даволі. *До́ ўжо вылёжывыцца.*

**ДО́БРА** (до́бря) *прысл.* Так і трэба. *До́бря табе́, ні на́да було́ пыдліза́ць.*

**ДОР** *м.* Гонты. *Пад до́рым пу́нька зьвікува́ла.*

**ДО́РГАЦЦА** (до́ргыцца), -ы-іцца; *незак.* Торгацца, рвацца, вырывацца. *Конь ня хо́чыць стыя́ць прівя́зыный, усё до́ргыіцца.*

**ДО́РГАЦЬ** (до́ргыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* 1. Нарываць. *Па́ліц до́ргыіць другéй дзень.* 2. Торгаць, выцягваць, рваць, вырываць. *Ня до́ргый ніткі, мыта́й паціху. До́ргыў-до́ргыў кол, а ён ні зь ме́ста.* 3. Крывіць, курчыць. *До́ргыла ўсяго́ ды са́мінькыга ра́ньня.* 4. Рваць, ванітаваць. *Што ня зьем — до́ргыіць, пышла́ к дакто́ркі — абрэ́мінна.*

**ДОС** *выкл.* Гл. **до**. *Дос табе́ ўжо прістыва́ць к дзіцёнку.*

**ДО́СТКА** *ж.* Дошка. *Купіў до́стык на мост і яшчэ́ астало́ся.*

**ДРАВАТО́ННЕ** (дрывато́ньня) *н.* Гл. **дравато́ннік**. *Тапо́р ляжы́ць ны дрывато́нні.*

**ДРАВАТО́ННІК** (дрывато́ньнік) *м.* Дрывотнік. *Дрывато́ньнік зугрузілі лам'ём, — калі яго́ цяпе́ріцька прібярэ́ш.*

**ДРАВАТО́НЬ** (дрывато́нь) і **ДРАВАТО́НЯ** (дрывато́ня) *ж.* Гл. **драваттóннік**. *Ідзі́-ка ды прібя́рі тро́шку ны дрывато́ні.*

**ДРА́ЧА** *ж.* Мёрзлая, не пакрытая снегам зямля; снег на дарозе, змёрзлы пасля адлігі. *Пы дра́чы ўраз во́був рассы́пліцца.*

**ДРА́ЧКА** *ж.* Тарка. *Узіла́ дра́чку — і бягі́ цяпе́рь за ёю.*

**ДРО́ЦЦЕ** (дро́цьця) *н.* Дрот, кавалкі дроту. *Раські́дыў дро́цьця — сам прібіра́й.*

**ДРЫЗНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* Гл. **дзяра́бнуць**. *Дры́знулі ла́дна, чуць пріцягну́ліся.*

**ДРЫН** *м.* Палка, палена. *Ба́цька за сы́ным гыня́іцца з дры́ным* (прыгаворка).

**ДРЫ́НКАЦЦА** (дры́нкыцца), -ы-іцца; *незак.* Гл. **дры́нкаць** 2, 3. *Надзе́ла спадні́цу, што дры́нкыіцца пы піта́х. Куды́ я, туды́ і ён дры́нкыіцца, ні ны шаг ні астае́цца.*

**ДРЫ́НКАЦЬ** (дры́нкыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* 1. Брынкаць, брынчаць. *Дры́нкыіць як ні сваі́мі рука́мі. Не́хта не́чым дры́нкыў зы ўса́дзьбымі.* 2. *перан.* Біцца па нагах (пра доўгае адзенне). *Як жа ты хо́дзіш, што дры́нкыіць пы пя́тых.* 3. *перан. неадабр.* Ісці ўслед, валачыся. *Дры́нкылі як по́сьлі касы́.* 4. *перан. неадабр.* Швэндацца, бадзяцца. *Чаго́ ты дры́нкыіш бязь дзе́ла?*

**ДРЫ́НКНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* Брынкнуць, забрынчаць. *Не́хта дры́нкнуў ны былыла́йкі і пірі́ста́ў.*

**ДРЫНЧЭ́ЦЦА**, -ч-ы́цца; *незак. асудж.* Зал.-бессуб‘ект. ад **дрынчэ́ць** 3. *Ёй і дзень дрынчы́цца, і ноч спако́ю ні бува́іць.*

**ДРЫНЧЭ́ЦЬ**, -ч-у́, -ч-ы́ш; *незак.* 1. Гл. **дры́нкаць** 1, 2. 2. *перан.* Бегчы. *Ні ўспако́іціся — бу́дзіця дрынчэ́ць с сало́мы аж дзіві́цца.* 3. *перан. асудж.* Балбатаць, лапатаць; шумець, бушаваць. *Ці ні пыра́ табе́ пірі́ста́ць дрынчэ́ць. Ні дрынчы́, дай спако́ю ны міну́тку.*

**ДУКАВА́ННЕ** (дукува́ньня) *н.* Вучоба; пераконванне. *І чаго́ йта, ма́ліц, ды цябе́ ні дахо́дзіць ні́якыя дуку́ва́ньня?*

**ДУКАВА́ЦЬ** (дукува́ць), дуку́ю, дуку́іш; *незак.* Настаўляць на розум, навучаць; настойліва

даводзіць, пераконваць. *Дукýю-дукýю сына, а ён і слýхыць ня хóчыць.*

**ДУЛЁЎКА** *ж.* Гл. **дýля**. *Дулёўкі ўрадзіліся — пу хунтý.*

**ДÝЛІНА** *ж.* Гл. **дýля**. *Купіў дýліну, ніхáй сядзіць. Ці хóчыш дýліну: цьвірдувáта, ды дýжа салóдка.*

**ДÝЛЬКА** *ж.* Гл. **дýля**. *Пысадзіў пяць дýлік, мóжа, прімуцца.*

**ДÝЛЯ** *ж.* Груша (дрэва і плод). *Зьмёрзла чатыры дýлі. Натрёс дуль пóўную зыпáзуху.*

**ДУНÝЦЬ**, -н-ý, -н-éш; *зак.* 1. Дзьмухнуць. *Дуні ны агóнь.* 2. *перан.* Пайсці імкліва; кінуцца, пабегчы (часта пра жывёлу). *Дунýла ў грібы, яшчэ сóнца ні пыкызáлася. Хадзіў-хадзіў конь ціха, а тады́ дунýў пы грідáх.*

**ДУХ** *м.* 1. Цяпло, цеплыня. *Дух сь пéчы йдзець.* 2. Пара. *Ныдáў дýху — ня ўсéдзіць.* 3. Смурод. *Нéйкій дух с кустóў цягніць — ні прады́хыць.* Памянш. д у ш ó к. *Ад дубóвых дроў душóк мігым пóйдзіць, éта ні асіна гнілáя. Ну хто ж тваё мяса кýпіць з душкóм.*

**ДÝХАМ** (дýхым) *прысл.* Хутка, хуценька. *Дýхым бягі зы бáцькыю, ніхáй ідзéць двóру.*

## Ж

**ЖÁБІЦЦА**, -б-іцца; *незак.* Перагібацца, перагінацца. *Нарéзыў такéя лазы́, што ўся жáбіцца, карзінкі ні спляцéш.*

**ЖÁБІЦЬ**, -бл-ю, -б-іш; *незак.* Перагібаць, перагінаць. *Пляці карзінку акурáтна, ні жаб лазы́.*

**ЖАВІ́НА** *ж.* Ажына. *Ныбра́ў ша́пку жаві́н.*

**ЖАВІ́НІНА** *ж.* Ажына (са значэннем адзінкавасці).

**ЖАВІ́ННІК** (жаві́ньнік) *м.* Ажыннік. *Кылы Сыжа́ ў куста́х жаві́ньніку — ні пралёзьць.*

**ЖАЛЁЗЗЕ** (жалёзьзя) *н.* Металічныя рэчы; металалом. *Нывязьлі́ ў ла́ўку ўся́кыга жалёзьзя. Зугрузі́ў жалёзьзім увёсь ву́гыл, на́да бу́дзіць завёзьць ды здаць.*

**ЖАЛЁЗЫ** *толькі мн.* 1. Пастка для кратоў. *Злаві́ў крыта́ жалёзымі.* 2. *уст.* Жалезныя путы з замком для коней. *По́мню, була́ныга зьвялі́ і жалёзы ні пымаглі́, — пірярёзылі.*

**ЖАНА́ЦІК** (жына́цік) *м. іран.* 1. Той, хто нядаўна ажаніўся. 2. Той, каму даўно пара ажаніцца або хоча ажаніцца. *Скора підзьдзіся́т, а ўсё яшчэ́ жына́цікым хо́дзіць. Усхадзі́ўся наш жына́цік, ні адно́й віча́рінкі ні прапу́сьціць.*

**ЖАРАЛО́** (жыряло́) *н.* Невялікая адтуліна ў пограбе, праз якую насыпаецца бульба. *На́ зіму жыряло́ усігда́ зытыка́іцца на́глуха.*

**ЖА́ХАННЕ** (жа́хыньня) *н.* Біццё; удары. *Ніхто́ твайго́ жа́хыньня ні баіцца* (у адказ на пагрозу жахнуць).

**ЖА́ХАЦЦА** (жа́хыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *незак.* Ударацца; выцінацца; стукацца. *Ско́лька раз хадзі́ла — і ўсё жа́хылыся аб вёрбу.*

**ЖА́ХНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Ударыць; хвоснуць. *Жа́хнуў па́лкыю. Жа́хну рёмнім, аж шку́ра трёсьніць.* 2. Пабегчы, хутка пайсці. *Жа́хні ціра́зь лес і вы́скычыш пря́ма ны быльша́к.*

**ЖА́ЧКА** *ж.* Жняярка. *Пайду́ тачыць нажы́ к жа́чкі.*

**ЖВЯ́ЛА** *прысл.* Жвава. *Жвя́ла бягі ў Астре́йкывічы.*

**ЖВЯ́ЛАСЦЬ** (жвя́лысьць) *ж.* Жвавасць. *Каб твыя́ жвя́лысьць ды ны путно́я дзе́ла.*

**ЖВЯЛЕ́Й** *прысл.* Жвавей. *Пыдбягі тро́шку жвяле́й, цэл бу́дзіш.*

**ЖВЯЛЕЙШЫЙ** *прым.* Жвавейшы. *Я ў тває́ гады́ куды́ жвяле́йшым быў.*

**ЖВЯЛЕ́ЦЬ**, -е-ю, -е-іш; *незак.* Жвавець. *Ціля́ткі, як вы́йшлі ны траву́, зра́зу ста́лі жвяле́ць.*

**ЖВЯ́ЛЫЙ** *прым.* Жвавы. *Ду́жа ты жвя́лый, аж ня ў ме́ру.*

**ЖВЯ́НЬКАЛА** (жвя́нькыла) *м.* і *ж.* Пляткар. *Жвя́нькылу каб то́лька було́ сь кім язы́к чыса́ць.*

**ЖВЯ́НЬКАННЕ** (жвя́нькыньня) *н.* Дакука, пляткарства, назойлівасць. *Тако́га жвя́нькыньня ні піряслу́хыіш і за ме́сіц.*

**ЖВЯ́НЬКАЦЦА** (жвя́нькыцца), -ы-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **жвянькаць**. *Жвя́нькылыся б вам і жвя́нькылыся, каб то́лька нічо́га ня дзе́лыць.*

**ЖВЯ́НЬКАЦЬ** (жвя́нькыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Надакучаць, назаляць размовамі. *Жвя́нькылі-жвя́нькылі, паку́ль рызыйшлі́ся.*

**ЖВЯ́НЬКНУЦЬ**, -н-у, н-іш; *зак.* Сказаць, пусціць чутку, пагалоску. *Бы́лі жвя́нькнулі, што нібы́тта разьве́ўся, ажно́ ніпра́ўда е́та.*

**ЖУБРАВА́ННЕ** (жубрува́ньня) *н.* 1. Працяглая старанная праца. 2. *неадабр.* Выпрошванне.

**ЖУБРАВАЦЬ** (жубрува́ць), -у́-ю, -у́-іш; *незак.* 1. Доўга старанна працаваць, рабіць што-н. *Жубру́іць су́дкымі нат кнігыю.* 2. *неадабр.* Выпрошваць. *Чы́мся хадзіць пы ха́тых жубрува́ць, пышла́ б вун ныкіда́ць пясо́к.*

**ЖЫЛАМАТНЫЙ** (жы́лымытный) *прым.* Бружмелевы. *Вы́ріжу сабе́ жы́лымытный кіёк.*

**ЖЫЛАМАЦЬ** (жы́лымыць) *ж.* Бружмель. *Пысадзіў куст жы́лымыці.*

**ЖЫЛЛЕ** (жы́льля) *н.* Жылы. *Нырва́ў жы́льля, паку́ль вы́вірнуў пень.*

**ЖЫЦЕ́ЙНАСЦЬ** (жыце́йнысьць) *ж.* Практычнасць. *Жыце́йнысьці ў цябе́ ма́ла, — во́ што я табе́ скажу́.*

**ЖЫЦЕ́ЙНЫЙ** *прым.* Практычны. *Зы жыце́йным чылаве́кым ні прыпадзе́ш.*

**ЖЭРДЗЬ** *ж.* Жэрдка; рубель. *Абгырадзіў жырдзя́мі уса́дзьбу. Са́мыя лу́ччыя жэ́рдзі — яло́выя.*

## З

**ЗАБАЎЛЯ́ЦЦА** (зыбыўля́цца), -я́-юся, -я́-ісься; *незак.* 1. Забаўляцца. 2. *перан.* Затрымлівацца. *Каб ні зыбыўля́ўся, і пасьпе́лі б са́мый раз, — а так мыгазін закры́лі. Бягі, ды ні зыбыўля́йся.*

**ЗАБЕ́Л** *м.* Гл. **забяля́нне**. *Айдзе́ пыста́віла забе́л — вума́ ні прілажу́.*

**ЗАБЕ́ЛІВАННЕ** (забе́лівыньня) *н.* Гл. **забяля́нне**. *Во е́та забе́лівыньня — пасьці адно́ мылако́.*

**ЗАБРЫДЗЕ́ЦЬ** (зыбрыдзе́ць), -дз-іць; *зак.* Патурбаваць, закрануць, крануць. *Ці ён гывары́ў, ці ні гывары́ў — мне е́та ніско́лічка ні зыбрыдзе́ла.*

**ЗАБРЫТА́НЫЙ** (забры́тыный і зыбрыта́ный) *дзеепрым.* 1. З надзетай аброццю (пра каня). *Пусьці́ў зыбрыта́ныга ны міну́тку.* 2. *перан. іран.* Той, які трапіў пад чый-н. уплыў, у чые-н. рукі. *Ду́жа ж ты ла́дна хо́дзіш зыбрыта́ным.*

**ЗАБРЫТА́ЦЬ** (зыбрыта́ць), -а́-ю, -а́-іш; *зак.* 1. Надзець аброць. *Жарёбка ні лаві́лыся, чуць зыбрыта́ў.* 2. *перан. іран.* Аказваць на каго-н. уплыў; узяць у рукі. *Зыбрыта́ў ён цябе́, цяпе́ря ня зьле́зіць.*

**ЗАБРЫ́ТЫВАННЕ** (забры́тывыньня) *н.* Надзяванне аброці. *У цябе́ забры́тывыньня — цэ́лый час.*

**ЗАБРЫ́ТЫВАЦЬ** (забры́тывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* 1. Надзяваць аброць (на каня, цялё). *Забры́тывый ды садзі́ся, не́кылі ба́бчыцца й ма́сьліцца.* 2. *перан. іран.* Аказваць на каго-н. уплыў, браць у рукі. *Уме́іць забры́тывыць, хто хо́чыш бу́дзіць скыка́ць пыд яго́ ду́дку.*

**ЗАБЯЛЯ́ННЕ** (зыбіля́ньня) *н.* 1. Дабаўленне ў страву малака. *Зыбіля́ць — дык зыбіля́й як на́да, а то ліне́ць ло́жку — і ўсё зыбіля́ньня.* 2. Малако, дабаўленае ў страву. *Лі зыбіля́ньня, каб крупе́ня была́ ціряз ло́жку.*

**ЗАБЯЛЯ́ЦЦА** (зыбіля́цца), -я́-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **забяля́ць**. *Е́та ж я саўсі́м забы́ла, у мяне́ ж крупе́ня ні зыбіля́лыся.*

**ЗАБЯЛЯ́ЦЬ** (зыбіля́ць), -я́-ю, -я́-іш; *незак.* Дабаўляць у страву малака. *Сцáджывый клёцкі ды зыбіляй, яны́ ўжо зваріліся.*

**ЗАВАДЭ́ВУШ** (зывадэ́вуш) *м.* Завадатар; ініцыятар. *Біз зывадэ́вуша вы б ні палéзьлі у чужэ́я гуркі. У любóй рабóці зывадэ́вуш.*

**ЗАВА́Л** (зывáл) *м.* 1. Завала. *Узяў дзьвéрі ны зывáл.* 2. *спец.* Вал загрэбенага сена. *Ссýнулі сéна ў зывáлы і пычалí пірібірáць.*

**ЗА́ВАЛЬНЯ** (зáвыльня) *ж.* Прызба. *Пріклáў зáвыльню бульбóўнікым.*

**ЗАВАРА́ЧЫВАЦЦА́** (зывырáчывыцца), -(вы)-юся, -(вы)ісься; *незак.* 1. Заварочвацца, адварочвацца; падварочвацца. *Ні зывырáчывыйся ўжо, ні зывырáчывыйся, — усé віджу.* 2. *спец.* Прымацоўвацца (пра аглоблі).

**ЗАВАРА́ЧЫВАЦЬ** (зывырáчывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* 1. Заварочваць, адварочваць; падварочваць. 2. *спец.* Прымацоўваць аглоблі. *Рáншы зьдзéлый ны аглыбля́х зарýбкі, а тады́ зывырáчывый.*

**ЗА́ВЕРТ** (зáвірт) *м. спец.* Кавалак моцнай вяроўкі, якім аглобля прымацоўваецца да саней. *Біз зáвіртыў ні паéдзіш.*

**ЗАВЕ́СЦА**, зывядзéцца; *зак.* Завесціся. *Ніхáй карóва пыстаíць у пýні, пазьнéй зывядзéцца ў пастýх. Машы́на скóра зывілáся. Зывялóся пáру кýріц.*

**ЗАВІ́ДЛІВЫЙ** *прым.* Зайздросны. *Завíдлівыму ўсё мáла.*

**ЗАВІ́ДЫВАННЕ** (завíдывыньня) *н.* Зайздрасць. *Ні хаці такóга завíдывыньня.*

**ЗАВЯРА́ЦЦА** (зывіра́цца), -я́-іцца; *незак.* Рабіцца, тварыцца. *Што ў вас, дзе́ці, зывіра́іцца, чаго́ вы но́сіціся туды́ й ныза́д?*

**ЗАВЯРНУ́ЦЦА** (зывярну́цца), -н-у́ся, -н-ісься; *зак.* 1. Завярнуцца, адвярнуцца; падвярнуцца. *У цялёнка гало́ўка зывярну́лыся, пыпра́ў. Зывярну́ўся й ні глядзі́ць, усёдно як ня ві́дзіць.* 2. *спец.* Прымацавацца (пра аглоблі). *Агло́блі зывярну́ліся кре́пка.*

**ЗАВЯРНУ́ЦЬ** (зывярну́ць), -н-у́, -н-іш; *зак.* 1. Завярнуць, адвярнуць; падвярнуць. *Зьбе́гый скаре́й зывярні аве́ц.* 2. *спец.* Прымацаваць аглоблі да саней. *Зывярну́лі агло́блі, хва́ціць на ўсю зіму́.*

**ЗА́ГАВА́ЛЬНЯ** (за́гывыльня і зугува́льня) *ж.* Гл. **за́вальня**. *Расьсе́ліся ну зугува́льні да по́ўнычы.*

**ЗА́ГАВІННЕ** (за́гывіньня) *н. уст.* Гл. **за́гаўкі**.

**ЗА́ГАЎКІ** (за́гыўкі) *толькі мн. уст.* Запускі, загавіны. *За́гыўкымі ёзьдзілі к сваі́м пад Во́ршу.*

**ЗАГУ́НА** *ж.* Асуджэнне. *Хто́ б ужо́ дыва́ў загу́ну, то́лька ня ты.*

**ЗАГРЭ́СЦА** (загре́сца), зыгрябе́цца; *зак.* Загрэбціся, згрэбціся. *Едзь, зыгрябе́цца атве́чыра.*

**ЗАГРЭ́СЦЬ** (загре́сьць), зыгрябу́, зыгрябе́ш; *зак.* 1. Загрэбці, згрэбці. 2. *перан. асудж.* Пацягнуць, хапануць, украсці. *Зыгрябли́ капу́ з лу́гу, а хто — шука́й цяпе́ріцька.*

**ЗА́ДАБРА** (за́дыбра) *ж.* Заправа. *Чаго́ там гывары́ць: ёсьць за́дыбры на ўсю зіму́ і на ле́та яшчэ́ аста́ніцца.*

**ЗАДА́ЧА** (зыда́ча) *ж.* 1. Задача. 2. Удача. *Табе́ зыда́ча — е́ткую няве́стку сын прівёз: і красі́выя, і гра́мытныя.*

**ЗАДА́ШНА** (зыда́шна) *прысл.* Удачна. *Зыда́шна зьёзьдзілі ў дро́вы.*

**ЗАДА́ШНЫЙ** (зыда́шный) *прым.* Удачны. *Ня ду́жа зыда́шныя былі́ я́гыды: пуўкарзі́нычкі прінісла́.*

**ЗАДО́ЎКА** *ж.* Моцная вяроўка для ўвязвання вазоў з сенам. *Біз задо́ўкі ў луг ні выпрыўля́йся і ні ныріджа́йся.*

**ЗАКАЗА́ЦЦА** (зыкыза́цца), -ж-ыцца; *зак.* Зал.-бессуб'ект. ад **заказа́ць**. *Едзь у хво́рыст, на схо́дку зыка́жыцца пад ве́чыр.*

**ЗАКАЗА́ЦЬ** (зыкыза́ць), -ж-у́, -ж-ыш; *зак.* 1. Даць даручэнне, зрабіць заказ. *Зыкыза́ць бо́ты.* 2. Апавясціць. *На ўстре́чу зь дзіпута́тым зыкыза́лі яшчэ́ з ра́ньня.*

**ЗАКА́ЗЫВАЦЬ** (зыка́зывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* 1. Даваць даручэнне, рабіць заказ. 2. Апавяшчаць. *Не́йкій хлапчы́на бе́гыў, зыка́зывыў зьбіра́цца у Га́нны.*

**ЗАКАРУ́ЗЛЫЙ** (зыкарю́злый) *прым.* 1. Брудны; пакрыты, абсохлы брудам, граззю. 2. *перан.* Адсталы; старасвецкі. *Яго́ яшчэ́ мно́гія по́мнюць: зыкарю́злый быў, усё мікіла́іўкі хува́ў.* 3. *перан.* Сквапны. *У тако́га зыкарю́злыга чылаве́ка зімо́ю сьне́гу ня вы́прысіш.*

**ЗАКАРУ́ЗНУЦЬ** (зыкарю́знуць), -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Пакрыцца, абсохнуць брудам, засохнуць (пра гразь). *Грязь зыкарю́зла ны пінжаке́ і ні аcьціра́іцца.* 2. *перан.* Зрабіцца адсталым. *Пычыта́й газе́ту, а то зыкарю́зьніш саўсім.*

**ЗАКАРЭЛЫЙ** (зыкарéлый) *прым.* Гл. **закарузлый.** *Хóдзіць зыкарéлый па вýшы. Зыкарéлый: у ягó нічóга ня вы́прысіш і ня вы́мыліш.*

**ЗАКАРЭЦЬ** (зыкарéць), -é-ю, -é-іш; *зак.* Гл. **закарýзнуць.** *Сьвіньня́ зыкарéла, што вачэ́й ня вíдна. Хуць рáдзіва прывядзíця — зыкарéіця.*

**ЗАКІДАННЕ** (зыкідáньня) *н.* Гл. **закíдыванне.** *С такíм зыкідáньнім хвáціць рабóты ды марóзыў.*

**ЗАКІДАЦЦА** (зыкідáцца), -á-іцца; *незак.* Гл. **закíдывацца.** *Ся́ньня у вас сьцéнка нéшта ні зыкідáіцца.*

**ЗАКІДАЦЬ** (зыкідáць), -á-ю, -á-іш; *незак.* Гл. **закíдываць.** *Атвéчыра пычáлі зыкідáць, трі бірнушкí прíпусьцілі.*

**ЗАКІДЫВАННЕ** (закíдывыньня) *н.* 1. Закідванне. 2. *спец.* Закладванне бярвенцаў у шулы пры будаўніцтве хлява або ў штандары пры будаўніцтве дома. *У цябé закíдывыньня — як рýкі ні тудь́і слýжуць: гарбíну ны гарбíну, сук на сук.*

**ЗАКІДЫВАЦЦА** (закíдывыцца), -(вы)іцца; *незак.* 1. Закідвацца. 2. *спец.* Закладвацца ў шулы або штандары (пра бярвенцы).

**ЗАКІДЫВАЦЬ** (закíдывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* 1. Закідваць. 2. *спец.* Закладваць у шулы або штандары (пра бярвенцы). *Да бéда закíдывыў сьцéнку.*

**ЗАКІНУТЫЙ** *дзеепрым.* 1. Закінуты. 2. *спец.* Закладзены ў шулы або ў штандары (пра бярвенцы), пабудаваны (пра сценку хлява або фундамент). *Стрóім рáзым і хáту, і пýню, хун-*

*дáмінт ужó ўвесь закінут і ў пýні чатыры сьцёнкі закінута.*

**ЗАКІ́НУЦЦА**, -н-іцца; *зак.* 1. Закінуцца. 2. *спец.* Закласціся ў шулы або штандары (пра бярвенцы). *Пýня — ні хáта: пáру сьцёнык закі́нулыся — во й скаціна ні ны буі́ стаіць.*

**ЗАКІ́НУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Закінуць. 2. *спец.* Закласці ў шулы або штандары (пра бярвенцы). *Сьцёнкі ўжо закінуў, цяпéрь накры́ю — і пýня гатóва.*

**ЗАКÓХАЦЬ** (закóхыць), -ы-іць; *зак.* Заквахтаць. *Квакýха закóхыіць — і ціплятки зрáзу к ёй.*

**ЗА́КУЛІК** *м.* Невялікі моцна звязаны сноп перабранай саломы, які служыць для задзелкі шчытоў, застрэшкаў. *Зьвізáў нéйкую сóтню зá-кулькыў — ны бáньчыну* (лазню) *хвáціць.*

**ЗАЛÓМ** *м. уст.* Завязаны вузлом пучок збожжа на корані. *Во прідýмыла: у залóмы вé-ріць.*

**ЗАМУ́ЗДА́НЫЙ** (замуздыный і зумузда́ный) *дзеепрым.* Закілзаны. *Зумуздáный як шаўкóвый: дýжа грýзьдзіла баіцца.*

**ЗАМУЗДА́ЦЦА** (зумузда́цца),-а́-іцца; *зак.* Закілзацца. *І злавіўся бяз гóря, і зумуздáўся зрáзу.*

**ЗАМУЗДА́ЦЬ** (зумузда́ць), -а́-ю, -а́-іш; *зак.* Закілзаць. *Зумуздáў, ускачыў — тóлька пыль пыднілáся, панёсься.*

**ЗАМУ́ЗДКА** *ж.* Закілзоўванне. *Біз замýздкі ні садзíся, зрáзу ські́ніць.*

**ЗАМУ́ЗДЫВАННЕ** (заму́здывыньня) *н.* Гл. **заму́здка**. *Ні вазíся з замýздывыньнім, даў грýзьдзіла ў зýбы і едзь.*

**ЗАМУ́ЗДЫВАЦЦА** (заму́здывыцца), -(вы)іцца; *незак.* Закілзвацца. *Хуць плач, ні даецца замуздывыцца: гылаву ўгору — і ўсё.*

**ЗАМУ́ЗДЫВАЦЬ** (заму́здывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* Закілзваць. *Зьвёздычку можна ні замуздывыць, іна ціхыя.*

**ЗА́ПЛУТ** *м.* Страта арыенціроўкі, закрут. *Найшоў нейкій заплут, ні знаю, ў якей бок іціць двору, — і ўсё.*

**ЗАПЛУТАХА́ЦЦА** (зуплутуха́цца), -а́-юся, -а́-ісься; *зак.* Заблытацца, ублытацца; заблудзіцца. *Зуплутухаўся ў лазе, чуць выліз.*

**ЗАПЛУТАХА́ЦЬ** (зуплутуха́ць), -а́-ю, -а́-іш; *зак.* Заблытаць, ублытаць; збіць з тропу. *Зуплутухаў ты мяне сваімі саветымі.*

**ЗАПЛУ́ТА́ЦЦА** (заплу́тыцца і зуплута́цца), -ы-юся і -а́-юся, -ы-ісься і -а́-ісься; *зак.* Гл. **заплутаха́цца**. *Зуплуталіся зь ніткымі, ніяк ні рызьбяремся.*

**ЗАПЛУ́ТА́ЦЬ** (заплу́тыць і зуплута́ць),-ы-ю і -а́-ю, -ы-іш і -а́-іш; *зак.* Гл. **заплутаха́ць**. *Заплутыла, што ні рышчашу.*

**ЗАСКА́БІЦЦА** (зыска́біцца), -б-іцца; *зак.* 1. Застраміцца. *Паліц зыскабіўся.* 2. *перан. іран.* Гл. **заска́біць** 2. *І сам зыскабіўся, і бяс сына ні абыйшлося.*

**ЗАСКА́БІЦЬ** (зыска́біць), -бл-ю, -б-іш; *зак.* 1. Застрэміць. *Зыскаб паліц, дык нырываіць.* 2. *перан. іран.* Набыць (несумленным шляхам); нажыцца на чым-н. *Пыглядзі ны брігадзіра: зыскабіў руку кыла сена, цяпер маўчыць, як вады ў рот ныбраў.*

**ЗАСКА́БЛІВАЦЦА** (зыска́блівыцца), -(вы)іцца; *незак.* Застрэмліваца. *Няўме́ка за што ня во́зьміцца, у яго́ ру́кі зыска́блівыюцца.*

**ЗАСКА́БЛІВАЦЬ** (зыска́блівыць), -(вы)ю, -(вы) іш; *незак.* Застрэмліваць. *Ці раз я ладо́ні зыска́бліваў.*

**ЗАСЛУГО́ВАНЫЙ** (зуслуго́вытый) *прым.* Заслужаны. *Прішо́ў з вайны́ зуслуго́вым, гру́дзі аж бліщэлі.*

**ЗАСТАВА́ННЕ** (зыстыва́ньня) *н.* Адварочванне жывёлы ў час пасьбы. *Твае́ зыстыва́ньня тако́я, што аўса́ за́ дзінь ні аўсіны ні аста́ніцца.*

**ЗАСТАВА́ЦЦА** (зыстыва́цца), зыстае́цца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **застава́ць**. «*Ці зыста́ў скот?*» — «*Да не́, ні зыстыва́ўся ящэ*».

**ЗАСТАВА́ЦЬ** (зыстыва́ць), зыста́ю, зыстае́ш; *незак.* 1. Заставаць, заспяваць. 2. Адварочваць, адганяць жывёлу ў час пасьбы. *Ныдае́ла Ря́быя, ка́жную міну́ту яе зыстыва́й.*

**ЗАСТА́НЫЙ** (зыста́ный) *дзеепрым.* Адвернуты, адагнаны. *Адзін цялёнык вун ящэ ні зыста́н.*

**ЗАСТА́ЦЦА** (зыста́цца), зыста́ніцца; *зак.* Зал.-бессуб'ект. ад **заста́ць**. *Зыста́нуцца бычкі пазьне́й, шко́ды нійдзе́ німа́.*

**ЗАСТА́ЦЬ** (зыста́ць), зыста́ну, зыста́ніш; *зак.* 1. Застаць, заспець. 2. Адвярнуць, адагнаць жывёлу ў час пасьбы. *Зыста́нь аве́ц, а то ў кле́вір ува́люцца.*

**ЗАСТРУ́ІЦЦА** (зустру́іцца), -у-іцца; *зак.* Спыніцца, затрымацца (пра жывёлу). *У лашчы́нкі клівяро́к, дык цяляты зустру́іліся, скубу́ць, то́лька сапу́ць.*

**ЗАСУ́КА́НЫЙ** (засу́кыный і зусука́ный) *дзеепрым.* Закасаны. *Ідзе́ць во́гірь, рука́вы зусука́ны, любу́йціся ны яго́.*

**ЗАСУКА́ЦЦА** (зусука́цца),-а́-іцца; *зак.* Закасацца. *Кылышына́ зусука́лыся, ацсука́й.*

**ЗАСУКА́ЦЬ** (зусука́ць), -а́-ю, -а́-іш; *зак.* Закасаць. *Зусука́й-ка мне руба́шку, ды кре́пка, каб ні цсука́лыся.*

**ЗАСУ́КЫВАННЕ** (засу́кывыньня) *н.* Закасванне. *Скаре́й з засу́кывыньнім, не́кылі стыя́ць.*

**ЗАСУ́КЫВАЦЦА** (засу́кывыцца), -(вы)іцца; *незак.* Закасвацца.

**ЗАСУ́КЫВАЦЬ** (засу́кывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* Закасваць. *Засу́кывый рука́вы ды бяріся за дзе́ла.*

**ЗАТАРАБА́НІЦЬ** (зытырыба́ніць), -н-ю, -н-іш; *зак. гумар.* 1. Гл. **затара́ніць**. *Зытырыба́нь цёткі ку́хлік.* 2. *перан. іран.* Забалбатаць, загаварыць хутка і незразумела, затарабарыць. *Зытырыба́ніла як мылаці́лка.*

**ЗАТАРА́НІЦЬ** (зытыра́ніць), -н-ю, -н-іш; *зак. гумар.* Занесці. *Ныпряні́ся ды зытыра́нь дзя́дзьку цяслу́ і ско́блю.*

**ЗАТКНУ́ЦЦА**, -н-е́цца; *зак.* Зал.-бессуб'ект. ад **заткну́ць**. *Ніха́й які́х па́ру дней скот пахо́дзіць ну лугу́, пазьне́й заткне́цца.*

**ЗАТКНУ́ЦЬ**, -н-у́, -н-е́ш; *зак.* 1. Заткнуць. 2. *спец.* Паставіць на лузе знак, які забараняе пасвіць жывёлу. *Лугі́ заткну́лі, дык трыва́ ві́да расьце́ць.*

**ЗАТО́ПА** *ж.* 1. Паводка, разводдзе. *По́сьлі дажджу́ на ву́ліцы пря́ма зато́па.* 2. Дрыгва,

гразь, твань. *У балóта нільзя́ пыкызáцца, там затóпа.*

**ЗАТÓХНУЦЦА**,-н-уся, -н-ісься; *зак.* 1. Задыхнуцца. *Правéтрі хáту, а то затóхнуцца мóжна.* 2. *перан. груб.* Гл. **затыхáцца** 2. *Затóхнісься ат нішчы́мніцы, а сáла зьялчэіць, што вы́кініш.*

**ЗАТУРЫ́ЦЬ** (зутурíць), -р-ю́, -р-íш; *зак.* 1. Загнаць жывёлу. 2. *перан. неадабр.* Засеяць. *Зутурíлі пóля аўсóм, там ба лу́чы пышаніцу пасéіць.*

**ЗАТХНУ́ЦЦА**, -н-у́ся, -н-éсься; *зак.* Гл. **затóхнуцца**. *Нéйдзі за гóрыдым, гыварíлі, дзіцёнык улёз у сундýк, зычынíўся, а аччынíць ня мог — і затхнýўся. Затхнéсься ат жáднысьці.*

**ЗАТЫКА́ННЕ** (зытыкáньня) *н.* 1. Затыканне. 2. *спец.* Устанаўленне на лузе забараняльнага знака. 3. Забараняльны знак. *Увéчыры луг заткнýў, а ўрáньні гляджý — нéхта усё зытыкáньня пывырывáў.*

**ЗАТЫКА́ЦЬ** (зытыкáць), -á-ю, -á-іш; *незак.* 1. Затыкаць. 2. *спец.* Устанаўліваць на сенажаці забараняльны знак. *Пырá зытыкáць.*

**ЗАТЫХА́ЦЦА** (зытыхáцца), -á-юся, -á-ісься; *незак.* 1. Задыхацца. 2. *перан. груб.* Дрэнна харчавацца, адмаўляць сабе ў ежы (пра сквапнага). *Ні зытыхáйся нішчы́мніцыю, а купí зáтыўкі, ёсьць жа за што.*

**ЗАТЫ́ХАЦЬ** (заты́хыць), -ы-іць; *зак.* Затахкаць, пачаць часта біцца (пра сэрца). *Сéрца затыхыла як птýшка, чуць ня вы́скычыць.*

**ЗАХА́КАНЫЙ** (зыхáкыный) *дзеепрым.* Задыханы. *Аткýля ты бягíш зыхáкыный?*

**ЗАХА́КАЦЦА** (зыха́кыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *зак.* Задыхацца. *Бе́гыў-бе́гыў, аж зыха́кыўся.*

**ЗАХА́КАЦЬ** (зыха́кыць), -ы-ю, -ы-іш; *зак.* Задыхаць. *Ні хыця́ зыха́кыіш, паку́ля на е́ткую гарі́шчу узьбяре́сься.*

**ЗАЦЕ́ІВАННЕ** (заце́івыньня) *н.* Гл. **заця-ва́нне**. *Біз заце́івыньня зьдзе́лыю.*

**ЗАЦЕ́ІВАЦЬ** (заце́івыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Гл. **заця́ва́ць**. *Я б цябе́ ні заце́івыў, каб сы-маму́ було́ ўре́мя е́хыць.*

**ЗАЦЕ́ЯЦЬ** (заце́іць), -е́-ю, -е́-іш; *зак.* 1. Прымусіць. *Рызба́лывыўся ты, чылаве́к, што цябе́ нічо́гінічка ні заце́іш зьдзе́лыць.* 2. Прыдумаць, намерыцца. *Заце́ілі ле́тыся ба́ню стро́іць — і сё-літа ня ко́нчуць.*

**ЗАЦЮ́ПАНЫЙ** (зацю́пыный) *дзеепрым.* 1. Заплюханы. *Пріўшо́ў зацю́пыный як з бало́та.* 2. *перан.* Затурканы, забіты. *Пріваз́іла зя́ця, хвалі́-лыся, —айт, не́йкій зацю́пыный.*

**ЗАЦЮ́ПАЦЦА** (зацю́пыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *зак.* 1. Заплюхацца, абнасіцца. *Зацю́пыўся чуць ні па по́іс.* 2. Натупацца, стаміцца. *Зацю́пылыся за дзень, хуць прісе́сыць ны міну́тку.*

**ЗАЦЮ́ПАЦЬ** (зацю́пыць), -ы-ю, -ы-іш; *зак.* 1. Заплюхаць, абнасіць. *Зацю́пыў штаны́ пы кале́-ні — ні атмы́ць.* 2. *перан.* Затуркаць, забіць. *Не́ік зацю́пылі і зацю́пылі, а ён маўчы́ць.*

**ЗАЦЮ́ПЫВАЦЦА** (зацю́пывыцца), -вы-іцца; *незак.* 1. Заплюхвацца, абношвацца. *Мо́жна ж тро́шку акура́тній праўці́ць, каб ме́ншы зацю-пывыцца* 2. Натупвацца, стамляцца.

**ЗАЦЮ́ПЫВАЦЬ** (зацю́пывыць), -вы-ю, -вы-іш; *незак.* Заплюхваць, абношваць. *Ты ж прайдзі, каб ні зацю́пывыць штанін.*

**ЗАЦЯВА́ННЕ** (зыціва́ньня) *н.* Прымушванне, прымус. *Ду́жа ён тваё́ зыціва́ньня хо́чыць пынімáць.*

**ЗАЦЯВА́ЦЬ** (зыціва́ць), -а́-ю, -а́-іш; *незак.* 1. Прыдумваць, намервацца. 2. Прымушаць. *Што́ ён са́м сабе́ ду́мыіць: ні зыціва́й яго́ ні к чаму́ і сло́ва ні гывaрí.*

**ЗА́ЧЫСЦЬ** (за́чысьць) *ж.* Адчуванне лёгкасці, прыемнасць. *Хырашо́ по́сьлі плу́га у ба́ню пупа́сьць: па́рісься — аж за́чысьць.*

**ЗАШЫВА́ЦЦА** (зышыва́цца), -а́-іцца; *незак.* 1. Зашывацца. 2. *перан.* Пакрывацца тлушчам (пра страву). *Ат во́сіньскый быра́ніны капу́ста аж зышыва́іцца.*

**ЗАШЫ́ТЫЙ** *дзеепрым.* 1. Зашыты. 2. *перан.* Пакрыты тлушчам (пра страву). *Быракі ся́ньня пря́ма зашы́ты са́лым.*

**ЗАШЫ́ЦЦА**, -ы́-іцца; *зак.* 1. Зашыцца. 2. *перан.* Пакрыцца тлушчам (пра страву). *Крупе́ня зашы́лыся са́лым.*

**ЗАШЧУ́ЧЫВАЦЬ** (зашчу́чывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* Лавіць; заставаць, заспяваць. *Трі разы́ хадзіу́ і ні ра́зу ні зашчу́чывыу́ у дваре́.*

**ЗАШЧУ́ЧЫЦЬ**, -ч-у, -ч-ыш; *зак.* Злавіць; застаць, заспець. *Зашчу́чыу́ у саду́. Хуць ра́з зашчу́чыла цябе́ на ме́сьці.*

**ЗАЮ́ШЫЦЦА**, -ш-уся, -ш-ысься; *зак.* Закруціцца, забегацца. *Зою́шылыся зы ра́ньня, ажно́*

*забыла, айдзе што ў мяне пыкладзіна, айдзе што стаіць.*

**ЗАЯДА** (зыяда) *м.* і *ж.* Заядлы. *Як шчэпюцца боріцца — ні разьвесьць, абая ладныя зыяды.*

**ЗАЯДАННЕ** (зыіданьня) *н.* Сварка, лаянка. *Ці ты біз зыіданьня ні прыжывеш?*

**ЗБОЙ** *м.* Цесната, таўкатня. *Такога збою, кажыцца, ні разу ня відзіла.*

**ЗБОЙНА** *прысл.* Цесна. *Ува ўсіх лаўкых у скрысеньня збойна, што пальца ні праціснуць.*

**ЗБОР** *м.* 1. Збор. 2. *уст.* Сход. *Хадзіў на збор.*

**ЗБОРКА** *ж. уст.* Гл. **збор** 2. *Прішоў са зборкі посьлі пітухоў.*

**ЗБУЗАНІЦЬ**, -н-ю, -н-іш; *зак.* 1. Знасіць. *Збузаніў касьцюм, аж глядзець гідка.* 2. *перан.* Зганьбіць, зняславіць, змяшаць з граззю. *Як пытхвацілыся, як пынісла, збузаніла ні за што ні пра што.*

**ЗБУНТАВАЦЦА** (збунтувацца), -ў-юся, -ў-іцься; *зак.* Памыліцца. *Пісаў правільна, а тады збунтуваўся.*

**ЗБУНТАВАЦЬ** (збунтуваць), -ў-ю, -ў-іш; *зак.* Перашкодзіць; збіць з панталыку. *Я січас пірішчытаю, ты мяне толька ні збунтуй.*

**ЗБУТАРАЦЬ** (збутуряць), -я-ю, -я-іш; *незак.* Збіраць, зганяць жывёлу ў адно месца, у табун. *Збутурялі-збутурялі кароў, во набегыліся.*

**ЗБУТАРЫЦЬ** (збутуріць), -р-ю, -р-іш; *зак.* Сабраць, сагнаць жывёлу ў адно месца, у табун.

*Зыхвацілі усіх ра́зым і збутурілі ў бало́та, — ніха́й пыстыя́ць жаро́ю ў вадзе́.*

**ЗВУЧА́ННЕ** (звуча́ньня) *н. асудж.* Прывучванне, прывучанне. *Звуча́ньня ні ра́зу ні прыво́дзіць к дабру́.*

**ЗВУЧА́ЦЦА**, -а́-іцца; *незак. асудж.* Прывучацца (да чаго-н. дрэннага). *Ні дыва́й цялёнку па́льца, ніха́й ні звуча́іцца.*

**ЗВУЧА́ЦЬ**, -а́-ю, -а́-іш; *незак. асудж.* Прывучаць, патвараць. *Звучы́лі дзіцёнка пу рука́х; пало́жыш — дык у сьлёзы.*

**ЗВУ́ЧЫВАННЕ** (зву́чывыньня) *н. асудж.* Гл. **звуча́нне.**

**ЗВУ́ЧЫВАЦЦА** (зву́чывыцца), -вы-іцца; *незак. асудж.* Гл. **звуча́цца.** *Ня зву́чывыйся мне па́льцы ў рот уса́джывыць.*

**ЗВУ́ЧЫВАЦЬ** (зву́чывыць), -вы-ю, -вы-іш; *незак. асудж.* Гл. **звуча́ць.** *А нашто́ було́ зву́чывыць к канхвётым ды к пряньнікым.*

**ЗВУЧЫ́ЦЦА**, -ы-цца; *зак. асудж.* Прывучыцца, спатварыцца. *Звучы́лыся ты, дзе́ўка, ны ба́цькывый шы́і е́зьдзіць.*

**ЗВУЧЫ́ЦЬ**, -ч-у́, -ч-ы́ш; *зак. асудж.* Прывучыць, спатварыць. *Звучы́лі пырася́т: ліну́ць ды ліну́ць—дык цяпе́ря біз мылыка́ ні к кары́ту.*

**ЗГАМЖО́НЫЙ** *дзеепрым.* Забруджаны, змяты, страпаны. *Пальто́ згамжо́на, што ў ру́кі ні ўзяць.*

**ЗГАМЗІ́ЦЬ**, -ж-у́, -з-і́ш; *зак.* Гл. **збуза́ніць.** *Ні ныдзіва́йця но́вых касьцю́мыў, згымзіцё па*

*ётыкый грязішчы. Згамзіла чылавёка зы адно слова.*

**ЗГЛАМАЗДА́НЫЙ** (зглымызда́ный) *дзеепрым.* Зроблены абы-як (сплецены, пашыты). *Тро́ху зглымызда́на плёцінка, мо́жа, ні рызва́ліцца.*

**ЗГЛАМАЗДА́ЦЦА** (зглымызда́цца), -а́-іцца; *зак.* Зал.-бессуб'ект. ад **зглamазда́ць.** *Нёшта зглымызда́лыся, у пасту́х надзёць мо́жна бу́дзіць, ёта ні ны сва́дзьбу.*

**ЗГЛАМАЗДА́ЦЬ** (зглымызда́ць), -а́-ю, -а́-іш; *зак.* Зрабіць абы-як (сплесці, пашыць). *Зглымызда́ў карзінку, бу́льба ня вы́сыпліцца.*

**ЗГРАМАЗДА́НЫЙ** (згрымызда́ный) *дзеепрым.* Гл. **зглamазда́ный**. *Што ў цябё згрымызда́на?*

**ЗГРАМАЗДА́ЦЦА** (згрымызда́цца), -а́-іцца; *зак.* Зал.-бессуб'ект. ад **зграмазда́ць.**

**ЗГРАМАЗДА́ЦЬ** (згрымызда́ць), -а́-ю, -а́-іш; *зак.* Гл. **зглamазда́ць.** *Згрымызда́іш, што ні пляцёнь вы́йдзіць, а пу́жыла.*

**ЗГУ́НІЦЬ,** -н-ю, -н-іш; *зак.* Зганіць. *Ну, дык яму́ нёшта нёйкыя ста́ніць, калі́ ты згу́ніла майго́ сы́на.*

**ЗГЫ́РКАЦЦА** (згы́ркыцца), -ы-іцца; *зак. груб.* Страціцца, згубіцца, знішчыцца. *Калі́ ж у цябё тэй нож пасьпёў згы́ркыцца?*

**ЗГЫ́РКАЦЬ** (згы́ркыць), -ы-ю, -ы-іш; *зак. груб.* Згубіць рэч, знішчыць (разбіць, паламаць і г. д.). *Згы́ркыў нёйдзі шчы́пці — на́да но́выя купля́ць. Ну што? — згы́ркыў тарёлку?*

**ЗДА́ЛІКУ** *прысл.* Здалёк, здалёку. *Зда́ліку ні пызна́ю, хто там ідзёць.*

**ЗДА́ЛІВАЦЦА** (зда́лівыцца), -(вы)іцца; *незак.* Паказвацца доўгім (пра шлях). *Пе́рвый раз уся́кыя даро́га зда́лівыйцца.*

**ЗДА́ЛІЦЦА,** -л-іцца; *зак.* Паказацца доўгім (пра шлях). *Ішо́ў-ішо́ў, ду́жа зда́лілыся даро́га.*

**ЗДЗЕ́КЫВАННЕ** (зьдзе́кывыньня) *н.* Гл. **здзяка́нне**. *Ні ідá, а зьдзе́кывыньня, аж глядзе́ць ня хо́чыцца.*

**ЗДЗЕ́КЫВАЦЦА** (зьдзе́кывыцца), -(вы)юся, -(вы)ісься; *незак.* Гл. **здзяка́цца.** *Грябі се́на, а ня зьдзе́кывыйся.*

**ЗДЗЯКА́ННЕ** (зьдзіка́ньня) *н.* Здзек, кпіны, балаўство.

**ЗДЗЯКА́ЦЦА** (зьдзіка́цца), -а́-юся, -а́-ісься; *незак.* Здзекавацца, кпіць, забаўляцца. *Сыбяру́цца ку́чыю, ні рабо́тыюць, а то́лька зьдзіка́юцца.*

**ЗДРЫ́ЖНІК** *м.* Дрыжнік. *Пыста́віла здры́жніку ў ба́нку ра́зым з другі́мі цьвіта́мі.* Памянш. з д р ы́ ж н і ч ы к. *Вісе́ў не́шта гадо́ў зь дзе́сіць пучо́к здры́жнічку, а тады́ вы́кінула.*

**ЗЕЛЯПУ́ХА** (зіляпу́ха) 1. *ж.* Недаспелая ягада. *Нае́ўся зіляпу́х і кыча́іцца ж жывато́м.* 2. *перан. м.* і *ж.* Худы, кволы (пра дзіця). *Ня есьць і ня п'ець, расьце́ць зіляпу́хыю, а ў ха́ту з ву́ліцы ні заго́ніш.*

**ЗІМАВА́ННЕ** (зімува́ньня) *н.* Зімоўка. *Як се́літа зімува́ньня ідзе́ць?*

**ЗЛЕ́ЦІЦЦА** (зьле́ціцца), -ц-іцца; *зак.* Крыху падагрэцца (пра вадкасць). *Мылако́ зьле́цілыся, мо́жна нылíва́ць ма́лыму.*

**ЗЛЕ́ЦІЦЬ** (зьле́ціць), -ч-у, -ц-іш; *зак.* Крыху падагрэць (вадкасць). *Ваду́ ні кіпяці́ла, а то́лька зьле́ціла.*

**ЗЛЕ́ЧЫВАНЫЙ** (зьле́чывыный) *дзеепрым.* Падаграваны, падагрэты (пра вадкасць). *Вун чугуно́к зьле́чывыный ва́ды́, мо́жна брацъ.*

**ЗЛЕ́ЧАНЫЙ** (зьле́чыный) *дзеепрым.* Падагрэты (пра вадкасць). *Выда́ чуць зьле́чына.*

**ЗЛІТАВА́ЦЦА** (зьлітува́цца), зьліту́іцца; *зак.* Зляжацца; ператварыцца ў адно цэлае. *Соль зьлітува́лыся — ні разьбіць.*

**ЗЛЯХЧА́НЫЙ** (зьліхча́ный) *дзеепрым.* Пакладаны. *Быра́нчыкі пыліхча́ны, а пырасе́нычык яшчэ́ ні зьліхча́н.*

**ЗЛЯХЧА́ЦЬ** (зьліхча́ць), -а́-ю, -а́-іш; *зак.* Пакласці. *Зьліхча́ў і пырасе́нка, і быра́нчыкаў.*

**ЗМУСЦІ́ЦЬ** (змусьці́ць), -шч-у́, -ц-і́ш; *зак.* Спакусіць. *Змусьціў дзіце́нка канхве́тымі.*

**ЗМУШЧА́ННЕ** (змушча́ньня) *н.* Спакушанне. *Нашто́ табе́ то́я змушча́ньня,—сьлёз зыхаце́ў?*

**ЗМУШЧА́ЦЦА**, -а́-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **змушча́ць**. *Ці ты ма́ленькій, каб змушча́цца не́йкыю пячэ́ніныю.*

**ЗМУШЧА́ЦЬ**, -а́-ю, -а́-іш; *незак.* Спакушаць. *Хо́чыш дацъ, дык дай быра́нык, а ні змушча́й ма́лыю, ніха́й ні рявецъ.*

**ЗНА́ДАБІ́ЦЦА** (зна́дыбіцца і зныдабі́цца), -бл-юся і -бл-ю́ся, -б-ісься і -б-і́сься; *зак.* Спатрэбіцца. *Я табе́ бо́льшы ні зна́дыблюся, пайду́.*

**ЗНАДА́БЛІВАЦЦА** (зныда́блівыцца), -(вы)юся, -(вы)ісься; *незак.* Гл. **знадабля́цца**. *Пад ру́кі уся́кыя вешч зныда́бліцца.*

**ЗНАДАБЛЯ́ЦЦА** (зныдыбля́цца), -я́-юся, -я́-ісься; *незак.* Спатрэбліваццa, быць патрэбным. *Ніха́й пыляжы́ць і грябёнка, ма́ла што урэ́мім зныдыбля́іцца пад ру́кі.*

**ЗНІБА́** (зьніба́) *м.* і *ж.* Хныкала, ныцік. *Расьцёць зьніба́, ні ныкарміць, ні ўла́дзіць, ні надзёць.*

**ЗНІБЕ́ННЕ** (зьнібе́ньня) *н.* Хныканне, ныццё. *Пысядзі бізь зьнібе́ньня, бу́дзіць за́ўтрік, і пыд'ясі.*

**ЗНІБЕ́ЦЦА** (зьнібе́цца), -б-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **зніб́ець**. *Табе́ да тых пор бу́дзіць зьнібе́цца, паку́ліцька мутуза́ палу́чыш.*

**ЗНІБЕ́ЦЬ** (зьнібе́ць), -бл-ю́, -б-іш; *незак.* Хныкаць, ныць. *Ні зьнібі і ўсьлед ні цігайся, а еж, што да́лі.*

**ЗНІЗ** (зьніз) *м.* Дзве вопраткі, апранутыя адна на другую. *Зімо́ю бязь зьніза ў бальшу́ю даро́гу ні выбіра́йся.*

**ЗНІЦЯ́Й** (зьніця́й) *прысл.* Гл. **зніця́йку**. *Вы́скычыў зьніця́й с ха́ты, ажно́ спужа́лыся.*

**ЗНІЦЯ́ЙКУ** *прысл.* Знянацку, раптоўна; раптам; неспадзявана, нечакана. *Зьніця́йку і пень зу вуўка́ пріміш.*

**ЗНЯ́ХАЦЦА** (зьня́хыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *зак.* Знюхацца. *Сь кім ты зьня́хыўся, ці ён табе́ ро́він?*

**ЗНЯ́ХЫВАЦЦА** (зьня́хывыцца), -вы-юся, -вы-ісься; *незак.* Знюхвацца. *Ні на́да було́ зьня́хывыцца с тако́ю кымпа́ніію.*

**ЗРА́ДЖЫВАЦЬ** (зра́джывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* Падводзіць. *Ты яшчэ́ са́м ні зна́іш, ці бу́дзіць у цябе́ ўре́мя, і не́чыга абішча́ць — то́лька зра́джывыць людзе́й.*

**ЗРА́ДЗІЦЬ**, -дж-у, -дз-іш; *зак.* Падвесці. *Зра́дзіў ты мяне́ сваі́м саве́тым, ніха́й ба ні купля́ў лу́ччы то́га бачо́нка.*

**ЗРЭ́ЗАЦЦА** (зрéзыцца), -ж-уся, -ж-ысься; *зак.* 1. Зрэзацца. 2. *перан.* Распачаць сварку. *Сыйшліся і зрéзыліся.*

**ЗРЭ́ЗАЦЬ** (зрéзыць), -ж-у, -ж-ыш; *зак.* 1. Зрэзаць. 2. *перан.* Асадзіць. *Зрéзыла яé, дык муўчáла, ні слóва.* 3. *перан.* Моцна высеч, адлупцаваць. *Зрéзыў на гóрькыя я́блыка.*

**ЗЫ́ЗНУЦЦА**, -н-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **зызнуць**. *Чагó вам зы́зьніцца пыць сьцянóю, ці хáта мáлыя, ці што.*

**ЗЫ́ЗНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *незак.* Зябнуць, мерзнуць, калець. *Ня зы́зьніця на вýліцы, ідзіця пат кры́шу.*

**ЗЫК** *м.* Гізаванне. *У зык аднó спасéньня: збутуря́й скарéй скот у якую-нéбудзь вадý.*

**ЗЫ́КАННЕ** (зы́кыньня) *н.* 1. Гл. **зык**. *Стой з зы́кыньнім твaíм, зьдзéржу табé німá.* 2. Паддражніванне жывёлы.

**ЗЫ́КАЦЬ** (зы́кыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* 1. Гізаваць. *Вун вíдзіш — зы́кыюць, нóсюцца пы ўсямý пóлю.* 2. Дражніць жывёлу. *Ня зы́кый, і біс твайгó зы́кыньня сíчáс пыбігáць.*

**ЗЫ́КНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Загізаваць. *Зы́кнулі, луманýлі тубунóм ціріс пасéвы,— айдзé ты іх удзéржыш.* 2. Падражніць жывёлу. *Зы́кнуў — і нá: хвост ны сьпінý і пынíслáся ў кусты́.*

**ЗЮ́КАННЕ** (зю́кыньня) *н.* Размова, гутарка. *Вéрна, пры жыніхóў у вас зю́кыньня?*

**ЗЮ́КАЦЦА** (зю́кыцца), -ы-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **зюкаць**. *Пра штó вам тáма зю́кылыся так хырашó?*

**ЗЮ́КАЦЬ** (зю́кыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Гаварыць (паціху, па сакрэту). *Пакýля зю́кылі, дык і ноч ны дварé.*

**ЗЮ́КНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* Пагаварыць, сказаць. *Што ж ты ёй зю́кнула на ву́ха?*

**ЗЯВА́ННЕ** (зіва́ньня) *н.* 1. Пазяханне. 2. *груб.* Крык. *Сьціхні зь зіва́ньнім, дай сло́ва скызáць.*

**ЗЯВА́ЦЦА** (зіва́цца), -а́-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **зява́ць**. *Зіва́іцца, на́да лажы́цца. Чаго́ вам зіва́іцца ў по́ўныч на ўсю ву́ліцу?*

**ЗЯВА́ЦЬ** (зіва́ць), -а́-ю, -а́-іш; *незак.* 1. Пазяхаць. 2. *груб.* Крычаць. *Ні зіва́й, цябе́ ніхто́ ня тро́гыіць.*

## І

**ІЛЬНІ́ШЧА** *н.* 1. Поле, на якім рос лён. *Гусе́й найшо́ў ны ільні́шчы.* 2. Трава з ільнішча. *Во́ўцы лю́бюць паро́цца ў ільні́шчы.* Памянш. ільні́шчыка. *Ныгрябл́і но́шычку ільні́шчыка.*

**ІРЗА́ННЕ** (ірза́ньня) *н. асудж.* Дурыкі; гойсанне; свавольства. *А біз ырза́ньня пысядзе́ць нілізя́?*

**ІРЗА́ЦЦА**, -а́-іцца; *незак. асудж.* Зал.-бессуб'ект. ад **ірза́ць**. *Чаго́ вам ірза́іцца як пі́ріd вярэ́йкыю.* рюць

**ІРЗА́ЦЬ**, -а́-ю, -а́-іш; *незак. асудж.* Дурэць; гойсаць; сваволіць. *Ірза́лі і дырза́ліся, што або́я вярэ́йкі пулучы́лі.*

**ІСТРУ́Б** *м.* Зруб. *Купі́лі істру́б — адны́ сьце́ны, а прібіра́лі і ўсё дывадзі́лі са́мі.*

**ІСТРЫ́ЦЬ** (істрі́ць), -р-ю́, -р-і́ш; *незак.* Вастрыць. *Нажы́ найстрі́ў, а пілу́ ня йстрі́ў — ні пасьпе́ў.*

**ІСТРЭ́ННЕ** (істрэ́ньня) *н.* Вастрэнне. *Біс твайго́ істрэ́ньня тапо́р ба вайстрэ́й быў.*

**ІЦІ́ЦЬ**, іду́, ідзе́ш; *незак.* Ісці. *Ці йціць мне ся́ньня ў луг, ці ня йціць — вума́ ні прікладу́.*

**ІЦЬВІНА** *ж.* Вязок у санях, які злучае верхнюю частку полаза з пярэднім капылом. *На іцьвіны усігда́ выбіра́юцца пряме́йшыя дубінкі.*

## К

**ҚАБЫЗІ́ЦЦА** (кыбызі́цца), -ж-у́ся, -з-і́сься; *незак.* Қапрызнічаць. *Ні кыбызіся, а вы́йдзі к людзя́м, ня ўку́сюць.*

**ҚАБЫ́ЛА** *ж.* 1. Қабыла. 2. Від грыбоў. *Қабы́лы мо́жна атва́рівыць і мырінува́ць.* 3. Дугападобнае ўмацаванне ў печы, на якое абапіраецца задняя частка коміна. *Қабы́ла ду́жа сла́біңькыя, на́да звыць пічкура́, ніха́й пірікладзе́ць.*

**ҚАВЭ́НЧЫЦЦА**, -ч-уся, -ч-ысься; *незак.* Цацкацца; насіцца. *Қавэ́нчыўся з нагою цэ́лый ме́сіц, усё ні хаце́ла зыжыва́ць.*

**ҚАВЯРЗА́ННЕ** (кывірза́ньня) *н.* Гл. **гламазда́нне**. *Қіда́й кывірза́ньня, усё ро́ўна пірядзе́лывыць на́да.*

**ҚАВЯРЗА́ЦЦА** (кывірза́цца), -а́-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **кавярза́ць**. *Қывірза́іцца не́шта, мо́жа, й вы́йдзіць што якоя.*

**ҚАВЯРЗА́ЦЬ** (кывірза́ць), -а́-ю, -а́-іш; *незак.* Гл. **гламазда́ць**. *Қывірза́ў карзінку, а пулучы́лыся дык і сам ні рызьбяру́ што.*

**ҚАЗАВО́Қ** (кызаво́к) *м.* Пасудзіна для ягад, зробленая з кары асіны або вольхі. *Прішлі́ ў лес, а та́ма я́гыд-я́гыд, дык мы кыза́ўкі зьня́лі дый дыва́й зьбіра́ць.*

**КАЗЁЛ** *м.* 1. Казёл. Памянш. *гумар.* казёлька, казёльчык. 2. Масляк. *Прінёс шапку казлоў.* 3. Козлы (для распілоўкі дроў). 4. Умацаваныя на бэльцы козлы, на якія абапіраецца верхняя частка даху. *Ны бальку пыт пыцягу можна ставіць і пацсошычык, а толька казёл луччы дзяржыць, — і ўпоры ні нада дзелыць.* 5. Захворванне бульбы. *Сёліта уся бульба ў кызлах.*

**КАЛІЦЬ**, -л-ю, -л-іш; *незак.* Прабіраць, выгаворваць. *Калілі яго, калілі, а яму што з гуся выда.*

**КАЛОДАЧКА** (калодычка) *ж.* 1. Калодачка. *Калодычка — якея там зь яе пыдвалкі.* 2. *спец.* Прыстасаванне на самаробным падсядзёлку, якое ўтрымлівае пасак і служыць для раўнамернага размеркавання цяжару. *Нарысьць ны бярёзі пупалыся — бярі: луччых калодычык ні прідумыйш.*

**КАЛОННЕ** (калоньня) *н.* 1. Гл. **колька**. *Сколька ня грею бок, а калоньня ніяк ні прахоздзіць.* 2. Свідраванне. *Тупым сьвярдзёлкым ні калоньня, намучыйсься — і ўсё.*

**КАЛОЦЦА**, коліцца; *незак.* 1. Калоцца, расколвацца. 2. Свідравацца. *Сьвярдзёлык войстрый, дык дзіркі скора колюцца.*

**КАЛОЦЬ**, -л-ю, -л-іш; *незак.* 1. Калоць, расколваць. 2. Свідраваць. *Калоў-калоў, а брусок тресь — во табе й ныкалоў.*

**КАМЁЛАК** (камёлык) *м.* і *ж.* Невысокі мажны юнак або дзяўчына. *Такому камёлку работыць ды работыць.*

**КАМЛЁТ** *м.* Саматканая шарсцяная спадніца, упрыгожаная ўнізе стужкамі (больш высокай

якасці, чым андарак). *У дзе́ўкых я ўме́ла камле́ты ткаць.*

**КАМЛЮ́К** *м.* Камель. *Пріцягнў з-зы Сыжа́ камлю́к — ла́дных паду́шкі трі ў кале́сы вы́йдзіць.* Памянш. кумлючо́к.

**КАМЯ́ГА** (кымя́га) *ж.* Вялікае карыта для паення і кармлення (мешанкай) коней. *Нымішáлі по́ўную кымя́гу се́чкі.*

**КАНАПЛЯ́НЕ** (кыныпля́ньня) *н.* Канапляніщча. *Пасе́ілі кукуру́зу пы кыныпля́ньню.* Памянш. кыныпля́ньніка, кыныпля́ньніца.

**КАНЮШО́К** (кунюшо́к) *м.* Гл. **луба́к**. *Зладві там яко́га кунюшка́, пріця́гніць; тут ня тріццыць пудо́ў воз.*

**КАПАШЭ́ННЕ** (кыпашэ́ньня) *н.* Шавяленне; варушэнне. *Гляджу́ — не́йкыя кыпашэ́ньня пут кусто́м, парну́ў па́лкыю — а там ёжык.*

**КАПЁШКА** *ж. памянш.-пагардж.* Капа (сена, саломы). *Што ты дзе́лыў пысьлябе́дзьдзя: нагрёб капёшку сакі?*

**КА́ПІЛЬКУ** *прысл.* Трошачкі, крышачку; нядоўга. *Дождж ка́пільку брызнуў і пірістáў.* Памянш. кыпілі́нычку, кыпялю́хтычку. *Ня лі, ня лі: мне адну́ кыпілі́нычку на́да.*

**КА́ПКА** *ж.* Кропля, кропелька. *Ка́пнула адна́ ка́пка.*

**КАПЛІ́** *толькі мн.* Капёж. *Пыста́віла шáйку пыт каплі́ — гылаву́ на́да памы́ць.*

**КА́ПНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Капнуць. 2. *перан. асудж.* Нагаварыць, наплявузгаць. 3. *перан. іран.* Памерці. *Ты глядзі ні ка́пні ат такéя рабо́ты, — ду́жа пірірва́ўся гуля́ючы.*

**КАПЯЛІ́НАЧКА** (кыпілі́нычка) *ж.* Трошкі, трошачкі. *Мне дык і ні на́да, я ў́жо кыпілі́нычку вы́піла. Ай, сядзіш ты тры часы́ с адно́ю кыпілі́нычкыю.*

**КАПЯЛЮ́ХТАЧКА** (кыпялю́хтычка) *ж.* Гл. **капялі́начка**. *Улі́ ў мы́льніцу вады́, то́лька кыпялю́хтычку - кыпялю́хтычку.*

**КАРА́НДЫШ** (кыра́ндыш) *м.* Карантыш. *Такей кыра́ндыш, а сто́лька сі́лы!*

**КАРАЧЭ́ННЕ** (кырачэ́ньня) *н.* Укарочванне, пакарочванне. *Ні сьпяшы́ с кырачэ́ньнім, а то пыкаро́ціш і ні надзе́ніш.*

**КАРБА́ЦІЦЦА** (кырба́ціцца), -ц-іцца; *незак.* Гл. **гарба́ціцца**. *Пыд дажджо́м до́сткі пыліжа́лі і ста́лі кырба́ціцца. Ні кырба́цься, табе́ яшчэ́ сты́дна.*

**КАРБА́ЦІЦЬ** (кырба́ціць), -ч-у, -ц-іш; *незак.* Гл. **гарба́ціць**. *Со́нца кырба́ціць до́сткі. Дзяржы́сься, гады́ цябе́ ні кырба́цюць.*

**КАРБА́ЧАННЕ** (кырба́чыньня) *н.* 1. Карабачанне. 2. Карабачаны матэрыял. *Прівё́з кырба́чыньня, ня то што на мост, а й на столь ня ду́жа вы́біріш.*

**КАРБА́ЧАНЫЙ** (кырба́чыный) *дзеепрым.* 1. Карабачаны. *Дыста́ў кырба́чыных до́стык, — на столь паре́жуцца.* 2. *перан.* Сагнуты (пра чалавека). *Чаго́ йта ты такей кырба́чыный, ты ж ніда́ўна во́гірім хадзі́ў.*

**КАРЖАНЕ́ЛЫЙ** (кыржане́лый) *прым.* Гл. **заку́злый**. *Явіўся — кыржане́лый па по́іс.*

**КАРЖАНЕ́ЦЦА** (кыржане́цца), -е-іцца; *незак.* Гл. **каржане́ць**.

**КАРЖАНЕЦЬ** (кыржанёць), -е-ю, -е-іш; *незак*. Абсыхаць, засыхаць, пакрывацца брудам, граззю. *Абляпыўся гряззю й кыржанёіць.*

**КАРОЖАНЫЙ** (карёжыный) *дзеепрым*. Гл. **карба́чаный** 1. *Карёжыных па́лык тро́ху уськінуў, паре́жуцца, высыхнуць і пыгыря́ць.*

**КАРОЖАННЕ** (карёжыньня) *н*. 1. Гл. **карба́чанне**. 2. Куражанне. *Ат тако́га чылаве́ка адно́ карёжыньня і ўві́дзіш.*

**КАРНА́Ч** (кырна́ч) *м*. Нож з кароткім, зламаным лязом. *Кырна́ч зрэ́зыўся, то́лька грі́бы пірібіра́ць.*

**КАРО́МІСЛА** *н*. Каромысел. *С са́жылкі біс каро́місла но́сім.*

**КАРО́МІСЛІК** (каро́місьлік) *м*. 1. Гл. **каро́місла**. *Ці по́мніш ты, як во́ўк хацёў пыткыпа́цца ў пу́ню, дык я яго́ чуч-чуць ні абвізла́ каро́місьлікым.* 2. Ворчык. *Прі́чапіў к быране́ каро́місьлік.*

**КАРЦЕ́ННЕ** (карцэ́ньня) *н*. Непакой, трывога, турботы. *Што цябе́ карцэ́ньня не́йкыя скрябе́ць?*

**КАРЦЕ́ЦЦА**, -ц-іцца; *незак*. Хацецца. *Карці́цца табе́, каро́ва, пабе́жч у шко́ду.*

**КАРЦЕ́ЦЬ**, -ц-іць; *незак*. 1. Гл. **карце́цца**. 2. Трывожыць, непакоіць, турбаваць. *Цэ́лый дзень карці́ць, як там дзе́ці.*

**КА́ТАНАК** (ка́тынык) *м. звычайна мн.*: ка́тынкі. Фабрычныя цвёрдыя валёнкі (у адрозненне ад самаробных). *Прыхадзі́ў зі́му ў ка́тынкых. Во йдзець: адзі́н ка́тынык, адзі́н свой.*

**КАТАНУ́ЦЬ** (кытану́ць), -н-у́, -н-е́ш; *зак*. 1. Пакаціць (аднаразовасць дзеяння). *Кытані́ бяр-*

*но́ к сьце́нкі дый пыткладзі.* 2. *перан.* Пабегчы, пайсці. *Ҡытаню́лі ў я́гыды, яшчэ́ цё́мнінька було́.* 3. *перан. іран.* Ударыць, выцяць. *За што́ ты яго́ кытану́ў так, ён жа ні вінува́т.*

**ҠАТА́ЦЬ** (кыта́ць), -а́-ю, -а́-іш; *незак.* 1. Ҡатаць. 2. *перан.* Біць. *Ці по́мніш, як цябе́ ма́ліңькыга кыта́ла — усё́ хвуртуко́м, хвуртуко́м.*

**ҠАТЛЕ́ЦЦА**, -е́-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **катле́ць**. *Чаго́ вам катле́іцца, ідзіця пагрэ́йціся.*

**ҠАТЛЕ́ЦЬ**, -е́-ю, -е́-іш; *незак.* Стынуць, мерзнуць. *Ҡатле́ў пуўдня́ ну буі́, хуць ба хто́ пірімяніў.*

**ҠАТУ́ШЫНА** (кутушы́на) *ж.* Ҡут, куток. *Ҡутушы́ну сабе́ не́йкую зныйшла́ і нясе́цца, нія́к ні найду́. Адгырадзі́ў аўца́м кутушы́ну.*

**ҠАЎЗЕ́ЛЬ** *м.* Ҡоўзкае месца на дарозе, коўзкая дарога наогул; месца для коўзання на каньках, санках. *Ні даро́га, а каўзе́ль по́сьлі во́цыціпілі. Паехылі ны каўзе́ль кыта́цца!*

**ҠА́ЎҠАННЕ** (ка́ўкыньня) *н.* Мяўканне. *Псік с тваі́м ка́ўкыньнім, ныдае́ла.*

**ҠА́ЎҠАЦЬ** (ка́ўкыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* 1. Мяўкаць. 2. *перан. іран.* Падаваць голас (пра чалавека). *Ні ка́ўкый та́мыцька, січа́с пріду́.*

**ҠА́ЎҠНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Мяўкнуць. *Ҡот ка́ўкнуў і пабе́г.* 2. *перан. іран.* Падаць голас (пра чалавека). *Пырціза́ны скруцілі не́мца, ён і ні ка́ўкнуў.*

**ҠА́ХНУЦЦА**, -н-уся, -н-ісься; *зак.* Упасці, стукнуцца, моцна ўдарыцца. *Ҡа́хнуўся зь ве́рбы, ла́дна што ні на ко́льля.*

**ҠА́ХНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* Ударыць, стукнуць. *Ҡа́хну, што атляціш.*

**КАШАНУЦЦА** (кышанущца), -н-ецца; *зак.* Зал.-бессуб'ект. ад **кашануць**. *Паедзім, кышанецца у які́м-небудзь аборку.*

**КАШАНУЦЬ** (кышануць), -н-у́, -н-е́ш; *зак.* Крыху пакасіць, накасіць; апрабаваць касу. *Троху кышанулі і пашлі абедыць. Кышані-ка, як іна будзіць рэзыць.*

**КВАКУХА** *ж.* Квахтуха. *Квакуха зьвіла некуды ціплят.*

**КВАС** *м.* 1. Квас. 2. *перан.* Шкода. *Увалі́ліся сьвіньні ў бульбу, еткій квас зьдзелылі.*

**КВАСОЛЬ** і **КВАСОЛЯ** *ж.* Фасоля. *Квасоль выпылыла, а гарох так астаўся. Дзяцей як квасолі* (шмат).

**КВОХАННЕ** (квохыньня) *н.* 1. Квахтанне. 2. *перан. іран.* Вохканне. *Ня столька тае болі, сколька квохыньня.*

**КВОХАЦЦА** (квохыцца), -ы-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **квохаць**. *Ну, чаго табе квохыіцца, ліжаў ба ўжо ціха.*

**КВОХАЦЬ** (квохыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* 1. Квахтаць. *Квохыла нейдзі зу кустамі.* 2. *перан. іран.* Стагнаць, вохкаць. *Квохыў ба ўжо на печы, не, дык лезіць ны хату нечыга.*

**КВОХНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Квахтануць. *Квакуха квохнула дый ня чуць.* 2. *перан. іран.* Застагнаць, вохкнуць. *Квохнуў дый палез на печ.*

**КІНШЧЫК** *м.* 1. Кінамеханік; той, хто абслугоўвае кінаперасоўку. *Кіншчыкі пріехылі.* 2. *іран., гумар.* Аматар да кіно. *Толька ўвідзілі, што кіно пывязьлі, так нашы кіншчыкі і мытанулі ўсьлед.*

**КІСЛЯЎКА** (кісьляўка) *ж.* Кіслы яблык. *Такіх кісьлявык нільзя ў рукі браць, а ня то што есьць.*

**КІСЛЯЦЦЁ** (кісьляцьцё) *н.* Кісляціна. *Зваріла кісьліцьця, што ў рот ня возьміш.*

**КЛАДЗЬ** *ж.* Бэлька ў пограбе. *У погрібі ўсігда кладзецца трі кладзі.*

**КЛЕЎРЫШЧА** (клеўрішча) і **КЛЯЎРЫШЧА** (кляўрішча) *н.* Канюшынішча. *Скот наеўся на клеўрішчы; ідуць каровы — чуць спышуцца.*

**КЛЕЦ** *м.* 1. Зуб (у баране, у граблях). *Пыціряліся кляцы з быраны. Набіў кляцоў у граблі.* 2. Калячок на вяроўцы, за якую прывязваецца жывёла для пасьбы. *Нывізаў цялёнка на клец, ніхай паходзіць да беда.* Памянш. к л е ч ы к. *Выстругыў пры зыпас пяць клечыкыў, ніхай будуць.*

**КЛУМ** *м.* Тлум, шум. *Успакойціся с клумым.*

**КЛУМАК** (клумык) *м.* Гл. **клумка**. *Па клумку на плечы ўськінулі і пашлі.*

**КЛУМІЦЦА**, -мл-юся, -м-ісься; *незак.* Тлуміцца. *Ні клуміся ты, а йдзі ляж ды засьні трохху.*

**КЛУМІЦЬ**, -мл-ю, -м-іш; *незак.* Тлуміць. *Клумяць гылаву усю ноч — ні заснуць.*

**КЛУМКА** *ж.* Невялікі мяшок. *Змалоў клумку жыта і клумку пышаніцы.*

**КЛУМЛЕННЕ** (клумленьня) *н.* Гл. **клум**. *Ат клумленьня ў вычах зукружылыся.*

**КЛЫЧАНКА** (клычынка) *ж.* Мятая, блытаная салома. *Пуня накрыта клычынкыю.* Па-

мянш. клычынычка. *Клычынычкі вазок прівязьлі, будзіць ны пацьсьцілку.*

**КЛЫЧАННЕ** (клычыньня) *н.* Гл. **клычанка**. *Пыдыслаў клычыньня скату.*

**КЛЫЧАНЫЙ** (клычыный) *прым.* Мяты, блытаны. *Клычыную салому пывязьлі ў сьвіннарнік.*

**КЛЫЧЫЦЦА**, -ч-ыцца; *незак.* Мяцца, блытацца, церціся. *Пы пысланыму ільну нільзя хадзіць: дужа клычыцца.*

**КЛЫЧЫЦЬ**, -ч-у, -ч-ыш; *незак.* 1. Мяць, блытаць, церці. 2. *перан. гумар.* Барукаць; ганяць; прыставаць; нападаць. *Сыбакі пупалі і дывай клычыць, ладна, што людзі блізка былі — набеглі.*

**КЛЯТБЁНЫ** *толькі мн.* Праклёны. *Адурілa саўсім с клятбёнымі.*

**КЛЯЦЬБА́** (кліцьба) *ж.* 1. Клятва. *Кляніся — ні кляніся, а ніхто тваёй кляцьбе ні павеpіць.* 2. Праклён. *Ой-ё-ёй, дужа ж я спужаўся тваё кляцьбы.*

**КМІН** *м.* Кмен. *Сьпікла с кміным хлёба — аб'ясьцёся.*

**КМІННЫЙ** *прым.* Кменны, кменавы. *Кмінный запых па ўсёй хаці.*

**КОКАННЕ** (кокыньня) *н.* Скліканне сакатаннем (пра курэй). *Толька с курусадні — і пычынаіцца кокыньня ў просі.*

**КОКАЦЦА** (кокыцца), -ы-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **кокаць** II. *Кокыіцца вам посьлі пышаніцы.*

**КОКАЦЬ** (кокыць) I *м. часта іран.* Кіпцюр, кіпець, ногаць. *С кошкіных какцёй вірябёй ня вырьвіцца. Адгудуваў кокці, каб грязь зывадзілыся.*

**КО́КАЦЬ** (ко́кыць) II, -ы-іць; *незак.* Квахтаць, сакатаць. *Узьляцёў на крышу, сам дзярэць ла́пымі і яшчэ курям ко́кыіць.*

**КО́ЛЬКА** *ж. часцей мн.*: ко́лькі. Калаццё. *Прустудзі́ўся, дык ко́лькі ў грудзя́х. Ой, пыдажджы мінў́тычку, ко́лька не́йкыя ў бакў.*

**КО́МКІЙ** *прым.* Мяккі (пра снег у час адлігі). *Пыцяплёла, ко́мкій сьнег ста́ў, то́лька ў сьне́жкі гуля́ць.*

**КО́ПАНКІ** (ко́пынкі) *толькі мн.* Сані, палазы якіх зроблены з выкапанага з коранем дрэва. *На ко́пынкых у сва́ты ні паёдзіш.*

**КО́РМНІК** *м.* Укормлены вяпрук. *Забі́ў ко́рмніка пудо́ў на дзе́сіць.*

**КО́ЎРАТЫ** (ко́ўрыты) *толькі мн.* Вароты. *Аччыні́ў ко́ўрыты, ніха́й скот вы́йдзіць.* Памянш. ко́ўрыткі, ко́ўрыццы.

**КО́ХНУЦЬ**, -н-іць; *зак.* Квахтануць. *Квакў́ха ко́хнула не́йдзі ў хво́рысьці.*

**КО́ХАННЕ** (ко́хыньня) *н.* Квахтанне. *Ці чў́іш? — вў́н ужо айдзё яе ко́хыньня, — у про́сі.*

**КО́ХАЦЬ** (ко́хыць) I *м.* Гл. **ко́каць** I. *Ко́шка кыхця́мі апцыра́пыла ўсяго́.*

**КО́ХАЦЬ** (ко́хыць) II, -ы-іць; *незак.* Гл. **ко́каць** II. *Пыцягнў́лыся не́йдзі сь ціпля́тымі, у бў́льбі, знаць, ко́хыіць.*

**КРАЙ** I *м.* Край. *Край скаме́йкі. Пае́хыў ны край сьве́ту.*

**КРАЙ** II *прысл.* Вельмі, надта; абавязкова. *Кра́й на́да ў го́рыд зьбе́гыць. Раз я скыза́ў — кра́й зьдзе́лыю.*

**КРА́ЙКА** *ж.* Віты круглы пояс. *Пытпірізаў́ся кра́йкыю з мыхра́мі.*

**КРА́ЛІ** *толькі мн.* Каралі. *Нычапіла кра́лі й зыдае́цца.*

**КРА́ЛІНА** *ж.* Гл. **кра́ля** 1. *Звалілыся кра́ліна і не́кузы зыкацілыся.*

**КРА́ЛЯ** *ж.* 1. Зерне караляў. *Рассы́пыла кра́лі і адно́й кра́лі ні найду́ ніййдзе́.* 2. *перан.* Прыгажуня; каханка. *Прівё́з сабе́ кра́лю, нічо́га ні ска́жыш.*

**КРАПАНУ́ЦЬ** (кріпану́ць), -н-е́ць; *зак.* Зрабіцца моцным, цісkануць (пра мароз). *Було́ цё́пла, цё́пла, а тады́ як кріпану́ў мурузюга́н — но́са ні пыка́зывый на ву́ліцу.*

**КРАПІ́ЦЬ** (кряпі́ць), кре́піць; *незак.* Трымацца, ціснуць (пра мароз). *Кре́піць і кре́піць, ні тпуска́іць.*

**КРАПУ́Н** (кряпу́н) *м.* Гл. **пяку́н**. *Пыд вясну́ ла́дныя кріпуны́.*

**КРАСІ́Н** *м.* Газа. *Налі́ красі́ну ў ла́мпу.*

**КРАСІ́НАВЫЙ** (красі́нывый) *прым.* Гл. **красі́нный**. *Скаре́й мый ру́кі, яны́ ж у цябе́ красі́нывыя.*

**КРАСІ́НІЦЦА**, -н-юся, -н-ісься; *незак.* Пэцкацца ў газу. *Ні красі́нься лі біто́на: за хлеб бу́дзіш бра́цца.*

**КРАСІ́ННІЦА** (красі́ньніца) *ж.* Пасудзіна для газы. *Піряліў с красі́ньніцы ў ла́мпу усё́, на́да ўзноў купля́ць.*

**КРАСІ́ННЫЙ** *прым.* Газавы, газны. *Красі́нныя буты́лкі ацста́ў убо́к.*

**КРА́ТАННЕ** (кря́тыньня) *н.* Накладанне, накладванне. *Пыдаждзжы́ с кря́тыньнім, а ці ду́мыў ты, ці пыця́гніць конь твой воз.*

**КРА́ТАЦЬ** (кря́тыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Накладаць, накладваць, навальваць. *Кря́тыюць вазы́ пудо́ў па тріццыць.*

**КРАШЫ́НКА** *ж.* 1. Дробязь; трошкі, крыху. *Зьеў крашы́нку і пабе́г.* 2. *перан.* Дзіця. *Заку́тыў крашы́нку, чуць нос відзін.*

**КРАЯНУ́ЦЬ** (крыяну́ць), -н-у́, -н-е́ш; *зак.* 1. Адкроіць, адрэзаць, разануць. 2. *перан.* Загнуць (пра цану). *Крыяну́ў пы пітна́ццыць рубле́й за пуд, дык ніхто́ й ні патхо́дзіць.* 3. *перан.* Абляяць, вылаяць. *Крыяну́ў яго́ мыцірíко́м.* 4. *перан.* Ударыць, выперазаць. *Крыяну́ січа́с ре́мнім.*

**КРО́ПНА** *прысл.* Жудасна. *Кро́пна було́ бежч адно́й ціріз равы́.*

**КРУГЛАВІ́ДЫЙ** *прым.* Круглатвары. *Круглаві́дыга любіла, круглаві́дыга люблю́.*

**КРУГЛАВІ́НА** і **КРУГЛО́ВІНА** *ж.* Круг, круглае месца (участак зямлі). *У жы́ці вы́мікла круглаві́на. Вы́кысіў кругло́віну, каб пыдысла́ць, і лёг ну пуўдня́.*

**КРУК** (крюк) *м.* 1. Крук. 2. Кроква, якая не ўрубліваецца, а навешваецца. *Крюкі часьце́й усяго́ бува́юць асінывыя.*

**КРУ́ЧЧА** (крю́чча) *н.* 1. Крукі. 2. Кроквы. *Паплёту нугутува́ў, асталóся крю́чча тро́ху пріве́зьць.*

**КРЫКСУ́Н** (кріксу́н) *м.* Крыкун (дзіця). *Пузубуўля́й тро́ху кріксуна́ то́га.*

**КРЫКСУ́ННЯ** (кріксу́ньня) *ж.* Крыкуха. *Уні́мі як-не́будзь кріксу́ньню, на́ рукі вазьмі, ці што́.*

**КСЦІНЫ** (ксьціны) *толькі мн.* Хрысціны, хрэсьбіны. *У Стыхвáна, пóмню, быгáтыя былі ксьціны.*

**КСЦІЦЦА** (ксьціцца), кшчýся, ксьцíсься; *незак.* 1. Хрысціцца. *Я й рáншы ня ксьціўся, а цяпéрь і саўсíм забы́ўся.* 2. *перан. іран.* Зал.-бессуб'ект. ад **ксціць** 2. *Ці ты ў Гáпкі сяньня ксьціўся, ці ўзноў піряксьціла Мáрхва?*

**КСЦІЦЬ** (ксьціць), кшчу, ксьціш; *незак.* 1. Хрысціць. 2. *перан. іран.* Лаяць, бэсціць. *Лáдна ксьціла ягó — і стóіць, рузумнéйшым бýдзіць.*

**КУКÓБІЦЦА**, -бл-юся, -б-ісься; *незак.* Важдацца, няньчыцца, насіцца з чым-н. *Ні кукóбся ты ётык зь дзіцямí, павéрь мне, лýччы бýдуць.*

**КУКÓБІЦЬ**, -бл-ю, -б-іш; *незак.* Гл. **кукóбіць**. *Стóлька там таé бóлькі, а кукóбіш ты свой пáліц як німавéдыма што.*

**КУКÓБЛЕННЕ** (кукóблiньня) *н.* Важданне, няньчанне. *Біс кукóбліньня дзéці растýць кудый лýччы.*

**КУЛÁЖАННЕ** (кулáжыньня) *н.* Хмарнасць. *Ні глядзі ны кулáжыньня, а йдзі ды касі.*

**КУЛÁЖЫЦЦА**, -ж-ыцца; *незак.* Хмарыцца, паказваць на дождж. *І ўчóра кулáжылыся, і сяньня, глядзі і каб ні сыбрáўся дождж.*

**КУЛÁЖЫЦЬ**, -ж-ыць; *незак.* Гл. **кулáжыцца**. *Кулáжыла-кулáжыла, а дажджý так і ні сыбрáлыся.*

**КУРÁПА** *ж.* Агародная жаба. *Ны гарóдзі курáп — пыт кáжным кычанóм сідзяць.*

**КЎРНІЦА** *ж.* Хата без коміна. *Мне ўжо сéмдзісят гадóў, дык я чуць пóмню: у кýрніцы Хóнька яшчэ́ жыў.*

**КУРЧЫ́ГА** *ж.* Корч. *Курчы́г у маро́зы як закі́ніш, дык у ха́ці хуць па́рься.* Паве́ліч. курчы́жышча.

**КУХВА́ЙКА** *ж.* Ватоўка. *Прыхадзі́ў зіму́ у кухва́йкі.*

**КУ́ХЛІК** *м.* Кубак (гліняны). *Пілі́ ку́хлікым ваду́ дый разьбі́лі.*

**КУЦО́БКА** *ж.* Кукса. *Прістро́іў к куцо́бкі крючо́к і ла́дна ко́сіць, другé́й і зь дзьвюмя́ рука́мі ня ду́жа ўго́ніцца.*

**КУШЫ́Н** *м.* Збан. *Кушы́н і кушуно́к — е́та пасьці́ адно́ й то́я ж.*

**КУЧМА́** *ж.* Узлахмачаныя валасы. *Прі́чашы тро́ху кучму́, хо́дзіш пу́жылым.*

**КУШЭ́РКА** *ж.* Акушэрка. *Зье́зьдзі скаре́й зу кушэ́ркыю.*

**КШЧО́НЫЙ** *прым.* 1. Хрышчоны. 2. *перан. іран.* Лаяны, аблаяны. *Зра́зу відна, што кшчо́ным пры́шоў.*

**КШЧЭ́ННЕ** (кшчэ́ньня) *м.* 1. Хрышчэнне. 2. *перан. іран.* Лаянка. *Ці пашло́ табе́ кшчэ́ньня на по́льзу?*

## Л

**ЛАБРЭ́Т** *м. гумар.* Здаравяка. *Рузгудува́йся, лабрэ́т, хуць у калёсы зыпрі́га́й.* Паве́ліч. лабрэ́цішча. Узмацн. лабрэ́ціна. *Быў ху́дзінькій, ху́дзінькій, а за год, глянь-ка, якéй лабрэ́ціна ўзя́ўся!*

**ЛА́ДКА** *ж.* Аладка. *Нае́ўся ла́дык с са́лым, то́лька выда́ пыпіва́іцца.*

**'ЛА́ДНАГА** (ла́дныга) *прысл.* 1. Даўно, даўнавата. *Ужо́ ла́дныга, як пашо́ў, і ўсё німа́.* 2. Шмат. *Ла́дныга ўзяў за дро́вы.*

**ЛАЗО́БКА** *ж.* Невялікая цэласная (не з клёпак) бо́чачка для захоўвання мёду. *Налі́ў на́ зіму лазо́бку мё́ду — і спако́ін.*

**ЛАМАНУ́ЦЦА** (луману́цца), -н-е́цца; *зак.* 1. Зал.-бессуб'ект. ад **ламану́ць** 1. 2. Моцна захацецца. *І чаго́ яму́ луману́лыся ў будзё́нный дзень на тэй быза́р.*

**ЛАМАНУ́ЦЬ** (луману́ць), -н-у́, -н-е́ш; *зак.* 1. Ламануць. 2. Ударыць. *Луману́ па чом зря́.* 3. Пабегчы. *Луману́ў увесь табу́н ціріз грячы́ху, во ква́су надзе́лый.*

**ЛАНТУ́Х** *м.* Частка вантробаў. *Усё́ пірямы́ла, адзі́н вун ланту́х аста́ўся.*

**ЛАНТУ́ШША** *н.* Вантробы. *Паку́ліцька зьбе́гыла зы вядро́м, сыба́кі і сьцягну́лі ланту́шша.*

**ЛА́ПЛЕННЕ** (ла́пліньня) *н.* Латанне. *Ці до́ўга ты бу́дзіш з ла́пліньнім вазі́цца?*

**ЛАСКАТА́ННЕ** (лыскыта́ньня) *н. асудж.* Гл. **лескатанне** 2.

**ЛАСКАТА́ЦЬ** (лыскыта́ць), лыскачу́, ласко́чыш; *незак. асудж.* Гл. **лескатаць** 2. *Сыбяру́цца і ласко́чуць, і ласко́чуць, і калі́ яны́ ўжо сыці́хнуць.*

**ЛАТА́ННЕ** (лыта́ньня) *н. асудж.* Пабіранне; выпадковы заробак. *Адны́м лыта́ньнім ду́жа ні прыжыве́ш.*

**ЛАТА́ЦЦА** (лыта́цца), -а́-юся, -а́-іська; *незак. асудж.* Жывіцца; падзарабляць. *Рабо́тыць ня*

*хочыць, а лытаіцца, айдзе можна капейку ухваціць.*

**ЛА́ТКА** *ж.* Глыбокая гліняная міска. *Кашы ў латку ныкладзі ды пад‘еж.*

**ЛАЎЧЭ́Й** *прысл.* Лепш, прыдатней. *Лаўчэй було б, каб ты ні цігаўся усю ноч, а лёг ды спаў.*

**ЛА̀ЎЧЭ́ЙШЫЙ** *прым.* Лепшы, прыдатнейшы. *Атыбраў лаўчэйшыя яблыкі і пыклаў на зіму ў мякіну.*

**ЛАХАНО́К** (лыханок) *м.* Шырокі гліняны збан. *Вядро ўвалілыся ў калодзіж, дык у лыханок прішлося даіць.*

**ЛА́ХАННЕ** (лахыньня) *н. асудж.* 1. Беганіна, пошукі спажывы. 2. Балбатня, пустаслоўе. *Толька сыбраліся — і пычалося лахыньня.*

**ЛА́ХАЦЬ** (лахыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак. асудж.* 1. Бегаць, насіцца, шукаць спажывы. *Ні работыіць, а толька лахыіць с хаты ў хату, каб хто пыкарміў.* 2. Балбатаць, пустасловіць. *Ізыкамі лахыюць, а работа стаіць.*

**ЛАХМАНІ́НА** (лыхманіна) *ж.* Гл. **раска**. *Лыхманіну якую уськінь на плечы дый бягі.*

**ЛАЦНА́ЦЬ** (лыцнаць), -а-ю, -а-іш; *незак.* Лаўчыцца. *Лыцнай, каб як пупасыць ны аўтобус.*

**ЛЕ́ЖАНЫЙ** (лежыный) *прым.* Вылежаны. *Лежыныя яблыкі смашныя хуць якія.*

**ЛЕ́ЖАННЕ** (лежыньня) *н.* Вылежванне (пра яблыкі, грушы). *Смашныя антоныўкі посьлі лежыньня.*

**ЛЕ́ЖНЯ** і **ЛЯЖНЯ́** (ліжня) *ж. асудж.* Ляжанне. *Зь лежні хлеба ні пыд‘ясі.*

**ЛЕ́ЖЫЦЦА,** -ж-ыцца; *незак.* Вылежвацца (пра фрукты). *Я́блыкі ле́жуцца ў се́ні.*

**ЛЕ́ЖЫЦЬ,** -ж-у, -ж-ыш; *незак.* Вылежваць фрукты. *Ле́жу ду́лькі к маро́зым.*

**ЛЕ́ПІНКА** *ж.* Мазанка. *По́сьлі вайны́ ляпілі ле́пінкі дый жылі́.*

**ЛЕ́СКА** *ж.* 1. Тонкія жэрдкі для загарадзі. *Прінёс пук ле́скі.* 2. Загарадзь з такіх жэрдак. *Гря́ды абгаро́джаны ле́скыю.*

**ЛЕСКАТА́ННЕ** (ліскыта́ньня) *н. асудж.* 1. Надакучлівае стуканне, бразганне. *Уймі́ся зь ліскыта́ньнім сваі́м!* 2. *перан.* Балбатня, пустаслоўе. *Пысядзі́ біз ліскыта́ньня міну́ту, ніха́й язы́к хуць аддыхне́ць.*

**ЛЕСКАТА́ЦЬ** (ліскыта́ць), ліскачу́, ляско́чыш; *незак. асудж.* 1. Стукаць, бразгаць. 2. *перан.* Балбатаць, лапатаць. *Сыбра́ліся — і пашлі́ ліскыта́ць ізыка́мі.*

**ЛЕСКАТНЯ́** (ліскытня́) *ж. асудж.* Гл. **лескета́нне**. *Ушча́лі ліскатню́, ажно́ дзяре́ўня тряшчы́ць.*

**ЛЕСКАТУ́Н** (ліскату́н) *м. асудж.* Балбатун, пустаслоў. *То́му ліскытуну́ усігда́ язы́к сьвярьбі́ць.*

**ЛЕСКАТУ́ННЯ** (ліскату́ньня) *ж. асудж.* Балбатуха, лапатуха. *Зывіла́ся, ліскату́ньня, за́ дзінь ня ўні́міцца.*

**ЛЕ́ТНЫЙ** *прым.* Цёплы, крыху падагрэты. *Кіпято́к прасты́ў, то́лька ле́тный.* Памянш.-ласк. ле́тнінькій. *Выда́ астыла, чуць ле́тнінькыя.*

**ЛЕ́ТАШАК** (ле́тышык) і **ЛЕТАШО́К** (літашо́к) *м.* Леташняе цялё, жарабё. *Бычко́ў-ле́тышкыў зда́лі ны мя́са.*

**ЛІСА́ВАСЦЬ** (ліса́высьць) *ж.* Рахманасць; ветлівасць, свойскасць. *Каб табе́ тыка́я ліса́высьць, як у Га́ньніный няве́сткі.*

**ЛІСА́ВЫЙ** *прым.* Рахманы; ветлівы, свойскі, абыходлівы. *Сын прівё́з сабе́ жо́нку сь сьве́ту, ду́жа ліса́выя. Ліса́вый цялё́нык.*

**ЛУБА́К** *м.* Стары або худы конь. *Лубука́ запрё́г, дык ён чуць но́гі вылаке́ць.* Памянш. л у б а ч о́ к. *Быў усё́ лубачо́к, лубачо́к, а разье́ўся — дык каніша-каніша стаў.*

**ЛУБІ́НА** *м.* Гл. **луба́к**. *Нашто́ было́ браць е́ту лубі́ну, на ім дзень бу́дзіш е́хыць.*

**ЛУ́БКА** *ж.* Лубянка. *Са́мыя лу́ччыя се́іць рука́мі з лу́бкі, зь ві́дра́ — саўсі́м ня то́я.*

**ЛУГА́ВА́ТКА** (лугува́тка) *ж.* Прадаўгаваты вузкі сухадольны луг. *Лугува́тку скасі́лі зы адзі́н вы́хыд.*

**ЛУ́ПКА** *ж.* Лупцоўка. *Бу́дзіць табе́ січа́с лу́пка. Даць лу́пку.*

**ЛУСКАНЁ́Ц** *м.* Спелы арэх. *Прінё́с то́рбу адны́х лусканцо́ў.*

**ЛУ́СКА́ЦЬ** (лу́скыць і луска́ць), -ы-ю і -а́-ю, -ы-іш і -а́-іш; *незак.* 1. Лускаць. *Луска́ць аре́хі.* 2. *перан. іран.* Забіваць, знішчаць. *Луска́іць ціплят пы аднаму́.* 3. *перан. іран.* Піць, выпіваць. *Луска́ў ча́рку зы ча́ркыю.*

**ЛУЧО́К** *м.* 1. Ручка ў касе, за якую трымаюцца правай рукой у час касьбы. *Загну́ў дубо́вый лучо́к, цяпе́рь ня зло́міцца.* 2. Вілачкі да касы, якія падбіраюць пры касьбе скошаныя

расліны (грэчку, віку). *Выбіріш рыгацюльку — во й лучок.*

**ЛУЧЧАННЕ** (луччыньня) *н.* 1. Папраўка. *Дзьве нядзелі ляжу, і німа луччыньня.* 2. Паляпшэнне. *Посьлі твайго луччыньня карзінка саўсім рассыпылыся.*

**ЛУЧЧЫЦЦА**, -ы-іцца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **луччыць**. *Доўга ліжала, пакуль троху стала луччыцца.*

**ЛУЧЧЫЦЬ**, -ы-ю, -ы-іш; *незак.* 1. Рабіцца лепшым; паляпшацца, паляпшаць; рамантаваць. *Вареньня чым большы стаіць, тым луччыіць. Луччыў-луччыў вядро і нічога ня зьдзелыў.* 2. Ачуньваць, папраўляцца. *Луччыю, скора пыднімуся.*

**ЛЫСКАННЕ** (лыскыньня) *н.* 1. Біццё. 2. *перан. груб.* Піццё (дзеянне). *Ці ні пыра б ужо кончыць лыскыньня?*

**ЛЫСКАЦЦА** (лыскыцца), -ы-іцца; *незак.* 1. Біцца. *Елі-елі — а тады дываій лыскыцца ложкымі.* 2. *перан. груб.* Піцца. *Посьлі ўчырашніга выда лыскыіцца.*

**ЛЫСКАЦЬ** (лыскыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* 1. Біць. 2. *перан. груб.* Піць. *Лыскыіць гарелку стыканымі, як ваду.*

**ЛЫСНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Ударыць. *Як лысну лыжкыю, дык успакоісься.* 2. *перан. груб.* Выпіць, напіцца. *Ны свадзьбі ладна лыснулі.*

**ЛЮБОВЫЙ**: любовае мяса. Мяса без тлушчу, сала. *Выбрыў любовыя мяса і паеў, а к жырныму і ні прітронуўся.*

**ЛЯСНУЦЦА**, -н-уся, -н-ісься; *зак.* 1. Зал.-бессуб'ект. ад **ляснуць** 1. 2. Упасці; стукнуцца,

ударыцца. *Лясну́ўся са сто́лі, дык чуць пыдня́ўся.*

**ЛЯ́СНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Ляснуць. *Пасту́х як ля́сьніць пу́гыю зы быльшако́м, дык тут чу́тна.* 2. Ударыць, стукнуць каго-н., даць аплявуху. *Ля́снуў пы ліцу́.* 3. *перан.* Пабегчы. *Уве́сь табу́н ляснуў у клё́вір.* 4. *перан.* Прапасці, знікнуць; загінуць. *Я цап зы кырма́н — вазьмі́ што хо́чыш: ляснулі гро́шы с кышалько́м.*

**ЛЯХА́** (ліха́) *ж.* Паласа, засеяная ўручную ў адзін заход. *Прашлі́ пы ляхе́ дый се́лі.*

**ЛЯХЧА́ННЕ** (ліхча́ньня) *н.* Кастрыраванне.

**ЛЯХЧА́ЦЬ** (ліхча́ць), -а́-ю, -а́-іш; *незак.* Кастрыраваць. *Узно́ў ціга́ўся пы дзяре́ўні тэй, што й ле́тысь ліхча́ў.*

**ЛЯШЫ́ЦЬ**, -ш-у́, -ш-ы́ш; *незак.* Адзначаць мяжу зерня пры сяўбе ўручную. *Калі́ ўзя́ўся ляшы́ць, дык глядзі́, айдзе́ зірня́ты, а ні варо́н шчыта́й.*

**ЛЯШЭ́ННЕ** (ляшэ́ньня) *н.* Пракладванне мяжы зерня пры сяўбе. *Зымарі́ўся по́сьлі ляшэ́ньня, то́лька б пыліжа́ць.*

**ЛЯШЭ́ННІК** (ляшэ́ньнік) *н.* Той, хто лешыць. *Ляшэ́ньнікі чуць ня ўвесь дзень прыспа́лі ў куста́х.*

## М

**МАКАВІ́НА** (мыкаві́на) *ж.* Верхавіна. *Бу́ря зламі́ла мыкаві́ну на ве́рбі.*

**МАКАЦЁР** (мыкацёр) *м.* Гліняны збан, шырокі ўверсе і звужаны ўнізе. *Кот залёз ны мыкацёр і звалі́ўся зь ім с палі́цы.*

**МАЛАДНЯ́** (мылыдня́) *ж.* Маланка. *Усю ноч бліщчэла мылыдня́.*

**МАЛАХО́Л** (мылахо́л) *м.* Дзівак; дурнаваты. *З мылахо́лым ні ап чым ні дыгаво́рісься.*

**МАЛАХО́ЛКА** (мылахо́лка) *ж.* Дзівачка; дур наватая. *Рызыйшла́ся мылахо́лка як ве́цір.*

**МАЛАХО́ЛЬНЫЙ** (мылахо́льный) *прым.* Дзівакаваты; дурнаваты. *Мылахо́льный: сло́ва ныпіряко́р ні скажы́.*

**МАЛЬБО́НЫ** *толькі мн.* Лаянка. *Як уста́ла, так і зы мальбо́ны.*

**МАЛЬГА́ВАЧКА** (мыльга́вычка) *м.* і *ж.* Гл. **мальга́вінка.**

**МАЛЬГА́ВІНІЧКІЙ** (мыльга́вінічкій) *прым.* Маленечкі, малюсенькі (пра дзіця; наогул пра маладую істоту). *Ігня́ткі саўсім мыльга́вінічкія, куды́ іх у по́ля гнаць.*

**МАЛЬГА́ВІНКА** (мыльга́вінка) *м.* і *ж.* Малютка. *Ні нясі ны маро́з таку́ю мыльга́вінку.*

**МАЛЬГА́ВІНЬКІЙ** (мыльга́вінькій) *прым.* Маленькі, малюсенькі. *Купіў двух мыльга́вінькіх пырасёнычкыў, кро́мі мылыка́, ніčо́га ні бяру́ць.*

**МАЛЬГА́ЎКА** (мыльга́ўка) *м.* і *ж.* Гл. **мальга́вінка.** *Ці ты ж мыльга́ўка, што цябе́ адно́ю сьмітаныю карміць.*

**МАЛЬГВА́** (мыльгва́) *ж.* Малеча. *Зыйшла́ ў ха́ту, дык там мыльгва́ адзін пыд адзін.*

**МАЛЮПА́ХТАНІЧКІЙ** (мулюпа́хтынічкій) *прым.* Гл. **мальга́вінічкій.** *Мулюпа́хтынічкій радзіўся, а цяпе́ря глянь-ка лабрэ́т вы́бухыўся.*

**МАЛЮПА́ХТАНЬКІЙ** (мулюпа́хтынькій) *прым.* Гл. **мальга́вінькій.** *Гля́нуў у гняздо́ — лыстывіня́ткі мулюпа́хтынькія, у пушку́.*

**МАЛЮПА́ХТАЧКА** (мулюпа́хтычка) *ж.* і *м.* Гл. **мальга́вінка.** *А мулюпа́хтычка ж ты мыя́, а я ж цябе́ пе́рвый раз увідзіла!*

**МАМЕ́НТАМ** (маме́нтым) *прысл.* У момант. *Ны лісапе́ці маме́нтым зье́зьдзіў у ла́ўку.*

**МАНЕ́ННЕ** (мане́ньня) *н.* Падзыванне (жывёлы, птушкі). *Ня слу́хыіць каро́ва твайго́ мане́ньня, зна́іць, што нічо́га ні дасі́.*

**МАНІ́ЦЦА,** -н-іцца; *незак.* Падзывацца; ісці на падзыванне. *Ня хо́чуць ку́ры маніцца ў пу́ню.*

**МАНІ́ЦЬ,** -н-ю́, -н-іш; *незак.* Падзываць. *Мані́ цялёнка, ніха́й по́іла п'ець.*

**МАРДАВА́ННЕ** (мурдува́ньня) *н.* 1. Мучанне. *Ні́якыя скаці́на мурдува́ньня ня лю́біць.* 2. Буянства. *Вы́піць — і пашло́ ў яго́ мурдува́ньня, ніхто́ ні пыдыйдзі́ й ні пуцступі́ся.*

**МАРДАВА́ЦЦА** (мурдува́цца), марду́іцца; *незак.* 1. Мучыцца. *Набі́ў цялёнка, а ён ня есьць, а то́лька марду́іцца.* 2. Бушаваць, буяніць. *Цьвярёзый чылаве́к як чылаве́к, а як вы́піць — і марду́іцца, і чуць ны сьцяну́ ня ле́зіць.*

**МАРДАВА́ЦЬ** (мурдува́ць), марду́ю, марду́іш; *незак.* Мучыць. *Ні марду́й кыня́, дык ён і ны гря́дкі ні пале́зіць.*

**МАСЛЁНКА** (масьлёнка) *ж.* Ежа з тоўчаных канапель. *Хлеб со́льлю пасы́піш, масьлёнкі пыкладзе́ш — і с хало́дныю вадо́ю во смашна.*

**МАСНІЦА́** (масьні́ца) *ж.* Дошка ў падлозе. *Зьмяні́ў у масту́ масьні́цы.* Памянш. м а с ь н і ч к а. *Узьня́ў масьні́чку—а та́ма тхарі́шча ж жырібка́.*

**МАСО́ЛІЦЦА,** -л-юся, -л-іська; *незак.* 1. Забруджвацца, зашмальцоўвацца. *Кыла пе́чы ўся́кыя*

*адзёжына масо́ліцца.* 2. *перан* Вазіцца, поркацца. *Ні масо́лься з гыршка́мі, а ныдзіва́йся.* 3. Гл. **масо́ліць** 2. *Цялёнык пупа́ў ре́мінь і бу́дзіць масо́ліцца, а то й праглбо́ціць. Масо́ліцца с ко́сткыю.*

**МАСО́ЛІЦЬ**, -л-ю, -л-іш; *незак.* 1. Забруджваць, зашмальцоўваць. *Ні масо́ль кылы гнільля́ но́вую ку́ртку.* 2. *перан.* Жаваць, грызці. *Скарі́нку масо́ліў-масо́ліў і кі́нуў.*

**МАСТА́ЧАННЕ** (мыста́чыньня) *н. гумар.* Майстраванне. *Што́ вы́йдзіць с твайго́ мыста́чыньня — ло́тка ці віріцяно́?*

**МАТАНУ́ЦЦА** (мытану́цца), -н-у́ся, -н-е́сься; *зак.* Кінуцца; крутануцца, прамільгнуць; хутка збегаць. *Зы час мытану́ўся туды́ й ныза́д. Не́хта мытану́ўся лі выкна́.*

**МАТАНУ́ЦЬ** (мытану́ць), -н-у́, -н-е́ш; *зак.* 1. Наматаць (пра ніткі). *Мытану́ў разы́ трі мыта́віла і кі́нуў.* 2. *перан.* Махнуць. *Мытану́ў хвасто́м конь, чу́ць ні пы выча́х.* 3. Гл. **матану́цца**. *Мытану́лі ны віча́рінку. Мытану́ла ў кусты́, то́лька яе́ й віддзілі.*

**МАТНУ́ЦЦА**, -н-у́ся, -н-е́сься; *зак.* Гл. **матану́цца**. *Ско́ра ж ты матну́ўся ў ту́ю Лёшчынку.*

**МАТНУ́ЦЬ**, -н-у́, -н-е́ш; *зак.* Гл. **матану́ць**. *У Піря́дніні ж сва́дзьба, матну́лі туды́. Матні́ яшчэ́ тро́шку ну клубо́к — і бу́дзіць ро́ўна высімна́ццыць ху́нтыў.*

**МАТУЗІ́НА** (мутузі́на) *ж.* 1. Асобны матуз. 2. *перан.* Адзенне. *Муту́зін тро́ху нуспру́ўляла.*

**МАХАЛЕ́Й** (мыхалёй) *м.* і *ж.* Хлус. *Хваціла ў цябе вума́ ёткыму мыхалёю паве́ріць.*

**МАХАЛЕ́ЙСТВА** (мыхалёйства) *н.* Хлусня, бязглуздзіца. *Нане́с усякыга мыхалёйства, аж слу́хыць тошна.*

**МАХАЛЕ́Я** (мыхалёя) 1. *м.* і *ж.* Хлус. 2. *ж.* Хлусня. *Нясе́ць уся́кыю мыхалёю.*

**МАХНЫ́ТКА** 1. *ж.* Маленькая галавешка. *Зыліла́ махны́ткі вадо́ю.* 2. *м.* і *ж.* *перан.* Худы, хілы (пра чалавека).

**МАХРА́Ч** (мыхра́ч) *м.* Трапкач. *Мыхрачы́ цяпе́ріцька ня ў мо́дзі, ёта ра́ншы, як аднасо́бна жылі́, пыабе́дыць не́кылі було́, дык на по́ля насі́лі.*

**МАЦАЯ́** (мыцыя́) *м.* і *ж.* Мацак. *Што ж ты хо́чыш, ні мыцыя́: дзівяно́ста гадо́ў.*

**МА́ЦЕРКА** (ма́цірка) *ж.* *неадабр.* 1. Маладая (няўмелая) маці. *У таке́я ма́цыркі дзіцёнык бу́дзіць бяз но́са.* 2. Самка жывёлы, птушкі з патомствам. *Кыш, дай ціпля́тым, ма́цірка, пад'е́сьць.*

**МАЦЮ́К** і **МАЦЮ́Г** *м.* Гл. **мацяры́к**. *Во наўчы́ўся, біз муцюка́ сло́ва ні ска́жыць.*

**МАЦЯРНУ́ЦЦА** (мыцярну́цца), -н-у́ся, -н-е́сься; *зак.* Вылаяцца матам. *За ўсю жысьць ні мыцярну́ўся.*

**МАЦЯРНУ́ЦЬ** (мыцярну́ць), -н-у́, -н-е́ш; *зак.* Вылаяць матам. *Мыцярну́ў сам ні зна́іць за што і пашо́ў.*

**МАЦЯРЫ́К** (мыцяры́к) *м.* Мат. *Пулучы́ў дзе́сіць рублёй штра́ху зы мыцяры́к.*

**МАЧО́НКА** *ж.* Скарынка хлеба, размочаная ў страве. *Лу́ччы ўсяго́ мачы́ць мачо́нкі ў капу́сьці.*

**МЕЗДРАНУ́ЦЦА** (міздрану́цца), -н-у́ся, -н-е́сься; *зак.* Моцна ўдарыцца. *Прібярі па́лкі з даро́гі: бу́дзіш іці́ць но́ччы і міздряне́сься сам.*

**МЕЗДРАНУ́ЦЬ** (міздрану́ць), -н-у́, -н-е́ш; *зак.* Моцна ўдарыць. *Ня лезь: міздряну́ — ні падні́місься.*

**МЕ́НЕЦЦА** (ме́ніцца), -і-іцца; *незак.* Памяншацца, змяншацца. *Сьне́гу ме́ніцца ка́жный дзень.*

**МЕ́НЕЦЬ** (ме́ніць), -і-іць; *незак.* Памяншацца, змяншацца; памяншаць, змяншаць. *Но́чы ме́ніюць. Ня ме́ній аго́нь, ніха́й так гарі́ць.*

**МЕРКАВА́ННЕ** (мірькува́ньня) *н.* 1. Разлік, меркаванне. *Пы майму́ мірькува́ньню, ты паві́нін бы́ў пріе́хыць учо́ра.* 2. Размеркаванне. *Ско́ра ава́нсывыя мірькува́ньня.* 3. Лад, згода.

**МЕРКАВА́ЦЦА** (мірькува́цца), мярьку́іцца; *незак.* 1. Разлічваць, меркаваць. *Мірькува́лыся пайці́ць ны сва́дзьбу і ні пышла́.* 2. Размяркоўвацца. *На дні бу́дзіць мірькува́цца грячыха.* 3. Прыстасоўвацца, ладзіць. *Жылі́ дзьвюмя́ се́м'імі ра́зым — і не́ік мірькува́ліся.*

**МЕРКАВА́ЦЬ** (мірькува́ць), мярьку́ю, мярьку́іш; *незак.* 1. Разлічваць, меркаваць. *Мярьку́ю купі́ць, касьцю́м к вясьне́.* 2. Размяркоўваць. *Ці чуў, ці бу́дуць мірькува́ць ячме́нь?*

**МЕТАНУ́ЦЦА** (мітану́цца), -н-е́цца; *зак.* 1. Мільгануць. *Міта́нулыся не́шта зу гумно́м.* 2. Зал.-бессуб'ект. ад **мета́нуць**. *По́йдзім абе́дыць, мітане́цца пазьне́й.*

**МЕТАНУ́ЦЬ** (мітану́ць), -н-у́, -н-е́ш; *зак*. Замесці, падмесці, змесці. *Мітані му́сыр у адну́ ку́чу*.

**МЕ́ШАНЕЦ** (ме́шыніц) *м*. Прыплод дамашняй жывёлы, птушкі, атрыманы ад скрыжавання розных парод. *Бырáн-ме́шыніц. Ціпля́ты зь ме́шынцыў*.

**МІ́КАННЕ** (мі́кыньня) *н*. Рыканне, мыканне. *Ныдае́ла твае́ мікыньня*.

**МІ́КАЦЦА** (мі́кыцца), -ы-іцца; *незак*. Рыкацца, мыкацца. *Увальлю́ пу́гі, дык ня бу́дзіць мікыцца*.

**МІ́КАЦЬ** (мі́кыць), -ы-іць; *незак*. Рыкаць, мыкаць. *Рызбáлывылі цё́лку: сыта па гóрла, а у́сё мікыіць*.

**МÓРАСЬ** (мóрысь) *ж*. Імжа. *Па мóрысі прайшóў і нымя́к уве́сь*.

**МОСТ** *м*. 1. Мост. 2. Падлога. *Пірісла́ў мост у кле́ці, мóжа, і у́ се́нцых пірісьцялю́*.

**МÓЎЧАНЬКА** (мóўчынька) *прысл*. Моўчкі. *Сыбрáліся і мóу́чынька пашлі́. Сядзі́ мóу́чынька!*

**МУ́ДРЫКІ** (му́дрікі) *толькі мн*. Хітрасць, мудрагельства. *Знáю твае́ му́дрікі, ні прывядзе́ш за нос*.

**МУЗДА́ННЕ** (муздáньня) *н*. 1. Закілзванне. *Едзь біз муздáньня, конь ціхій*. 2. *перан*. Біццё. *Ні гразі́ сваі́м муздáньнім, ні спужáюся*.

**МУЗДАНУ́ЦЦА**, -н-у́ся, -н-е́сься; *зак*. Моцна ўдарыцца. *Муздану́ўся у́пацё́мку плячóм аб ву́гыл*.

**МУЗДАНУ́ЦЬ**, -н-у́, -н-е́ш; *зак*. Моцна ўдарыць. *Муздану́ў абрóцьцю пы плічáх*.

**МУЗДА́ЦЦА,** -а́-іцца; *незак.* Закілзвацца. *Глядзі, астаро́жна: ён ні музда́іцца, а куса́іцца.*

**МУЗДА́ЦЬ,** -а́-ю, -а́-іш; *незак.* 1. Закілзваць. *Мызда́ў-мызда́ў кабы́лу, а іна́ ні дае́цца, а тады́ ўзіла́ і ўцікла́.* 2. *перан.* Моцна біць. *Як пыча́ў мызда́ць хвырасьці́нью пы ныга́х, — во́ікыта́ў!*

**МУЗДЗЁЧКА** (музьдзе́чка) *ж.* Вуздэчка. *Аччапі́ў пывады́ ат музьдзе́чкі.*

**МУЛЬТ** *м.* Мультан (матэрыя). *Ныбра́ла му́льту ну рыба́шку.*

**МУ́ЛЬТАВЫЙ** (му́льтывый) *прым.* Мультанавы. *Пашы́ла му́льтывыю ко́хту.*

**МУРАВА́ЦЦА** (мурува́цца), -у́-іцца; *незак.* Замярзаць, пакрывацца лёдам. *Во́кны мыру́юцца ка́жнуюю ноч.*

**МУРАВА́ЦЬ** (мурува́ць), -у́-іць; *незак.* Пакрываць лёдам. *Мыру́іць маро́з ре́чку кре́пка.*

**МУРЫ́ЖАННЕ** *н.* 1. Трэнне; няўмелае вастрэнне. *Ат твайго́ мыры́жыньня тапо́р ні пывайстре́ў.* 2. *перан.* Сварка, грызня. *Як то́лька со́йдуцца, так і пычына́іцца ў іх мыры́жыньня.*

**МУРЫ́ЖЫЦЬ,** -ж-у, -ж-ыш; *незак.* 1. Церці; няўмела вастрыць. 2. *перан.* Сварыцца, грызці. *Пупа́лыся чылаве́ку шча́сьця, ніч́ога ні ска́жыш: мыры́жыць і дзень, і ноч.*

**МУТ** *м.* Каламута; муць. *Мут асе́ў на дно.* Памянш. м у т о́ к. *Тро́шычку мутку́ у вядре́.*

**МЫ́КАННЕ** (мы́кыньня) *н.* Часанне льну і скручванне ў мычкі. *Ат мы́кыньня ру́кі зыбале́лі.*

**МЫ́КАНЫЙ** (мы́кыный) *дзеепрым.* Чэсаны і скручаны ў мычку (пра лён). *Жме́ньку змы́кыла, аста́тнія ня мы́кына.*

**МЫКАЦЬ** (мы́кыць) I, -ы-іць; *незак.* Мыкаць (пра карову, цялё).

**МЫКАЦЬ** (мы́кыць) II, -ы-ю, -ы-іш; *незак.* 1. Часаць лён на грэбені і скручваць у мычкі. *Мы́кыла мы́чкі увéчырі.* 2. *перан.* Раздаваць; марнатравіць. *Мы́кыў канóплі усю́ зімý туды́-сюды́, хваціўся вяснóю — і нéчыга сéіць.* 3. *перан.* Насіцца, вазіцца з чым-н. *Ня мы́кый вýзіл з вуглá ў вýгыл, пыкладзі й ніхáй ціхінька ляжы́ць.*

**МЫ́КНУЦЦА**, -н-іцца; *зак.* Зал.-бессуб'ект. ад **мы́кнуць** I. *Мы́кнулыся нéшта карóві.*

**МЫ́КНУЦЬ** I, -н-іць; *зак.* Замыкаць. *Цё́лычка мы́кнула адзін раз і сьціхла, бóльшы ня чýтна.*

**МЫ́КНУЦЬ** II, -н-у, -н-іш; *зак.* Зрабіць крыху мычак. *Прісéла, мы́кнула й пабéгла язы́к чысáць.*

**МЫ́ЛІЦЦА**, -л-юся, -л-ісься; *незак.* 1. Мыліцца, намыльвацца. 2. *перан.* Надзімацца. *Мы́льс-ся — ня мы́лься, а да бéда пячэ́ньня ні палýчыш.* 3. Саромецца (сказаць што-н.). *Мы́ліўся ён, мы́ліўся, пакýль скызáў, чагó прішóў.*

**МЫ́ЛІЦЬ**, -л-ю, -л-іш; *зак.* 1. Мыліць, намыльваць. 2. *перан.* Надзімаць губы; рыхтавацца заплакаць. *Ну, чагó ты мы́ліш гýбы, ці цябé хто трóгыіць.*

**МЫЛЬНУ́ЦЦА**, -н-ýся, -н-éсься; *зак.* Хутка намыліцца. *Мыльнýлыся, абдылáся ды ныдзівáцца.*

**МЫЛЬНУ́ЦЬ**, -н-ý, -н-éш; *зак.* Хутка намыліць. *Рýкі мыльнýў, ліцó трóху спыласнýў — і гатóў, мóжна йіціць.*

**МЫРЧЭННЕ** (мырчэ́ньня) *н.* Бурчанне; мурлыканне; мармытанне. *Псік з мырчэ́ньнім сваі́м, мышэ́й вун лаві́ць у клецьі: пы гылывáх хóдзюць.*

**МЫРЧЭЦЦА**, -ч-ы́цца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **мырчэ́ць**. *У бýдкі сыбáку хырашó мырчы́цца.*

**МЫРЧЭ́ЦЬ**, -ч-ý, -ч-ы́ш; *незак.* Бурчаць; мурлыкаць; марматаць. *Нéшта мырчы́ць скрозь сон. Мырчэ́ла і мырчэ́ла, ня мéншы як часы́ два, а тады́ змыглáся і заснýла.*

**МЫЦЦЁХА** (мыцьцёха) *ж. гумар.* Тая, што мые. *Ці пaмы́ла ж ты, мыцьцёха, кýкліна плáцьця?*

**МЫЧКА** *ж.* Абчасаная на грэбені і скручаная скруткам жменька льновалакна. *Ні спрáла зá зіму ні мы́чкі.*

**МЫ́ЧАНЫЙ** (мы́чыный) *дзеепрым.* Гл. **мы́каный**. *Жмéнькі тр іасталóся ня мы́чыныга.*

**МЫ́ЧАННЕ** (мы́чыньня) *н.* Гл. **мыканне**. *Ніхáй твае́ мы́чыньня трóшку пыдажджэ́ць, а ты лýччы лі есьць.*

**МЫ́ЧЫЦЬ**, -ч-у, -ч-ыш; *незак.* Гл. **мы́каць** II-1. *Мыч, тóлька скарéй, а то крóсны праць звáлі.*

**МЫЧЭ́ННЕ** (мычэ́ньня) *н.* Мыканне. *Пы мычэ́ньню пызнáю бычкá. Ні рызгавóр, а мычэ́ньня.*

**МЫЧЭ́ЦЦА**, -ч-ы́цца; *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад **мычэ́ць**. *Чагó табé мычы́цца? — злазь ды нубувáйся.*

**МЫЧЭ́ЦЬ**, -ч-ý, -ч-ы́ш; *незак.* Мыкаць. *Мычы́ць сабé пад нос, нічóга ні рызьбярéш. Глянь, чагó там цёлычка мычы́ць.*

**МЫШШАК** *м.* Агульная назва паганых грыбоў. *Куды ж ты глядзеў, нашто ж ты разым с харошымі мышшакі брау.*

**МЭНЧАННЕ** (мэнчыньня) *н.* Важданне. *Бяз мэнчыньня і палкі дроў ні раськепіць, а яшчэ хызяін.*

**МЭНЧЫЦЦА**, -ч-уся, -ч-ысься; *незак.* Важдацца, поркацца. *Цэлый час мэнчыўся кыла меха, чуць зывізаў.*

**МЭНЧЫЦЬ**, -ч-у, -ч-ыш; *незак.* Цягнуць; валаводзіць. *Ня мэнчы, а патпісывый, некылі расьседжывыцца.*

**МЭТЛУХ** *м.* Кавалачак, драбніца. *Пырваў на мэтлухі. Ухадзі, каб і мэтлуху твайго ні было.*

**МЯГНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *незак.* Смагнуць, хацець піць. *Бісь піцьця мягла ны жаре.*

**МЯКАЦЦА** (мякыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *незак.* Падаць, шлёпацца. *Ня ўмеіш езьдзіць вярьхом, во й мякыісься, як ігруша.*

**МЯКАЦЬ** (мякыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Валіць. *Пычалі боріцца, дык меншый большыга мякыіць і мякыіць раз зы разым.*

**МЯКНУЦЦА**, -н-уся, -н-ісься; *зак.* Ударыцца, шлёпнуцца, упасці. *Мякнуўся і ляжыць, ні пыднімаіцца.*

**МЯКНУЦЬ** I, -н-у, -н-іш; *зак.* Мякнуць; мокнуць. *Трэцьцій дзень плацьця мякніць, усе ні зьбяруся ны падол.*

**МЯКНУЦЬ** II, -н-у, -н-іш; *зак.* Паваліць. *Ну-ка, пабоірйціся, хто каго мякніць.*

**МЯКУШАК** (мякушык) *м.* Верхняя пярэдняя частка пальца. *Рызваліў нажом мякушык ны бальшым пальцы чуць ні да нохця.*

**МЯТА́ННЕ** (міта́ньня) *н.* Мільганне. *Віdзіў нейкыя міта́ньня зы ба́нію, ды некылі было́ гля́нуць, што там.*

**МЯТА́ЦЦА** (міта́цца), -а́-іцца; *незак.* Мільгаць (блізка, перад вачыма). *Ні міта́йся кылы выкна́, міша́іш шыць.*

**МЯ́ТЛУХА** *ж.* Матыль. *Кот як кініцца ны мя́тлуху.*

**МЯ́ТЛУШКА** *ж.* Матыль, матылёк. *Дзе́ці мя́тлушык лавілі ну лугу́.*

**МЯТНУ́ЦЦА** (мітну́цца), -н-у́ся, -н-е́сься; *зак.* Мільгануць, прамільгнуць. *Мітну́ўся як пу́ля.*

## Н

**НАБІВА́ННЕ** (ныбіва́ньня) *н.* 1. Набіванне. 2. Прапанова, настойлівае прапаноўванне. *Ацста́нь з ныбіва́ньнім, ня бу́ду я купля́ць твайго́ ло́ю.* 3. Прывязванне для пасьбы (пра жывёлу). *Яко́я ж тваё ныбіва́ньня, што бычо́к бе́гыіць пы іра́х.*

**НАБІВА́ЦЦА** (ныбіва́цца), -а́-юся, -а́-ісься; *незак.* 1. Набівацца. 2. Прапаноўваць. *Не́йкыя гырыцка́я ныбіва́лыся кра́скыю, — ніхто́ ні брау́.* 3. Прывязвацца для пасьбы (пра жывёлу).

**НАБІВА́ЦЬ** (ныбіва́ць), -а́-ю, -а́-іш; *незак.* 1. Набіваць. 2. Прывязваць жывёлу для пасьбы на доўгую вяроўку, ланцуг. *Казу́ у́сё ле́та ныбіва́лі ны даро́гі.*

**НАБІ́ЦЦА**, наб'ю́ся, наб'е́сься; *зак.* 1. Набіцца. 2. Прапанаваць. *Не́йкыя зь дзяре́ўні, віdна з-зы Сыжа́, набілыся квасо́льлю, дык я купіла.* 3. Прывязацца для пасьбы (пра жывёлу). *Ніха́й пыстаіць у пу́ні, наб'е́цца пазьне́й.*

**НАБІЦЬ,** наб'ю, наб'еш; *зак.* 1. Набіць. *Будзіш бальвыцца — наб'ю.* 2. Прывязаць жывёлу для пасьбы на доўгую вяроўку, ланцуг за клец, які забіваецца ў зямлю. *Зывядзі й набі цялёнка ны балота.*

**НАБРЫТАНЫЙ** (набрытыный і ныбрытаный) *дзеепрым.* Гл. **забрытаный.** *Конь вырвыўся ныбрытаный і дунўў у табўн.*

**НАБРЫТАЦЬ** (ныбрытаць), -а-ю, -а-іш; *зак.* Гл. **забрытаць** 1. *Ці вы ўдваіх аднаго кыня ні ныбрытаіця?*

**НАБРЫТЫВАННЕ** (набрытывыньня) *н.* Гл. **забрытыванне.** *Паехыў біз набрытывыньня.*

**НАБРЫТЫВАЦЬ** (набрытывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* Гл. **забрытываць** 1. *Набрытывый і зыпрігай, а я пайду ныдзівацца.*

**НАБУХТОРЫВАЦЦА** (нубухторівыцца), -ы-іцца; *незак. неадабр.* 1. Налівацца праз меру. 2. *перан.* Напівацца, наядацца праз меру.

**НАБУХТОРЫВАЦЬ** (нубухторівыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак. неадабр.* Наліваць праз меру. *Ні нубухторівый яшчэ хуць у чугуны.*

**НАБУХТОРАНЫЙ** (нубухторіный) *дзеепрым. неадабр.* Наліты праз меру. *Увесь посыд у цябе нубухторін: і шаічкі, і ночвы, і вёдры.*

**НАБУХТОРЫЦЦА** (нубухторіцца), -р-юся, -р-ісься; *зак. неадабр.* 1. Наліцца праз меру. 2. Напіцца, наесціся праз меру. *Нубухторіўся — ні здыхнўцца.*

**НАБУХТОРЫЦЬ** (нубухторіць), -р-ю, -р-іш; *зак. неадабр.* Наліць праз меру. *Нубухторілі ўсе бочкі, куды цяпер зь ёю дзівацца.*

**НАВАЗГО́ЛІВАЦЬ** (нывазго́лівыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак*. Намазваць, замазваць. *Ні на́да сто́лька клёю нывазго́лівыць ну бума́гу.*

**НАВАЗГО́ЛІНЫЙ** (нывазго́ліный) *дзеепрым*. Намазаны, замазаны. *Што ў цябе́ ны вакне́ нывазго́ліна?*

**НАВАЗГО́ЛІЦЦА** (нывазго́ліцца), -л-юся, -л-ісься; *зак*. 1. Намазацца, замазацца. 2. Навазіцца, напоркацца. *Нывазго́лілыся зы ра́ньня кылы гаршко́ў?*

**НАВАЗГО́ЛІЦЬ** (нывазго́ліць), -л-ю, -л-іш; *зак*. Намазаць, замазаць. *Нывазго́ліў лі ша́йкі це́ста. Нывазго́ліць гуталіну ны сыпагі — чуць ні ў вяршо́к.*

**НА́ВАЛКА** (на́вылка) *ж*. Навалочка. *Купіла паду́шку біз на́вылык.*

**НАВЯ́ЛІВАННЕ** (нывя́лівыньня) *н*. Прыставанне, чаплянне, навязванне. *Ныдаёла твае ныв́ялівыньня.*

**НАВЯ́ЛІВАЦЦА** (нывя́лівыцца), -(вы)юся, -(вы)ісься; *незак*. Прыставаць, чапляцца, навязвацца. *Ні нывя́лівыйся — кнігі ні палу́чыш.*

**НАВЯ́ЛІЦЦА** (нывя́ліцца), -л-юся, -л-ісься; *зак*. Прыстаць, прычапіцца. *Нывя́ліўся цыга́н як смыла́, дык я й адда́ў уве́сь хлеб.*

**НАГАНЯ́НЫЙ** (ныгыня́ный) *дзеепрым. спец*. Наараны для ўборкі. *Ныгыня́на бу́льбы часы́ ны два выбіра́ць.*

**НАГАНЯ́ЦЬ** (ныгыня́ць), -я́-ю, -я́-іш; *зак*. 1. Наганяць, даганяць. 2 *спец*. Наараць для ўборкі (бульбу). *Ці спра́вісься ты адзі́н ныгыня́ць на ўвесь дзень?*

**НА́ГЛЯДКАМ** (на́глідкым) *прысл*. Следам, услед, назіркам (не губляючы з поля зроку ідучага

ўперадзе). *Бягі ўсьлед наглідкым і дагоніш бацьку.*

**НАГНЕСЦА,** ныгняцёцца; *зак.* Натужыцца. *Нагнёўся, аж пысінеў.*

**НАГНЕСЦЬ** (нагнесьць), ныгняту, ныгняцёш; *зак.* Пабіць, набіць. *Палёз — дык ныгнялі большы некуды.*

**НАДВОРНІК** *м.* Кабан, які не пастаўлен на адкорм. *Надворніку чаго дасі, то й ладна.*

**НАДЗЁЖА** *ж.* Надзея. *Ох Сярожа, ты Сярожа, ны цябе ўся надзёжа.*

**НАДРАЖАННЕ** (ныдрыжаньня) *н.* Здзек, насмяханне, кпіны. *Ні разу б я такога ныдрыжаньня цярьпець ні стала.*

**НАДРАЖАЦЦА** (ныдрыжацца), -а-юся, -а-ісься; *незак.* Здзекавацца; смяяцца, кпіць. *Сьвятым сябе завець, а над родныю маткыю ныдрыжаіцца.*

**НАДЦІХАННЕ** (ныцьціханьня) *н.* Памяншэнне, змяншэнне, сцішванне (ветру, навальніцы). *Рызыйшоўся вецір, і німа яму ныцьціханьня.*

**НАДЦІХАЦЬ** (ныцьціхаць), -а-іць; *незак.* Памяншацца, змяншацца, сцішацца (пра вецер, навальніцу). *Пысядзі трошку яшчэ: дождж, кажыцца, ныцьціхаіць.*

**НАДЦІХНУЦЬ** (нацьціхнуць), -н-іць; *зак.* Паменшыцца, зменшыцца, сцішыцца (пра вецер, навальніцу). *Буря яшчэ ні нацьціхла.*

**НАЕД** *м.* Сытнасць, наедак. *Нешта ат твайго заўтріку наеду німа.*

**НАЖОР** *м.* Месца, дзе вясной збіраецца пад снегам вада. *Апасныя дарога: нажоры пашлі, буваіць, уваб'еш кыня і ня вылізіш.*

**НАЖРА́ЦЬ** (ныжра́ць), -р-е́ць; *зак.* Сабрацца пад снегам (пра ваду). *Лі або́ркыў па ўсёй даро́гі ныжра́ла, пяшко́м яшчэ́, мо́жа, й пярёйдзіш, а е́хыць і ня ду́мый.*

**НАЗЫ́НУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* Наваліцца, напасці. *Назы́нулі усе́ ку́чыю ны брігадзі́ра, дык, нябо́сь, пірямéріў і зыпіса́ў як на́да.*

**НАЙЦІ́ЦЦА**, на́йдзіцца; *зак.* 1. Знайсціся. *Ты яшчэ́ ні стару́ха, на́йдзіцца й табе́ чылаве́к.* 2. *перан. гумар.* Нарадзіцца. *Жылі́ гады́ трі так, а тады́ й дзіцёнык найшо́ўся.*

**НАЙЦІ́ЦЬ**, найду́, на́йдзіш і но́йдзіш; *зак.* Знайсці. *Схува́юся, дык ня но́йдзіця.*

**НАКА́ЗЫВАННЕ** (ныка́зывынньня) *н.* Паведамленне. *Ско́лька разо́ў табе́ ныка́зывыла, а ты майго́ ныка́зывынньня і слу́хыць ня хо́чыш.*

**НАКАСА́ЦЦА** (ныкыса́цца), -а́-юся, -а́-ісься; *зак. неадабр.* Прычапіцца, навязацца. *Ныкыса́ўся — адбо́ю німа́.*

**НАКА́СЫВАЦЦА** (ныка́сывыцца), -вы-юся, -вы-ісься; *незак. неадабр.* Чапляцца, навязвацца. *Ныка́сывыцца, каб купіў у яго́ тулу́п, — а ў мяне́ сваі́х два.*

**НА́КАСЬ** (на́кысь) *прысл.* Наўкос, наўкасяк; коса. *У цябе́ карці́на на́кысь прібі́лыся.*

**НАКАТА́ЦЬ** (ныкыта́ць), -а́-ю, -а́-іш; *зак.* 1. Накатаць. 2. Пабіць, адлупцаваць. *Ні паслу́хыісься — ныкыта́ю.*

**НАКАЦІ́ЦЬ** (ныкаці́ць), -ч-у́, -ц-іш; *зак.* 1. Накаціць. 2. Гл. **наката́ць** 2. *Ныкаці́ла пру́тым, дык пашо́ў зыпла́кыўшы.*

**НА́КЛІСКА** *ж.* Намарзень. *Бярёзывыя на́кліскі кряпчэ́й, чымся асі́навыя.* Памянш. н а́ к л і с ы ч к а. *Апструга́ў дзьве на́клісычкі.*

**НАЛЕ́ЦЦЕ** (нале́цьця) *н.* Будучы год. *Што табе́ дасьць нале́цьця, калі ты се́літа гультáйнічый. Чагó табе́ ждаць нале́цьця, узя́ў дый жаніўся ціріз якéй мéсіц.*

**НАНЕ́СЦЬ** (нане́сьць), нынясу́, нынясе́ш; *зак.* 1. Нанесці. 2. *перан. асудж.* Налаяць, збэсціць. *Ынíслá бóчку рістáнтыў і пышлá.*

**НА́ПАЛ** (нáпыл) *прысл.* Папалам, напалам. *Рызьдзялілі імýшчыства нáпыл.*

**НАПАРАДЖА́ННЕ** (ныпыріджáньня) *н. неадабр.* Зборы, падрыхтоўка. *Ныпыріджáньня — усёднó як ны свáдзьбу.*

**НАПАРАДЖА́ЦЦА** (ныпыріджáцца), -á-юся, á-ісься; *незак. неадабр.* Збірацца, рыхтавацца. *Куды́ ныпырядзіўся, ну гулюшку? — а бýльбу кыпáць?*

**НАПАРАДЖА́ЦЬ** (ныпыріджáць), -á-ю, -á-іш; *незак. неадабр.* Збіраць, рыхтаваць. *Ныпыріджáй, ныпыріджáй, інá табе́ адзьдзя́чыць, — відзіш, як слýхыіць.*

**НАПАРАДЗІ́ЦЦА** (ныпырядзíцца), -дж-ýся, -дз-íсься; *зак. неадабр.* Сабрацца, падрыхтавацца. *Ці ні ныпырядзіліся і ся́ньня ў Засóжжа? Стой, Зóрька, ай ты й ся́ньня ныпырядзілыся вы́рвыцца, як учóра.*

**НАПАРАДЗІ́ЦЬ** (ныпырядзíць), -дж-ý, -дз-íш; *зак. неадабр.* Сабраць, падрыхтаваць. *Ныпырядзіла свайгó? — дýжа гóрька нáда булó.*

**НАПА́СЦІВІЦЦА** (ныпáсьцівіцца), *цяп. час не ўжываецца*; *зак.* 1. Адпасвіцца. *Ныпáсьцівіўся скытá за свой век, — хвáціць.* 2. Нахадзіцца, наесціся (у час пасьбы — пра жывёлу). *Карóвы ныпáсьцівіліся, чуць ідýць.*

**НАПА́СЦІВІЦЬ** (ныпа́сьцівіць), *цяп. час не ўжываецца*; *зак*. Накарміць жывёлу ў час пасьбы. *Во ныпа́сьцівіў: скот галóдный прішóў с пóля.*

**НАПО́ВЕРКІ** (напо́віркі) і **НАПО́ВЕРКУ** (напо́вірку) *прысл*. Несці н. — несці груз удвух, прымацаваўшы да сярэдзіны палкі і ўзяўшыся за яе канцы або палажыўшы іх на плечы. *Карзінку пыста́віў, па́лку пыд вярёўку прадзéў, тады́ адзі́н зы адзі́н канéц, другéй — зу другéй — во й нясí напо́вірку.*

**НАПРА́НУ́ТЫЙ** (ныпря́ну́тый) *дзеепрым*. Апранены. *Паéхыў у дро́вы ныпряну́тым. Ныпря́нутыя адзёжына грéіць, ня то што нырыспа́шку.*

**НАПРА́ТАНЫЙ** (ныпря́тыный) *дзеепрым*. Пабіты, адлупцаваны. *Скóлька хадзíў пы вічарíнкых, стóлька й варóчыўся ныпря́тыным і ўсігда́ сам пыдлíза́ў.*

**НАПРА́ТАЦЬ** (ныпря́тыць), -ы-ю, -ы-іш; *зак*. Пабіць, адлупцаваць. *Што ты лéзіш, хóчыш, каб ныпря́тылі?*

**НАПРА́ТКА** (ныпря́тка) *ж*. Адзежына. *Бярí ныпря́тку, ся́ньня халóдна.*

**НАПРА́ТЫВАННЕ** (ныпря́тывыньня) *н*. Адзяванне, апрананне. *Скóлька я бу́ду ждаць твайгó ныпря́тывыньня?*

**НАПРА́ТЫВАЦЦА** (ныпря́тывыцца), -(вы)юся, -(вы)ісься; *незак*. Адзявацца, апранацца. *Ныпря́тыісься цэ́лый час.*

**НАПРА́ТЫВАЦЬ** (ныпря́тывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак*. Адзяваць, апранаць. *Ныпря́туюць пу тулу́пу і хва́люцца, што цёпла.*

**НАПРОЦЯ** *прысл., прыназ.* Насупраць. *Яго хата напроця, ціряз вуліцу. Машына стала напроця калодзіжа.*

**НАПРЫКЛІЦЦА** (напрікліцца), -л-юся і -і-юся, -л-ісься і -і-ісься; *зак.* Надакучыць, абрыдаць. *Напрікліліся дзеці, бегыюць пы пыдваконьню, дык я іх прутым.*

**НАПРЫКЛЯННЕ** (ныпрікляньня) *н.* Дакучанне, назалянне. *Бягі ат мае гылавы, пугуляй мінутку якую, хуць ныпрікляньня ня будзіць.*

**НАПРЫКЛЯЦЦА** (ныпрікляцца), -я-юся, -я-ісься; *незак.* Надакучаць, назаляць. *Будзіця ныпрікляцца — прыганю за дзьвері мымінтальна.*

**НАПЯВАННЕ** (ныпіваньня) *н.* Нагавор, плявузганне. *Дужа я яго ныпіваньню паверю.*

**НАПЯТА** (напіта) *прысл.* Наўсцяж, нарасхрыст. *Дзьвері напіта. Вароты напіта. Ідзець,— каўнерь напіта.*

**НАРАВІЦЦА** (ныравіцца), -ўл-юся, -в-ісься; *незак.* Падабацца. *Ну дык што, калі я каму ні ныраўлюся.*

**НАРАВІЦЦА** (ныравіцца), -ўл-юся, -в-ісься; *незак.* Уступаць, саступаць; устрымлівацца; ладзіць. *Ныравімся і жывем ціха.*

**НАРАВІЦЬ** (ныравіць), -ўл-ю, -в-іш; *незак.* Гл. **наравіцца.** *Ныравілі адна адной і ні разу ні пысваріліся.*

**НАРАДЖАНЫЙ** (ныряджыный і ныріджаный) *дзеепрым. часта іран.* Прыбраны, прыбіраны. *Куды ж вы пашлі, яшчэ ж нявеста ні ныріджана. Прішлі ўсе ныряджыныя, рызадзетыя, — куды там каму да іх!*

**НАРАДЖА́ННЕ** (ныріджа́ньня) *н. часта іран.* Гл. **абраджа́нне**. *Ныріджа́ньня на ўвесь ве́чыр. Паве́сь-ка ныріджа́ньня у шкап.*

**НАРА́Ў** (ныра́ў) *м.* Спадоба. *Біз ныра́ву за́муж пышла́ і гурюва́ла ўвесь век.*

**НАРА́ЎЛЕННЕ** (ныра́ўліньня) *н.* Гл. **нара́ў**.

**НАРАЎЛЕ́ННЕ** (ныраўле́ньня) *н.* Уступка, устрымліванне; лад. *Зь людзьмі́ жыць — на́да ныраўле́ньня каб було́.*

**НАРАСПА́ШКІ** (нырыспа́шкі) і **НАРАСПА́ШКУ** (нырыспа́шку) *прысл.* Наапашкі. *Касцю́м нырыспа́шкі — і пашоў на ўсю ноч.*

**НАРО́ЖНІК** *м.* Дзве сценкі хлява, зрубленыя ў вугал. *Два наро́жнікі сыста́віш — во й пу́ньчына не́йкыя.*

**НАРУ́ГА** *ж.* Здзек. *Було́ мне ўсяго́ ў жы́зьні, і нару́гі хвацíла, і чаго́ хо́чыш.*

**НАРУГА́ННЕ** (нуруга́ньня) *н.* Гл. **нару́га**. *Каб ат ро́дныга сы́на дый нуруга́ньня цярьпе́ць?*

**НАРУГА́ЦЦА** (нуруга́цца), -а́-юся, -а́-ісься; *незак.* Здзекавацца; насміхацца. *Як жа табе́ ня сты́дна нуруга́цца ныц стары́м чылаве́кым!*

**НАРУ́ГЫВАННЕ** (нару́гывыньня) *н.* Гл. **нару́га**. *А я дык ба нічыйго́ нару́гывыньня н[illegible] цярьпе́ла.*

**НАРУ́ГЫВАЦЦА** (нару́гывыцца), -вы-юся, -вы-ісься; *незак.* Здзекавацца; насміхацца. *Нару́гыюцца над ро́дныю цёткыю, а іна́ ж сто́лька ім пымыга́ла.*

**НА́РАСЦЕНЬ** (на́рысьцінь) *м.* Нарасць. *Зь бярёзывыга на́рысьня харо́шыя каќо́дычкі ў сядзёлку.*

**НАСКРА́БАЦЦА** (ныскра́быцца), -ы-юся, -ы-іська; *зак.* 1. Надрапацца, начасацца, наскрэсціся, надзерціся. *Ныскра́быўся ды крыві.* 2. *пераи.* Накрэмзацца. *Ныскра́былыся, што й сам ні прычыта́ю.*

**НАСКРА́БАЦЬ** (ныскра́быць), -ы-ю, -ы-іш; *зак.* 1. Надрапаць, начасаць, надзерці. *Ня тро́гый ко́шку — ныскра́быіць.* 2. *перан.* Накрэмзаць. *Ныскра́быў, як кот ко́кцімі.*

**НАСМЯГАВА́ЦЦА** (нысьмігува́цца), -у́-юся, -у́-іська; *зак.* Нацярпецца; вынесці. *Нысьмігува́ліся пы адно́й бу́льбі.*

**НАСТА́ЧЫЦЦА** (ныста́чыцца), -ч-уся, -ч-ыська; *зак.* Набрацца, мець магчымасць. *Ці я ж табе́ ныста́чуся ка́жныю нядзе́лю спруўля́ць но́выя ту́хлі.*

**НАСТРАПАЛЁНЫЙ** (ныстрыпалёный) *дзеепрым.* Падбухтораны. *Пры́шоў ныстрыпалёный, аж кіпіць.*

Нелеўоцпа

**НАСТРАПА́ЛІВАЦЦА** (ныстрыпа́лівыцца), -ы-юся, -ы-іська; *незак.* Гл. **настрапаля́цца.** *Відзіш, не́куды ныстрыпа́лівыюцца бежч ны вічарі́нку.*

**НАСТРАПА́ЛІВАЦЬ** (ныстрыпа́лівыць), -ы-ю, ы-іш; *незак.* Гл.**настрапаля́ць**. *Каб ні ныстрыпа́лівылі, усё ціха прайшло́ б.*

**НАСТРАПАЛІ́ЦЦА** (ныстрыпалі́цца), -л-ю́ся, -л-і́ська; *зак.* Змовіцца, намерыцца. *Ныстрыпалі́ліся зла́зіць у я́блыкі.*

**НАСТРАПАЛІ́ЦЬ** (ныстрыпалі́ць), -л-ю́, -л-і́ш; *зак.* Падбухторыць. *Ныстрыпалю́, ніха́й высту́піць на схо́дзі.*

**НАСТРАПАЛЯ́ЦЦА** (ныстрыпыля́цца), -я́-юся, -я́-ісься; *незак.* Змаўляцца, намервацца. *Ці ня ўзноў ныстрыпыля́юцца ў дро́вы.*

**НАСТРАПАЛЯ́ЦЬ** (ныстрыпыля́ць), -я́-ю, -я́-іш; *незак.* Падбухторваць. *Ні ныстрыпыля́й, ён і так — сьпі́чка.*

**НА́СЬКІЙ** *прым. уст.* Тутэйшы, наш. *Зы на́ськыга пышла́ за́муж.*

**НАТРА́ПІЦЦА** (нытра́піцца), -п-іцца; *зак.* Спаткацца, папасціся. *Купі́ мукі́, калі́ нытра́піцца.*

**НАТРУ́ДЖЫВАННЕ** (натру́джывыньня) *н.* Навярэджванне. *Ка́жный дзень тыка́я даро́га, натру́джывыньня, — чаму́ но́гі ня бу́дуць бале́ць.*

**НАЎДА́КУ** *прысл.* Наўрад. *Наўда́ку ці пасьпе́іш ты к по́ізду.*

**НА́ЎСКАСЬ** (на́ўскысь) *прысл.* Наўскасы, наўскасяк. *Разрэ́зылі до́ску на́ўскысь.*

**НАЎСКАСЯЧО́К** (ныўскысічо́к) *прысл.* Гл. **на́ўскась.** *Бягі́ вун ныўскысічо́к ціряс по́ля.*

**НАЦЕРАБІ́ЦЦА** (ныцірябі́цца), -бл-ю́ся, -б-ісься; *зак.* 1. Зал.-бессуб'ект. ад **нацерабіць**. 2. Стаміцца церабіўшы. *Ныцірябі́ўся ды абе́ду, чуць дайшо́ў.* 3. *перан. іран.* Наесціся. *Ныцяре́бюцца са́ла і на печ.*

**НАЦЕРАБІ́ЦЬ** (ныцірябі́ць), -бл-ю́, -б-іш; *зак.* Насячы, цярэбячы, хмызняку. *Вазо́к удваі́х зу пуўдня́ ныцірябі́лі. Ну й ныцірябі́ў: то́лька пашо́ў — і ныза́д.*

**НЕДАЛЯГА́ННЕ** (нідылі́га́ньня) *н.* Нездароўе, нядужасць, недамаганне. *Не́йкыя нідылі́га́ньня — чуць хаджу́.*

**НЕДАЛЯГА́ЦЦА** (нідылігáцца), -á-іцца; *незак.* Нездаровіцца, нядужацца, недамагацца. *Зь вéчыра пычалó нідылігáцца.*

**НЕДАЛЯГА́ЦЬ** (нідылігáць), -á-іць; *незак.* Нездаровіцца, нядужацца, недамагаць. *Табé, вéрна, нідылігáіць што-нéбудзь: від нéйкій блéдный.*

**НЕЗАДА́ЧА** (нізыдáча) *ж.* Няўдача. *Тыкáя нізыдáча: сходзіў і дырмá.*

**НЕЗАДА́ШНА** (нізыдáшна) *прысл.* Няўдала, няўдачна. *Нізыдáшна зьéздзілі: нічóга ні купілі.*

**НЕЗАДА́ШНЫЙ** (нізыдáшный) *прым.* Няўдалы, няўдачны. *Нізыдáшный мне ўчóра быў бызáр: ні купíла, што нáда булó.*

**НЕ́КАЛЬСТВА** (нéкыльства) *н.* Няхватка часу. *Ай, ні атгывáрівыйся ты нéкыльствым, мóжна булó ўрéмя вы́брыць і пріцíць ны якýю мінýтку.*

**НЕКУЛЬЦЯ́ПІСТА** (нікульцяпіста) *прысл. гумар.* Нязграбна. *Нікульцяпіста ж ты дзéлыіш.*

**НЕКУЛЬЦЯ́ПІСТЫЙ** (нікульцяпістый) *прым. гумар.* Нязграбны, няўдалы. *Нікульцяпістыя ў цябé шáйка вы́йшла, — як рыгызá.*

**НЕ́ЛЮДЗЬ** *м.* і *ж. груб.* Вылюдак, ідыёт. *Нéлюдзь нéйкыя ўрадзілыся.*

**НЕМУДРЫ́Й** (німудры́й) і **НЕМУДРЭ́Й** (німудрэ́й) *прым.* Няважны. *Пыстáвіў сы́ну німудрýю хáтку, а лýччыю ніхáй сам стрóіць.*

**НЕПУТНЭ́Й** (ніпутнэ́й) і **НЕПУТНЫ́Й** (ніпутны́й) *прым.* Шалапутны, бесталковы, узбаламучаны, бязладны, распусны. *Зь ніпутны́м жыць — ні хацí ты, дзéўка, і зáмужа тóга.*

**НЕ́РВАННАСЦЬ** (нéрвынныськць) *ж.* Нервовасць. *Аткýль у цябé стóлька нéрвынныськці?*

**НЕ́РВАННЫЙ** (не́рвынный) *прым.* Нервовы. *По́сьлі балёзьні стаў ду́жа не́рвынным.*

**НЕСУСВЕ́ЦЦЕ** (нісусьве́цьця) 1. *н.* Недарэчнасць, бязглуздзіца. *Усё нісусьве́цьця зьнісла́ ны яго́.* 2. *м.* і *ж.* Няўдаліца. *У каго́ тако́я нісусьве́цьця ўдало́ся?*

**НЕСЦЬ** (несьць), нясу́, нясе́ш; *незак.* 1. Несці. 2. *перан. асудж.* Лаяць, бэсціць. *Нісла́ ны яго́, што то́лька на́ рыт ле́зла, а ён муўча́ў — ні сло́ва.*

**НЕ́СЫЦЬ** *груб.* 1. *м.* і *ж.* Ненаедны. *Не́сыць ні ра́зу ні нажрэ́цца.* 2. *ж.* Ненаеднасць. *Ці цябе́ не́сыць хвыта́іць?*

**НЕ́ТКУЛЬ** *прысл.* Неадкуль, аднекуль. *Ка́жыцца, не́ткуль цеч: кры́ша но́выя, а цяке́ць. Кот усё ле́та не́йдзі бе́гыў, а тады́ не́ткуль прібе́г.*

**НЕЎКАВЫ́РНАСЦЬ** (ніўкавы́рнысьць) *ж.* Капрыз. *Ла́дный ба сь цябе́ чылаве́к быў, каб ніўкавы́рнысьці тро́шку ме́нишы.*

**НЕЎКАВЫ́РНЫЙ** (ніўкавы́рный) *прым.* Капрызны. *Ду́жа ж ты ніўкавы́рныя: ні пыдыйдзі к табе́.*

**НЕЎЛАГО́ДНЯ** (ніўлаго́дня) *прысл.* 1. Не ў ладах. *Дружы́лі-дружы́лі, а цяпе́ря не́шта ніўлаго́дня.* 2. Не ў гуморы. *Што́ йта ты ся́ньня ніўлаго́дня?*

**НЕХАРМУ́ЗНЫЙ** (ніхарму́зный) *прым.* Нехлямяжы; непрыгожы. *Ніхарму́зныя гаршкі́.*

**НЕХУЦА́ВЫЙ** (ніхуца́вый) *прым.* Неакуратны. *Таке́й жа ты ўжо ніхуца́вый, што я пря́ма ні зна́ю, як цябе́ к пыря́дку прівучы́ць.*

, **НЕШТА** *н.* Штосьці невядомае, нейкі прадмет. *Я свайго нешта ні пыкажу. Адбярэм тваё нешта.* Памянш. **нештычка.** *У мяне ёсьць нештычка, у цябе такога німа.*

**НЯДАЎНАЧКА** (нідаўнычка) *прысл.* Нядаўна. *Пашоў саўсім нідаўнычка, а ўжо, глядзі-ка — ныэад ідзець.*

**НЯЗРАШЧЫЙ** (нізряшчый) *прым.* Невідучы, сляпы. *Пятый год жывець саўсім нізряшчым, ні сьлядзінычкі ня відзіць.*

**НЯЗГРАЯ** (нізграя) *м.* і *ж.* Неакуратны. *І ну грудзях бульба прісохла, і каленкі вымызыны, — ходзіць нізграя нізграію.*

**НЯМЕРНЫЙ** *прым.* Выключны, надзвычайны, празмерны. *Кажыцца б, на што ўжо — а ну цубулю сяньня нямерныя цына. Нямерный апіціт.*

**НЯХОТА** *прысл.* Неахвота, няма ахвоты. *Ні пайду на вечыр — нешта няхота.*

## П

**ПААБХЛЮПАЦЦА** (пыапхлюпыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *зак.* Гл. **абхлюпацца**. *Пыапхлюпыўся, усё роўна як дзень грязь мясіў.*

**ПААБХЛЮПАЦЬ** (пыапхлюпыць), -ы-ю, -ы-іш; *зак.* Гл. **абхлюпаць**. *Пысядзі мінутычку: пыапхлюпыіш новый касьцюм пы грязішчы.*

**ПААБХЛЮПЫВАЦЦА** (пыапхлюпывыцца), -вы-юся, -вы-ісься; *зак.* Гл. **абхлюпацца**. *Пыапхлюпывыўся па вушы.*

**ПААБХЛЮПЫВАЦЬ** (пыапхлюпывыць), -вы-ю, -вы-іш; *зак.* Гл. **абхлюпаць**. *Пыапхлюпывыў і шта-*

*ны, і пальтó, рáзьві ж нілізя́ булó акурáтній прайціць.*

**ПАБÓЙКІ** *толькі мн.* Пабітыя жывёлай або птушкай пасевы. *Пабóйкі скасілі і зрáзу на воз.* Памянш. п а б ó і ч к і.

**ПАБРЫНДАЦЬ** (пабры́ндыць), -ы-ю, -ы-іш; *зак.* Пабадзяцца, пашвэндацца. *Пабры́ндыў зь вéчыра пы дзярéўні і зываліўся спаць.*

**ПАБРЫНКАНЫЙ** (пабры́нкыный) *дзеепрым.* Скошаны, пакошаны абы-як, зболышага. *Трóшку пабры́нкына, тут дýжа касіць нéчыга.*

**ПАБРЫНКАЦЬ** (пабры́нкыць), -ы-ю, -ы-іш; *зак.* 1. Пабрынкаць. 2. *перан.* Пакасіць, скасіць (рэдкую траву ці абы-як, зболышага). *Нéхта пабры́нкыў як маты́кыю.*

**ПАГНÁІВАЦЬ** (пыгнáівыць) і **ПАГНÓІВАЦЬ** (пагнóівыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Гл. **спагнáіваць.** *Айдзé пóля пыгнáівылі, зрáзу віднá па ýсхóдых.*

**ПАГНАІЦЬ** (пыгнаíць), -а-ю́, -а-íш; *зак.* 1. Пагнаіць, згнаіць. 2. Гл. **спагнóіць**. *Лéтыся гнóю убýхылі дык убýхылі, а сёліта тóлька трóшку пыгнаілі — мнóга нільзя́: пыля́жыць усё, што ні пасéіш.*

**ПАГНÁЦЬ** (пыгнáць), пыганю́, пагóніш; *зак.* 1. Пагнаць. 2. *перан. асудж.* Пачаць лаянку; лаяць, бэсціць. *Ні за што ні пра што пыгнáла лухтý ніпытсівáныю, мох з балóта.*

**ПАГНÓЕНЫЙ** (пагнóіный) *дзеепрым.* 1. Пагноены, згноены. 2. Угноены. *Пылавіна пóля пагнóіна.*

**ПАГНÓЙ** *м.* 1. Угнойванне. 2. Гной. *Увéсь лён пасéілі с пагнóім.*

**ПАГНÓЙНЫЙ** *прым.* Угноены. *Зы асіньнічкым пагнóйный кусóк.*

**ПАГРЭ́БКА** (пыгрéбка) *ж.* Надбудова з паветкай над пограбам. *Салóмы трóшку трухнýлі у пыгрéбкі дый ссыпылі дрóбную бýльбу.*

**ПАДАВА́ННІК** (пыдывáньнік) *м.* Падавальшчык. *Пыдывáньнікыў ны стагý нáда чáста міняць, адзін жа там ні спрáвіцца.*

**ПАДАВА́ННІЦА** (пыдывáньніца) *ж.* Падавальшчыца.

**ПАДА́Й** (пыдáй) *часц.* Бадай, няхай; каб. *Пыдáй цябé кымáр укусіў.*

**ПАДБУХТÓРЫВАЦЬ** (пудбухтóрівыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* 1. Падбухторваць. 2. *перан. неадабр.* Падліваць. *Ні пудбухтóрівый вады, там і так мнóга.*

**ПАДБУХТÓРЫЦЬ** (пудбухтóріць), -р-ю, -р-іш; *зак.* 1. Падбухторыць. 2. *перан. неадабр.* Падліць. *Наштó ты пудбухтóріў у шáйку?*

**ПАДМÓСНІК** (падмóсьнік) *м.* Брус пад падлогай. *Падмóсьнікі усігдá цéшуцца пач шнур.*

**ПАДМÓСЦЕ** (падмóсьця) *н.* Падпамосце. *Насыпылі падмóсьця быракóў.*

**ПАДНЯХВÉРЫВАННЕ** (пыдняхвéрівыньня) *н.* Згода; абяцанне (легкадумнае). *Ат пыдняхвéрівыньня тóлку мáла.*

**ПАДНЯХВÉРЫВАЦЦА** (пыдняхвéрівыцца), -(вы)юся, -(вы)ісься; *незак.* Згаджацца; абяцаць (легкадумна). *Ня хóчыш дзéлыць, дык ні пыдняхвéрівыйся.*

**ПАДНЯХВÉРЫВАЦЬ** (пыдняхвéрівыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* Падбухторваць, падахвочваць. *Кудыі ты ягó пыдняхвéріїш?*

**ПАДНЯХВÉРЫЦЦА** (пыдняхвéріцца), -р-юся; -р-ісься; *зак.* Згадзіцца; паабяцаць (легкадумна). *Ён усігдá так: пыдняхвéріцца, а тадыі ў кусты.*

**ПАДНЯХВЕ́РЫЦЬ** (пыдняхве́ріць), -р-ю, -р-іш; *зак.* Падбухторыць, падахвоціць. *Пыдняхве́ріла яго́ ляпнуць абы-што́, а ён і гато́ў.*

**ПАДО́ЙМА**: у падо́йму. Як падняць. *Мех у падо́йму. Ныкла́ў но́шку у падо́йму.*

**ПАДО́Л** *м.* 1. Падол. 2. Месца на рэчцы́, сажалцы, дзе мыюць бялізну. *По́він я́шчык шчо́лыку зьдзе́лыла, за́ўтря пайду́ ны падо́л.*

**ПАДСАТАНІ́ЦЬ** (пыцсытані́ць), -н-ю́, -н-і́ш; *зак.* Гл. **настрапалі́ць**. *Ні пыцсытыня́й, ён і так ца́ца ла́дныя.*

**ПАДСО́ШАК** (пацсо́шык) *м.* Невялікі слуп, на які абапіраецца дах хлява, навеса. *Бу́ря ўсхадзілыся і ськінула кры́шу с пацсо́шкыў.*

**ПАДСО́ШЫНА** (пацсо́шына) *ж.* Гл. **падсо́шак**. *Пыцягі пыкла́лі ны пацсо́шыны, а крю́чча паве́сім за́ўтря.*

**ПАДСЫКНУ́ЦЬ** (пыцсыкну́ць), -н-у́, -н-е́ш; *зак.* Гл. **настрапалі́ць**. *Пыцсыкну́лі — ён і гато́ў біцца, а чаго́ й за што, сам ні зна́іць.*

**ПАДУ́ШКА** *ж.* 1. Падушка. 2. *перан.* Драўляная пракладка ў калёсах паміж воссю і верхняй часткай калёс. *Паду́шкі дзе́лыюцца то́лька зь бярёзы: сасно́вые ня вы́дзіржуць, а дубо́выя цяжо́лы.*

**ПАДХВА́ТНЫЙ** (пытхва́тный) *прым.* Працавіты, руплівы. *Пытхва́тныя дзе́ўка. Не́шта ты ня ду́жа пытхва́цін ны рабо́ту, затоя вічарі́нку гато́ў у Сыхла́вічых ні прупусьці́ць.*

**ПАДЫ́СПАД** (склад паді́спыд) і **ПАДЫСПО́Д** (пыдыспо́д) *прысл.* Уніз. *Ныгря́кылі падыспыд хво́рысьця.*

**ПАДЫСПАДАМ** (пады́спыдым) і **ПАДЫСПО́ДАМ** (пыдыспо́дым) *прысл.* Знізу, спадыспаду; унізе. *Пясо́к зьве́рьху сух, а пады́спыдым сыр.*

**ПАД'ЯЛДЫКНУЦЬ** (пыд'ялды́кнуць), -н-у, -н-іш; *зак.* Падкусіць, падкалупіць. *У яго́ ні ра́зу ні або́йдзіцца, каб каго́ ні пыд'ялды́кнуць.*

**ПАЗНАТА́** (пызныта́) *ж.* Позні час. *Вярну́ўся са́мыю пызнато́ю. Пызныта́: куды́ ты по́йдзіш, піріначчу́й у нас.*

**ПАКЛА́СЦЬ** (пыкла́сьць), пыкладу́, пыкладзе́ш; *зак.* 1. Пакласці. 2. Кастрыраваць. *Пыкла́лі ўчо́ра быранко́ў.*

**ПАКЛЫ́ЧЫЦЦА**, -ч-ыцца; *зак.* Паблытацца; пацерціся, памяцца. *Снапкі́ стыя́лі пыц стряхо́ю, ды тро́ху паклы́чыліся: то ве́цір зыва́ліць, то ку́ры узьле́зуць.*

**ПАКЛЫ́ЧЫЦЬ**, -ч-у, -ч-ыш; *зак.* Паблытаць; памяць, пацерці. *Прібярі́ снапы́ с кале́с: ку́ры ўміг паклы́чуць.*

**ПАКУ́ЛІЦЬКА** *прысл., зл.* Пакуль, пакуль што. *Паку́ліцька ніко́га ні було́, мо́жа, пазьне́й падыйдуць. Жджы, паку́ліцька хто ні пыя́віцца.*

**ПАКУ́ШЫЦЬ**, -ы-ю, -ы-іш; *зак.* Пакаштаваць ежу; паспрабаваць на моц яйка. *Паку́шый — а там адна́ соль, есьць нільзя́. Паку́шый яйцо́, ці кре́пкыя.*

**ПАЛАСНУ́ЦЦА** (пыласну́цца), -н-у́ся, -н-е́сься; *зак.* Спехам памыцца, памыць. *Пыласну́ўся туды́-сюды́ ды скаре́й ныдзіва́цца.*

**ПАЛАСНУ́ЦЬ** (пыласну́ць), -н-у́, -н-е́ш; *зак.* 1. Спехам памыць. *Пыласну́ла пялёнкі і ны вяре́йку: ніха́й су́шуцца.* 2. *перан.* Разануць (нажом). *Пыласну́лі нажо́м пу грудзя́х.*

**ПАЛАТА́ЦЦА** (пылыта́цца), -а́-юся, -а́-ісься; *зак.* Пажывіцца. *Гультаю адна́ клапо́та — каб айдзе́ пылыта́цца.*

**ПАЛУ́ЧЧЫЦЬ**, -ы-ю, -ы-іш; *зак.* 1. Палепшыць, паправіць, зрабіць лепшым. *Нямно́жка палу́ччыў калёсы.* 2. Выздаравець, паправіцца. *Усю зіму́ прывыля́ўся, а к вясьне́ палу́ччыў.*

**ПАЛЬЗІ́ЦІЛЬНА** *прысл.* Карысна. *Зыгыря́ць пальзі́цільна.*

**ПАЛЬЗІ́ЦІЛЬНАСЦЬ** (пальзі́цільнысьць) *ж.* Карысць. *Вы́піў буты́лычку мiксту́ры, а пальзі́цільнысьці не́шта ніякый німа́.*

**ПАЛЯ́ЎКА** (пыля́ўка) *ж.* 1. Яблыня-дзічка. *Сядзе́ла лі кусто́ў пыля́ўка, дык не́хта вы́кыпаў.* 2. Яблык з дзічкі. *Пыля́ўкі як улёжуцца, то есьць мо́жна.*

**ПАЛЬЗІ́ЦІЛЬНЫЙ** *прым.* Карысны. *Была́ ў бальні́цы* (палікліні́цы) — *дык да́лі ду́жа пальзі́цільныга ліка́рства.*

**ПАМАГА́ННІК** (пымыга́ньнік) *м.* Памочнік. *Пымыга́ньнікыў набе́гла сто́лька, што й стаць не́йдзі.* Памянш. *часта іран.* пымыга́ньнічык. *С такі́м пымыга́ньнічкым зыначу́іш у ле́сі.*

**ПАМАГА́ННІЦА** (пымыга́ньніца) *ж.* Памочніца. *Ня сто́лька по́мычы ат тых пымыга́ньніц, ско́лька кры́ку ды гва́лту.*

**ПАМЕ́НІНЫЙ** *дзеепрым.* Зменшаны; паменшаны. *Ны загне́ці аго́нь паме́нін.*

**ПАМЕ́НІЦЦА**, -н-іцца і -і-іцца; *зак.* Зменшыцца; паменшаць, паменшацца. *Дні паме́ніліся.*

**ПАМЕ́НІЦЬ**, -н-ю і -і-ю, -н-іш і -і-іш; *зак.* Гл. **паме́ніцца.** *Паме́нь аго́нь у ла́мпі.*

**ПАМЫЙКІ** *толькі мн.* Памыі. *Шайку памыік выліў пад ногі.* Памянш. памы́ічкі.

**ПАНАРО́ЎКА** (пынаро́ўка) *ж.* Дрэнная звычка. *Што йта ты сабе́ ўзяў зы пынаро́ўку: шаг сту́піць — і ўсё мыцірі́ко́м, мыцірі́ко́м.*

**ПА́НАЎКА** (па́ныўка) *ж.* Палонка. *Я у па́ныўкі памыю мілыму рубашычку.* Памянш. па́нывычка.

**ПАНЕ́СЦЬ** (пане́сьць), пынясу́, пынясе́ш; *зак.* 1. Панесці. 2. Гл. **пагна́ць** 2. *Пынісла́ такоя, што сьвет ба лу́ччы ня чуў і ня слу́хыў.*

**ПАНІ́ЦЦА**, -н-ю́ся, -н-ісься; *незак. іран.* Жыць па-панску, лодырнічаць, гультайнічаць. *Ты паніўся б, каб хто цябе́ карміў.*

**ПАНІ́ЦЬ**, -н-ю́, -н-і́ш; *незак. іран.* Патураць, патвараць. *Дзяце́й не́чыга паніць, на́да зма́лку к рабо́ці прівуча́ць.*

**ПАНЯ́ЦЦА** (пыня́цца), по́йміцца; *зак.* Прывыкнуць, прывучыцца. *Пыняліся ку́ры у ячме́нь — ня ўгле́дзіш.*

**ПАНЯ́ЦЬ** (пыня́ць), пайму́, по́йміш; *зак.* 1. Зразумець. 2. Заліць (пра ваду). *Уве́сь луг выда́ пыніла́, то́лька лыза́ тарчы́ць.*

√ **ПА́РАНІНА** (па́ріні́на) *ж.* Папар. *Улажылі па́ріні́ну гно́ім с тархо́м,— што хо́чыш бу́дзіць.* Памянш. па́рінінка. *Па́рінінку узьвярну́лі* (узаралі) *і нічо́га ні пасе́ілі.*

**ПАРАСПАСА́ДЗІЦЬ** (пырыспыса́дзіць), -дж-у, -дз-іш; *зак.* Гл. **распаса́дзіць**. *Пырыспыса́дзіў — і сабе́ ні ста́лыся.*

**ПА́РАСЦЬ** (па́рысьць) *ж.* Параснік. *Па́рысьць за дно ле́та узіла́ся — ні прале́зьць.*

**ПАРНІ́КІ** *толькі мн.* Спарышы (два гаршчкі з ручкай пасярэдзіне); у парніках носяць у поле

есці. *С пырнікámі січáс ня вóзюцца, рáзьві тóлька пустухáм вáріва занéсьць.*

**ПАРНЯ́ТКА** (пырня́тка) *м.* і *ж.* Адно дзіця з двайнят. Гл. **парня́ты.** Памянш. пырня́тычка.

**ПАРНЯ́ТЫ** (пырня́ты) *тольki мн.* Двайняты. *Другéй раз пырня́т радзіла.* Памянш. пырня́ткі, пырня́тычкі.

**ПАРО́НКІ** (парёнкі) *тольki мн.* Паранка. *Абмішáй сéчку парёнкымі — ніякыя скацíна ні аткáжыцца.* Памянш. парёнычкі.

**ПАСЕ́ЖАННЕ** (пасёжыньня) і **ПАСЯЖЭ́ННЕ** (пысяжэ́ньня) *н.* Пасяджэнне. *Рызыйшліся с пасёжыньня падзь дзень.*

**ПАСКАННІ́НА** (пысканьні́на) *ж.* 1. Сцябло маніц. *Вы́рвыў пысканьні́ну і нóсіцца.* 2. Палатно з маніц, вырабы з такога палатна. *Я яшчэ́ пóмню: і на цéла пысканьні́на, і навéрьх пысканьні́на.*

**ПАСЛАБАДЖА́ЦЦА** (пыслыбыджáцца), -á-іцца; *незак.* Аслабляцца (нацягнутаму або туга завязанаму). *Глянь: шнур пыслыбыджáіцца?*

**ПАСЛАБАДЖА́ЦЬ** (пыслыбыджáць), -á-ю, -á-іш; *незак.* Аслабляць (нацягнутае або туга завязанае); адпускаць. *Пыслыбыджáй вярёўку, бáлька сымá паéдзіць сы сьцяны́.*

**ПАСЛАБАДЗІ́ЦЦА** (пыслыбадзíцца), -дз-íцца; *зак.* Аслабіцца (нацягнутаму або туга завязанаму). *Уцікáй, патпóрка пыслыбадзíлыся.*

**ПАСЛАБАДЗІ́ЦЬ** (пыслыбадзíць), -дж-ý, -дз-íш; *зак.* Аслабіць (нацягнутае або туга завязанае); адпусціць. *Вярёўку пыслыбадзíлі, кáжыцца, трóшку, а сыхá брязь ціріс пáлку і нáпыл.*

**ПАСЛАБАДНЕ́ЦЦА** (пыслыбадне́цца), -е́-іцца; *зак.* Гл. **паслабадне́ць**. *Пыслыба́днелыся, як тро́ху людзе́й пашло́. Схаджу́, як пыслыбадне́іцца.*

**ПАСЛАБАДНЕЦЬ** (пыслыбадне́ць), -е́-ю, -е́-іш; *зак.* 1. Параскашнець, зрабіцца прасторней. *Қало́дкі зыгна́ў у баці́нкі — тады́ тро́ху пыслыбадне́лі*. 2 Вызваліцца, разгрузіцца, мець вольны час. *Брігадзі́р пыслыбадне́іць, як усё с по́ля ўбяру́ць.*

**ПАСМА́ЧЫЦЦА** (пысма́чыцца), -ч-ыцца; *зак.* Паказацца смачным. *Трі дні ліжа́ў і ў рот нічо́га ні бра́ў, а ся́ньня пысма́чыліся быракі́, зьеў місычку.*

**ПАСТА́ННЕ** (пыста́ньня) *н.* Падол. *Зыма́зыла пыста́ньня я́гыдымі.* Памянш. пыста́ньніка, пыста́ньнічка. *Дзяржы́ пыста́ньніка: аре́хыў насы́плю.*

**ПАСТУ́Х** *м.* 1. Пастух. 2. Статак. *Вядзі́ каро́ву ў пасту́х. Цёлычка пріві́кла ў пастуху́ хадзі́ць. Наду́мылыся і луману́ла у чужэ́й пасту́х. Во́ўцы ат пустуха́ ні аста́нуцца, яны́ ўсігда́ зы каро́вымі. Қ на́шыму пустуху́ прібіліся не́чыя ціля́ткі.*

**ПАСЬЦІ́** *прысл.* Амаль. *Пасьці́ год любіліся, а тады́ не́шта рызла́дзілыся.*

**ПАТВО́РА** 1. *ж.* Патуранне. *Ні ба́лый дзяце́й патво́рыю.* 2. *м.* і *ж.* Балаўнік, свавольнік; балаўніца, свавольніца. *І патво́ру калі́ во́зьміш у ру́кі, толк бу́дзіць.*

**ПАТВО́РНІЧАЦЬ** (патво́рнічыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Патураць. *Патво́рнічый-патво́рнічый ны сваю́ гылаву́.*

**ПАТВО́РЫВАЦЬ** (патво́рывыць), -вы-ю, -вы-іш; *незак.* Гл. **патво́рнічаць**. *Патво́рывый, дык і пісьма́ ні пріше́ць.*

**ПАТРАПА́ЦЬ** (пытріпа́ць), -пл-ю́, -п-іш; *зак.* 1. Патрапаць (ільновалакно). 2. *перан. асудж.* Паплявузгаць, пабалбатаць. 3. *перан.* Разбіць, разнесці. *І ціхій ка́жыцца конь, а так пытріпа́ў, што й ні паду́мыў ба.*

**ПА́ТРАП'Е** (па́тріп'я) *н.* Пачассе, ачоскі. *Па́тріп'ім дзірьку які́ю заткне́ш.* Памянш. п а́ т р і п'і к а. *Абаткну́ў дзьве́рі ў се́нцых па́тріп'ікым.*

**ПАТРУ́ХА** *ж.* Гл. **аціра**. *Зьмёў патру́ху ў адно́ ме́ста.*

**ПАТЫНЕ́ЦЬ** (пытыне́ць), -е-іць; *зак.* Патлець, патрухнуць. *Во́ жа́дныcьць: усё бірігла́ сукно́, паку́ля пытыне́ла.*

**ПАЎМІ́ЦЬ**, -м-іць; *зак.* Уразумець, уцяміць. *Паўмі, хто цябе́ го́ніць у суго́н жаніцца ды а́рміі.*

**ПАХА́ПЫВАЦЬ** (пыха́пывыць), -вы-ю, -вы-іш; *незак.* Быць крыху падобным. *Ліцо́м пыха́пывыйць ны ба́цьку, а пахо́дка уся́ ма́ткіна.*

**ПАЦЕ́ШАНЫЙ** (паце́шыный) *дзеепрым.* Падкормлены, падгадаваны. *Забілі тро́шку паце́шыныга.*

**ПАЦЕ́ШЫЦЦА**, -ш-ыцца; *зак.* Падкарміцца, падгадавацца (пра вепрука). *Нiха́й тро́шку паце́шыцца, а к канцу́ ме́сіца заб'ём.*

**ПАЦЕ́ШЫЦЬ**, -ш-у, -ш-ыш; *зак.* Падкарміць, падгадаваць (правепрука). *Нашто́ мне са́ла ў чэцьвірць: паце́шу па́ру ме́сіцыў — і хва́ціць.*

**ПАЦЁКІ** *толькі мн.* 1. Ручаі. *З гор пацёкі, з гор пацёкі, з гор халóдныя выдá.* 2. Зацёкі. *Крыша прымыкáіць ны рагý, дык пацёкі пашлі ны сьцінáх. Дождж, — па вóкных пацёкі, аж ня відна нічóга.*

**ПÁЦІПНІК** *м.* Хмызняк. *Ны пáціпніку піра-гóў ні ныпякéш.*

**ПАЦЯ́Г** (пыця́г) *м.* Гл. **пацяга**. Памянш. пыцяжóк.

**ПАЦЯ́ГА** (пыця́га) *ж.* Тоўстая жэрдка, якая кладзецца паверх шулаў або на падсошкі, а таксама на козлы пад вільчак. *На вéрхнюю пыця́гу вéшыіцца крючча, а пыцягі ў шýльлю ні даюць сьцéным пывярнýцца, дзіржáць іх.* Памянш. пыця́жка.

**ПАЦЯГНУ́ЦЬ** (пыцягнýць), -н-ý, -н-іш; *зак.* 1. Пацягнуць. 2. *перан.* Ударыць, выцяць, перацягнуць. *Пыцягнýлі бізунóм пы сьпінé.*

**ПАЦЯЖЫ́НА** (пыцяжы́на) *ж.* Гл. **пацяга**. *Кáжыцца, тóнкыя пыцяжы́на, а чуць усьцягнýлі.*

**ПАШТÁР** (пыштáрь) *м.* Паштальён. *Спрасі-ка ў пыштыря́, мóжа, нам што ёсьць.*

**ПАШТÁРКА** (пыштáрька) *ж.* Жанчына-паштальён. *Даўнó ўжо к нам пыштáрька ні зыхадзіла.*

**ПЕКЛАВÁЦЦА** (піклувáцца), пяклýіцца; *незак.* Гл. **пéтавацца** 2. *Ён вылёжыіцца, а ты зы ягó пяклýйся.*

**ПЕ́ЛЕСЦЬ** (пéлісьць) *ж.* Папярочны край ночваў, карыта. *Трéснулі абéя пéлісьці, цяпéря ночвы выкідывый.*

**ПЕ́ЛЬКІ** *толькі мн.* Грудзі. *Ня бéгый пы марóзу з рашшпіліными пéлькымі.*

**ПЕРАБІРА́НКА** (пірібіра́нка) *ж.* Гл. **адбіра́нка.** *Дзе́лыйця скаре́й пірібіра́нкі ды ны капу́: дождж нахо́дзіць.*

**ПЕРАБУНТАВА́ЦЦА** (пірібунтува́цца), -у́-юся, -у́-ісься; *зак.* Пераблытацца; зблытацца; збіцца з ліку. *Каб ня ты, я б ні пірібунтува́ўся.*

**ПЕРАБУНТАВА́ЦЬ** (пірібунтува́ць), -у́-ю, -у́-іш; *зак.* Пераблытаць, зблытаць; збіць з ліку; перашкодзіць. *Я шчыта́ў-шчыта́ў, а ты пірібунтува́ў.*

**ПЕРАДО́ЎКА** (пірядо́ўка) *ж.* Моцная кароткая вяроўка ў пярэдняй частцы воза, за якую ўмацоўваецца рубель пры ўвязванні сена, саломы, снапоў. *Пірядо́ўка калі парьве́цца, дык жэрдзь мо́жыць на сьмерць забіць.*

**ПЕРАЖА́БІЦЦА** (піріжа́біцца), -б-іцца; *зак.* Перагнуцца. *Харо́шый быў сагну́ўся абру́ч і піріжа́біўся.*

**ПЕРАЖА́БІЦЬ** (піріжа́біць), -бл-ю, -б-іш; *зак.* Перагнуць. *Каб акура́тна гнуў, і ні піріжа́біў ба.*

**ПЕРАКІ́НУЦЬ** (пірякі́нуць), -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Перакінуць. 2. *перан.* Адзець часова, пераадзець. *По́тный уве́сь, пірякінь што-не́будзь сушэ́йшыя.*

**ПЕРАШАРСЦІ́ЦЬ** (пірішарсьці́ць), -шч-у́, -ц-іш; *зак.* Знішчыць. *Тхорь зы адну́ ноч пірішарсьціў чуць ня ўсіх куре́й.*

**ПЕРВІНА́** (пірьвіна́) *прысл.* Першы раз, упершыню. *Ці яму́ пірьвіна́ збріха́ць? Табе́ ні пірьвіна́ прыспа́ць су́дкі бяс про́сыпу.*

**ПЕ́РВЯЗЕНЬ** (пе́рьвізінь) *м.* Перавясла. *І пе́рьвізінь скруці́ць уме́ць на́да.*

**ПЕ́ТАВАННЕ** (пётывыньня) *н.* 1. Біццё. *Пётывыньнім рózуму ні ўкладзéш.* 2. Выкананне цяжкай работы. *Кінь ты пётывыньня нат пнём.*

**ПЕ́ТАВАЦЦА** (пётывыцца), -(вы)юся, -(вы)ісься; *незак.* 1. Біцца. *Як узяліся пётывыцца грыблямі.* 2. *перан.* Выконваць цяжкую работу. *У пáні ны жнівé бувáла пётывыліся.*

**ПЕ́ТАВАЦЬ** (пётывыць), -(вы)ю, -(вы)іш; *незак.* Біць, лупцаваць. *Як стаў пётывыць ягó, а за што пра што, каб хто спрасіў.*

**ПЕ́ТАННЕ** (пётыньня) *н.* Гл. **пётаванне.**

**ПЕ́ТАЦЦА** (пётыцца), -ы-юся; *незак.* Гл. **пётавацца.** *Ня пётыйся, сядзь ды пысядзі.*

**ПЕ́ТАЦЬ** (пётыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Гл. **пётаваць.**

**ПІ́ЛЬНА** *прысл.* Тэрмінова, неадкладна. *Пільна нáда ацскачыць ны бызáр.*

**ПІ́ЛЬНАСЦЬ** (пільнысьць) *ж.* Тэрміновасць; патрэба. *Ікáя ў цябé пільнысьць бежч, у гóрыд?*

**ПІ́ЛЬНЫЙ** *прым.* Тэрміновы; неадкладны; неабходны. *Пільный рызгавóр у нас.*

**ПЛА́ЦЦЕ** (плáцьця) н. 1. Плацце, сукенка. Памянш. п л á ц ь ц і к а. *Надзéнім плáцьціка і пóйдзім гуляць.* 2. Бялізна. *Дзень прóйдзіць, пакýль ны такýю сям'ішчу плáцьця намыісься.*

**ПЛЮ́СКАЦЬ** (плюскыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Маргаць. *Нікрасіва плюскыць пымінутна.*

**ПЛЮ́СНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* Маргнуць. *Ці замéціў — Мікіпырька плюснуў Стыхвáну і нéкуды пыдаліся.*

**ПЛЯ́ХАННЕ** (пля́хыньня) *н.* 1. Біццё. 2. Бег, беганіна (жывёлы). *Прікручу́ нагу́ к нагé, бу́дзіш хадзíць, пля́хыньня сь цябé зрáзу вы́лізіць.*

**ПЛЯ́ХНУЦЦА**, -н-уся, -н-ісься; *зак.* Упасці, паваліцца. *Пля́хнуўся з рызмáху ў грязь.*

**ПЛЯ́ХНУЦЬ**, -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Ударыць. 2. Пабегчы. *Цёлычка вы́рвылыся і пля́хнула пы пасéвых у пасту́х.*

**ПЛЯХÓТКА** *ж.* Вельмі зношаная рубашка. *Пляхóтку тóлька з бáні пірякíніш.* Памянш. пляхóтычка.

**ПЛЯХÓЦЦЕ** (пляхóцьця) *н.* Рвань, старызна. *Сыбрáла пляхóцьця цэ́лую карзíну, здам тря́пышніку.*

**ПÓДАЛ** (пóдыл) *м.* Гл. **падóл**. *Ні цігáйся за пóдылым, займíся чым-нéбудзь. На пóдыл схаджу́ атвéчыра.*

**ПÓСКАННІ** (пóскыньні) *толькі мн.* Маніцы. *Пóскыньні вы́брыла і рызыслáла.* Памянш. пóскыньнікі.

**ПРАГАЙДА́ЧЫЦЬ** (прыгыйдáчыць), -ч-у, -ч-ыш; *зак.* Гл. **прагалдамáчыць.** *Ду́жа ж ты скóра прыгыйдáчыў клець.*

**ПРАГАЛДАМА́ЧЫЦЬ** (прыгылдымáчыць), -ч-у, -ч-ыш; *зак.* Змарнатравіць, прамантачыць, пратранжырыць. *Паéхылі, усё, што булó, прыгылдымáчылі і вярну́ліся нызáд біс капéйкі.*

**ПРАЖМÓ** (пряжмó) *н.* Паджаранае на агні калоссе недаспелага жыта. *Пріжмá, бувáла, нызкáрім, натрём пы шáпкі, — аб'éд!*

**ПРАЗАНТАВА́ННЕ** (прузунтувáньня) *н.* Ганьбаванне. *Усё рóўна як яé прузунтувáньня нéкыму вáжна.*

**ПРАЗАНТАВА́ЦЬ** (прузунтува́ць), -у́-ю, -у́-іш; *незак.* Ганіць, ганьбаваць. *Другіх лю́біш прузунтува́ць — пыглядзі ны сябе́. Каго́ ты прузунту́іш, ты ж аднаго́ яе́ но́хця ня сто́іш.*

**ПРАЗДРА́ВІЦЦА** (прыздра́віцца), -ўл-юся, -в-ісься; *зак. іран.* Быць вылаяным, аблаяным, выслухаць лаянку. *Прыздра́віўся і пашоў.*

**ПРАЗДРА́ВІЦЬ** (прыздра́віць), -ўл-ю, -в-іш; *зак.* 1. Павіншаваць. 2. *перан. іран.* Вылаяць, аблаяць. *За што ж цябе́ прыздра́вілі?*

**ПРАЗДРА́ЎЛЕНЫЙ** (прыздра́ўліный) *дзеепрым.* 1. Павіншаваны. 2. *перан. іран.* Вылаяны, аблаяны. *Ці ты прыздра́ўліным вярну́ўся?*

**ПРАЗДРАЎЛЯ́ЦЦА** (прыздрыўля́цца), -я́-юся, -я́-ісься; *незак. іран.* Выслухоўваць лаянку. *Узноў хо́чыш іціць прыздрыўля́цца?*

**ПРАЗДРАЎЛЯ́ЦЬ** (прыздрыўля́ць), -я́-ю, -я́-іш; *незак.* 1. Віншаваць. 2. *перан. іран.* Лаяць. *Каго́ ты ўзноў прыздрыўля́ла, ці ні куму́ сваю́?*

**ПРАННЁ** (праньнё) *н.* 1. Праннё (працэс). *Ныдае́ла се́літа праньнё, то аднаму́ пыпярі, то другому.* 2. Прадметы, якія трэба праць. *Карзінка прыньня́ сыбра́лыся як пыдня́ць.* 3. *перан. гумар.* Біццё, лупцоўка.

**ПРА́ННІК** (пра́ньнік) *м.* Пранік. *Зьдзе́лыў пра́ньнікыў штук пяць.*

**ПРАННІ́К** (праньні́к) *м.* і *ж.* Той, хто пярэ. *Прыньнікі́ пашлі́ к Матру́ні — у яе́ бальшу́шчыя кро́сны.*

**ПРАРЭ́ЗКА** (прарэ́зка) *ж.* Прарэшак. *Абмітля́іш прарэ́зкі і ныдзіва́й пальто́.*

**ПРА́ТАЦЬ** (пря́тыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Біць, лупцаваць. *Цябе́, знаць, пря́тыюць чуць ні ка́жын дзень.*

**ПРАЦЬ**, пяру́, пярэ́ш; *незак.* 1. Праць. 2. *перан. гумар.* Гл. **пра́таць.** *Табе́, ве́рна, ныра́віцца, каб цябе́ пра́лі.*

**ПРАЧА́Ў́РЫЦЬ** (прыча́ўріць), -і-іць; *зак.* Падсохнуць, прасохнуць. *Зімля́ прыча́ўріла. Паве́сіла руба́шкі, ніха́й прыча́ўріюць.*

**ПРО́ЛАБКА** (про́лыбка) *ж.* 1. Бездань, пелька, правал, прорва. 2. *перан.* Безнадзейная справа, занятак. *Цябе́ ніхто́ ні цягну́ў, палёз у про́лыбку сам і ра́зым сядзе́ць бу́дзіш.*

**ПРЫВІВА́ЦЦА** (прівіва́цца), -а́-юся, -а́-ісься; *незак.* 1. Прывівацца. 2. *перан.* Часова жыць. *Прівіва́лыся у сусе́дзіў: айдзе́ ноч, айдзе́ дзень.*

**ПРЫГРЭ́БКА** (прігрэ́бка) *ж.* Гл. **пагрэ́бка**. *І мо́ркву, і быракі́ згрузі́лі у прігрэ́бку.*

**ПРЫДРЫ́ГАЦЦА** (прідры́гыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *зак.* 1. Стаміцца, прытаптацца. *Ны зімляно́й рабо́ці—ні з гра́бількымі пругуля́цца: ла́дна прідры́гыісься.* 2. *іран.* Гл. **прыдры́гаць**. *Ні прідры́гыйся як учо́ра: зычыню́ дзьве́рі і ні палёзу табе́ ў по́ўныч аччыня́ць.*

**ПРЫДРЫ́ГАЦЬ** (прідры́гыць), -ы-ю, -ы-іш; *зак. іран.* Прыйсці. *Прідры́гыў падзь дзень.*

**ПРЫЗМУ́СТА** (прізму́ста) *неадабр.* 1. *м.* і *ж.* Той, хто паддражнівае. *Ня будзь такім прізму́стыю, як ма́лінькій.* 2. *ж.* Тое, чым паддражніваюць. *Высуніць прізму́сту с кырма́на—і дзе́ці пабе́глі за ім.* 3. *ж.* Гл. **прызмушча́нне**. *Біс прізму́сты ня мо́жыш ты, знаць, абыйцііцца.*

**ПРЫЗМУСЦІ́ЦЬ** (прізмусьці́ць), -шч-у́, -ц-і́ш; *зак. неадабр.* Паддражніць чым-н., паабяцаць

што-н. *Прізмусьці канхвётыю, зыбáвіцца і ні пыбягіць услéд.*

**ПРЫЗМУШЧÁННЕ** (прізмушчáньня) *н. неадабр.* Паддражніванне. *Ат твайгó прізмушчáньня тóлька сьлёзы.*

**ПРЫЗМУШЧÁЦЬ** (прізмушчáць) -á-ю, -á-іш; *незак. неадабр.* Паддражніваць дзіця чым-н., абяцаць што-н. *Наштó ж ты дзіцёнка прізмушчáіш, каб плáкыў?*

**ПРЫКЛÉТАК** (пріклéтык) *м.* Невялікі насціл пад напушчанай над ім страхой каля клеці, амбара. *Згрузілі хумуты ны пріклéтку.*

**ПРЫКÓПАК** (прікóпык) *м.* Невялікая капа, складзеная асобна або каля вялікай капы ці стога. *Усё на стог ні ўсьцягнўлі, с паўвóза прікóпкым пріложылі.* Памянш. прікóпычык.

√ **ПРЫЛЬНУ́ЦЬ** (прільнýць), -н-ý, -н-éш; *зак.* 1. Прыціснуцца; прыпасці. *Прільнýлі абéя к мáткіный крывáці.* 2. *перан.* Узяцца старанна за работу. *Прільнём хырашэнька — дык тут ну пуўдня рабóты.*

**ПРЫМІРÓЎКА** (пріміроўка) *ж.* Прэмія. *Дáлі дыяркі пріміроўку: харóшый атрéз.* Памянш. *звычайна іран.* прімірóвычка.

**ПРЫМÓЧКА** (прімóчка) *ж.* Прамакатка. *Тóлька былá прімóчка пуд рукáмі, а айдзé дзéлыся — сам ні знáю.*

**ПРЫМЫ́ЛЬНІК** *м.* Прылазнік. *Пастрóілі бáню сь цёплым прымы́льнікым.* Памянш. прымы́льнічык. *Чугункі ў прымы́льнічку.*

**ПРЫМЯКÁННЕ** (прімікáньня) *н.* Недакладная прымерка, прымярэнне. *Глядзі пóсьлі прімікáньня прішы́іш рукáў к вырытнікý.*

**ПРЫМЯКА́ЦЬ** (прімікáць), -á-ю, -á-іш; *незак.* Прымяраць (спехам, недакладна). *Прімікáла — кáжыцца, па рóсту було́, а пашы́ла — глядзéць нéнывышта.*

**ПРЫМЯКНУ́ЦЬ** (прімякнýць), -н-ý, -н-éш; *зак.* Прымерыць (спехам, недакладна). *Прімякнýў на вóка. Атлажы́, прімякнéш зáўтря.*

**ПРЫПУЦ́ІЦЦА** (пріпуцíцца), -ч-ýся, -ц-íсься; *зак.* Прыладзіцца, уладзіцца. *Пріпуцíўся ны завóдзі, дык хуць чылавéкым стáніць; у дварé ж нізавóшта ні брáўся.*

**ПРЫПУЦ́ІЦЬ** (пріпуцíць), -ч-ý, -ц-íш; *зак.* Прыладзіць, уладкаваць. *Тóлька пыдрасьлí—пріпуцíла дзяцéй к дзéлу.*

**ПРЫПУЧА́ЦЦА** (пріпучáцца), -á-юся, -á-ісься; *незак.* Прыладжвацца, уладкоўвацца; прывучацца. *Пріпучáйся трóху к дзéлу, ня хлы́нкый рýкі ў брю́кі.*

**ПРЫПУЧА́ЦЬ** (пріпучáць) -á-ю, -á-іш; *незак.* Прыладжваць, уладкоўваць; прывучаць. *Пріпучáй дзяцéй к рабóці з мылалéства.*

**ПРЫРА́МАК** (прірямык) *м.* Каўнер. *Купíў сарóчку з вы́шытым прірямкым.* Памянш. п р і р я́ м ы ч ы к.

**ПРЫ́СКАКАМ** (прíскыкым) *прысл.* Урыўкамі, прыхваткамі. *Гря́ды ні бідá, і прíскыкым выпылюцца.*

**ПРЫСКЕ́ПЛІВАЦЦА** (пріськéплівыцца) і **ПРЫСКЯ́ПЛІВАЦЦА**(пріськя́плівыцца),-ы-юся,-ы-ісься; *незак.* Прыставаць, чапляцца. *Пычáў пріськя́плівыцца к нейкім ны бызáрі і пулучы́ў — бóльшы ні стáніць лезьць.*

**ПРЫСКЯПА́ЦЦА** (пріськіпáцца), -á-юся, -á-ісься; *зак.* Прыстаць, прычапіцца. *І чагó пріські-*

*па́йся чылаве́к, я ж яго́ і знаць ні зна́ю, і пе́рвый раз у во́чы віджу.*

**ПРЫСТА́ІВАЦЬ** (прістáівыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак.* Спыняцца на кароткі час. *Ка́жын раз, як іду́ць ці зь вічарі́нкі, ці атку́ль яшчэ́, усігда́ прістáівыюць лі яе́ двыра́.*

**ПРЫСТО́ІЦЬ** (прісто́іць), -о́-ю, -о́-іш; *зак.* Спыніцца ненадоўга, пастаяць. *Ка́жыцца, прісто́іла адну́ сіку́ндычку, а ўжо й со́нца зайшло́.*

**ПРЫСТРА́ЦЬ** (прістря́ць), прістря́ну, прістря́ніш; *зак.* 1. Прысохнуць, прыстаць. 2. *перан.* Прыстаць, прычапіцца. *Прістря́ў і прістря́ў: по́йдзім пыабе́дыім ра́зым.*

**ПРЫ́ТНА** (пры́тна) *прысл.* Уседліва, старанна. *Пысядзе́ла трі дні прі́тна—і пасьці́лкі гато́вы.*

**ПУГНУ́ЦЬ**, -н-у́, -н-е́ш; *зак.* 1. Спалохаць, адагнаць. 2. *перан.* Распусціць, змарнаваць, збыць. *Е́та ж на́да, сто́лька гро́шы пугну́ў. Пугну́лі ба́ню пасьці́ зыда́рым.*

**ПУ́ЛЬГА́** *ж.* Пурга, завіруха. *Тыка́я пу́льга узьніла́ся, што й ні зна́ю, як ты до́йдзіш.*

**ПУ́РГАННЕ** (пу́ргыньня) *н. груб.* Абжорства. *Во пу́ргыньня—хут ты яго́ ве́дрымі кармі́.*

**ПУ́РГАЦЦА** (пу́ргыцца), -ы-іцца; *незак. груб.* Зал.-бессуб'ект. ад **пу́ргаць**. *Пу́ргыіцца яму́ як ні ў сваё.*

**ПУ́РГАЦЬ** (пу́ргыць), -ы-ю, -ы-іш; *незак. груб.* Жраць. *Ны рабо́ту ня ду́жа, а пу́ргыць то́лька пыдыва́й.*

**ПУ́РХАННЕ** (пу́рхыньня) *н.* Буркатня; лаянка. *Ду́жа тваё пу́рхыньня не́хта слу́хыіць.*

